# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 (86) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2019 г.

Лідскі
раён



**СтэфанВаршаўскі** (18.04.1904, г. Ліда - 5.05.1989, Сан-Дыега, ЗША), прфесар матэматыкі ўніверсітэтаў у Сэнт-Луісе, штат Місуры, у Мінесоце, у Сан-Дыега. Яго імем названая тэарэма **Нашыра-Варшаўскага** (Noshiro-Warschawski, аўтары вынайшлі яе незалежна адзін ад аднаго). У 1999-2000 гг. ва ўніверсітэце ў Сан-Дыега была прысуджана стыпендыя імя Стэфана Варшаўскага. Ільза, жонка Варшаўскага, якая памерла ў 2009 годзе, пакінула ўніверсітэту адзін мільён даляраў, зазначыўшы, што частка мае пайсці на развіццё прафесуры ў матэматычным дэпартаменце.

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 ( 86 ) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2019 г.


## У НУМАРЫ:





На першай старонцы вокладкі: стэла на трасе М-6 на ўездзе ў Лідскі раён з боку Менска, 2019 г. *Здымак С. Судніка.*



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 200 асобнікаў**
**8,5 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2184.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2019 г.**
**Часопіс надрукаваны 10.09.2019 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 2,47 руб.**
**індывід. 6 мес. - 4,94 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792







# Крыж на магіле паўстанцаў 1863 года



14 красавіка гарадзенскія, лідскія і бярозаўскія актывісты ўсталявалі крыж паўстанцам Кастуся Каліноўскага на кургане ў былым фальварку Стрэліца на Лідчыне.

Звесткі пра пахаванне паўстанцаў у Стрэліцы знайшоў лідскі краязнавец Леанід Лаўрэш ва ўспамінахаднаго з апошніх уладальнікаў маёнтка Ішчална Караля Лясковіча.

Існаванне магілы і крыжа пацвердзілі мясцовыя жыхары з в. Ігнаткаўцы Іван і Аркадзь Давідовічы.

Неўзабаве пад Лідай, у Песках быў зроблены крыж, які збіраліся паставіць у дзень пачатку студзеньскага паўстання. Але студзень - пачатак паўстання ў Польшчы і люты - пачатак паўстання на Беларусі - не самая лепшая пара для земляных работ. Справа адклалася.

Вырашана было паставіць крыж да 5 траўня -





дня смерці ваеннага начальніка Лідскага павета ў паўстанні Людвіка Нарбута.

Крыж у вышыню сягае 5,5 метраў, паведаміў гарадзенскі актывіст, наменік старшыні Партыі БНФ Вадзім Саранчукоў. Ён казаў, што калі ўсталёўвалі крыж, проста фізічна адчувалася ўдзячнасць паўстанцаў за тое, што не забылі іхнюю ахвяру.

- Так, мы памятаем! І Касцюшку, і Каліноўскага, і случакоў, і Курапаты, - сказаў Саранчукоў.

Калі напрасткі, то за тры кіламетры ад крыжа знаходзіцца паўстанцкая капліца на могілках былога засценка Станкевічы. Капліца паводле легенды была пабудавана паўстанцамі за адну ноч.

Такім чынам, у раёне Голдава ўзнік яшчэ адзін мемарыял паўстання 1863 года.

***Паводле СМІ.***

# Збор твораў Міхала Шымялевіча

*22 траўня на сходзе лідскіх літаратараў у Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы была прадстаўлена першая кніга з серыі "Лідскі кнігазбор", заснаванай Лідскай гарадской арганізацыяй ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" і Гарадзенскім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў. Гэта **"Збор твораў"** найвыбітнейшага лідскага гісторыка Міхала Шымялевіча, выдадзены ў гарадзенскім выдавецтве "ЮрСаПрынт".*

"Збор твораў" - першая і адзіная кніга Міхала Шымялевіча, якая выйшла праз 60 гадоў пасля яго смерці (да рэвалюцыі выходзілі дзве невялікія брашуркі, пры Польшчы былі напісаны і надрукаваны ў перыядычным друку многія артыкулы, але кніг не было).

"Збор твораў" выдаўцы не адважыліся назваць "Поўным зборам твораў", бо вядома, што ў нейкай газеце застаўся не знойдзены яшчэ адзін артыкульчык, а, можа, і яшчэ што дзе схавалася.

Тым не менш у "Збор твораў" увайшлі наступныя працы, згрупаваныя па раздзелах:

**Частка 1. Ліда і мястэчкі Лідчыны**

1. Горад Ліда і Лідскі замак. Надрукавана: Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57. Пераклад Станіслава Судніка.
2. Горад Ліда ў 1938 г. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Miasto Lida w 1938 roku // Ziemia Lidzka. 1938. № 11. S. 143-146. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
3. Белагруд. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Bialohrud // Ziemia Lidzka. 1936. № 2. S. 5-6.; 1936. № 3-4. S. 2-3.; 1936. № 5. S. 2.; 1936. № 6. S. 11-12; 1936. № 7. Пераклад Станіслава Судніка.
4. Борці і Барцянская воласць. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Borcie i wlosc Borcianska // Ziemia Lidzka. 1939. № 4-5. S. 109-117.; № 6. S. 161-168. Пераклад Станіслава Судніка.
5. Нататкі да манаграфіі Жалудка. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Szkice do monografii Zoludka // Ziemia Lidzka. 1937. № 2. S. 22-23; 1937. № 3. S. 27-28; 1937. № 4. S. 45-46; 1937. № 5. S. 50-52; 1937. № 9. S. 100-101; 1937. № 10. S. 106-107; 1937. № 11. S. 121-122; 1937. № 12. S. 131-132. Пераклад Станіслава Судніка.
6. Дворышча і Тракелі. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Dworzyszcze i Trokiele // Ziemia Lidzka. 1939. № 3. S. 82-91. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
7. Тры вёскі ў паўстанні 1863 г.: Дубічы, Шаўры, Нача. Рукапіс захоўваецца: Michal Szymielewicz: Historia wsi Dubicze i Nacza na Litwie // Fundacja-Zaklad narodowy im. Ossolnskich. Katalog Rekopisow akcesyjnych Akc. 17/56. S. 1-8. Пераклад Станіслава Судніка.
8. Яўрэі Шчучына. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Zydzi w Szczuczynie Nowogrodzkim // Ziemia Lidzka. 1938. № 1. S.13-14. Пераклад Леаніда Лаўрэша.




***Міхал Шымялевіч. Збор твораў.***
***Укладальнік Леанід Лаўрэш.***
***Рэдактар Станіслаў Суднік.***
***Выдавецтва "ЮрСаПрынт", Гародня.***
***Фармат 90х80/16. Ум. друк. арк. 23,8.***
***326 ст. Наклад 110 экз.***

9. Спроба класіфікацыі зямель. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Proby klasyfikacji gruntow na ziemi lidzkiej // Ziemia Lidzka. 1938. № 7-8. S. 95-97. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

**Частка 2. Даўнейшае Наваградскае ваяводства**

10. Даўнейшае Наваградскае ваяводства. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Dawne wojewodztwo nowogrodzkie // Ziemia Lidzka. 1938. № 2. S. 19-21.; 1938. № 3. S. 31-32.; 1938. № 4. С. 43-45.; 1938. № 5-6. С. 63-65. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

**Частка 3. Адукацыя на Лідчыне**

11. Пра гімназію, якая раней існавала ў Лідзе. Надрукавана: Михаил Шимелевич. О гимназии, которая ранее существовала в Лиде // Лидское Слово. № 5, 14 декабря 1912. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
12. Гісторыя лідскіх піяраў. Надрукавана: Szymielewicz

Michal. Dzieje pijarow lidzkich // Ziemia Lidzka. 1936. № 9. S. 2-4.; 1937. № 1. S. 2-3.; 1937. № 3. S. 32-33.; 1937. № 4. S. 44.; 1937. № 6-7. S. 62-67. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

**Частка 4. Людзі Лідчыны**

13. Адкуль паходзіць род Адама Міцкевіча. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Skad pochodzi rod Adama Mickiewicza // Ziemia Lidzka. 1938. № 9. S. 113-116. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
14. Алхімік з Шайбакполя. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Alchemik z Szejbakpolu // Ziemia Lidzka. 1936. № 6. S. 3. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
15. Стары дакумент. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Stary dokument // Ziemia Lidzka. 1938. № 12. S. 151-153. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
16. Са старой кніжкі. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Ze starej ksiazki // Ziemia Lidzka. 1937. № 12. S.140-142. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

**Частка 5. Дарогі і пошта Лідчыны**

17. Каралеўскі тракт. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Trakt krolewski // Ziemia Lidzka. 1936. № 2. S. 9-11. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
18. Польскі тракт. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Trakt polski // Ziemia Lidzka. 1937. № 8. S. 82-83. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
19. Даўняя пошта і тэлеграф на Лідчыне. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Dawna poczta i telegraf w ziemi lidzkiej // Ziemia Lidzka. 1939. № 1. S. 1-9.; 1939. № 2. S. 53-63. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
20. Ангарыя на Лідчыне. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Angaria w Ziemi Lidzkiej // Ziemia Lidzka. 1938. № 10. S. 125-128. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

**Частка 6. Нашы рэкі**

21. Нёман. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Nieman // Ziemia Lidzka. 1938. № 5-6. S.73-78. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
22. Рака Лебяда і яе прытокі. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Rzeka Lebioda i jej doplywy // Ziemia Lidzka. 1937. № 6-7. S. 72-73. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
23. Рэкі Гаўя і Жыжма. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Rzeki Gawja i Zyzma // Ziemia Lidzka. 1939. № 7-8. S. 209-211. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
24. Рака Дзітва. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Rzeka Dzitwa // Ziemia Lidzka. 1936. №1. S. 5-6. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

**Частка 7. Нашы дрэвы**

25. Сасна. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Nasze drzewa. Sosna // Ziemia Lidzka. 1938. № 1. S. 7-8. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
26. Дуб. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Nasze drzewa. Dab // Ziemia Lidzka. 1939. № 4-5. S. 133-138. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
27. Бярозавы сок. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Sok brzozowy // Ziemia Lidzka. 1939. № 4-5. S.144-145. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

**Частка 8. Этнаграфія**

28. Літоўскія татары. Этнаграфічны нарыс. Надрукавана: Шимелевич М. Литовские татары. Этнографический очерк // Виленский календарь на 1906 простой год / Изд. под ред. Ф. Н. Добрянского. Вильна, 1905. Отдел исторический. С. 63-74.; Шимелевич М. Литовские татары. Этнографический очерк. Вильно, 1905. - 14 с. Пераклад Станіслава Судніка.
29. Народная варажба. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Wrozby ludowe // Ziemia Lidzka. 1936. № 9. S. 11-12. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
30. Юр'я. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Jurje // Ziemia Lidzka. 1937. № 4. S. 40.; 1937. № 5. S. 54-56.; 1938. № 4. S. 52-53. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
31. Вяселле. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Wesele // Ziemia Lidzka. 1939. № 2. S. 41-45. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

**Частка 9. Гістарычныя камяні Лідчыны**

32. Гістарычныя камяні Лідчыны. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Zabytkowe kamienie // Ziemia Lidzka 1937. № 9. S.102-103.; 1937. № 10. S. 110-112. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

**Частка 10. Лідскія могілкі**

33. У цішы могілак… Надрукавана: Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 117-120. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
34. З таго свету. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Z tamtego swiata // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 125-127. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

**Частка 11. Мовазнаўства**

35. Трохі пра пакрыўджаны J. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Cos o skrzywdzonem J. // Ziemia Lidzka. 1936. № 8. S. 5-7. Пераклад Станіслава Судніка.

**Частка 12. Успаміны, лісты, успаміны пра Шымялевіча**

36. Ліда ў гады Вялікай вайны. Надрукавана: Szymielewicz Michal. Lida w latach wielkiej wojny // Ziemia Lidzka. 1939. № 7-8. S. 185-198. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
37. Ліст Міхала Шымялевіча Драмовічу, дасланы ў рэдакцыю "Лідскай зямлі" Вітольдам Драмовічам. Надрукавана: Ziemia Lidzka. 1999. № 2 (37). Пераклад Станіслава Судніка.
38. Ліст напісаны ў 1963 г. Міхалам Шымялевічам сябру Яну Сегеню ў Варшаву. З асабістага архіва Януша Сегеня. Пераклад Леаніда Лаўрэша.
39. Успаміны Яна Сегеня пра блізкага сябра свайго бацькі Міхала Шымялевіча. З асабістага архіва Януша Сегеня. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

**Частка 13. Рукапісы**

40. Высяленне ў Казахстан у 1940 г. значнай часткі жыхароў Лідскага павета. Рукапіс захоўваецца: Michal Szymielewicz. Wysiedlenie do Kazachstanu w r. 1940 znacznej czesci mieszkancow powiatu lidzkiego // Fundacja-Zaklad narodowy im. Ossolnskich. Katalog Rekopisow akcesyjnych Akc. 26/56. S. 9-89. Пераклад Леаніда

Лаўрэша.

41. Ішымскі стэп і яго мінулае. Рукапіс захоўваецца: Michal Szymielewicz. Step Iszymski i jego przeszlosc // Fundacja-Zaklad narodowy im. Ossolnskich. Katalog Rekopisow akcesyjnych Akc. 18/56. S. 95-163. Пераклад Станіслава Судніка.

*Як бачна, большасць твораў Міхала Шымялевіча была надрукавана пры цары і Польшчы. Значная частка іх у перакладзе на беларускую мову прайшла цераз "Лідскі летапісец" і "Наша слова". А такі вялікі нарыс, як "Ішымскі стэп і яго мінулае" не друкаваўся ніколі нідзе, перакладаўся з рукапісу і друкуецца ў кнізе ўпершыню.*

**Міхал Шымялевіч** (18.10. 1879 - 11.01.1969, Michal Szymielewicz (Szymilewicz)).

У адным са сваіх артыкулаў - "Borcie i wlosc Borcianska" - Міхал Шымялевіч паведаміў, што, згодна з інвентаром Барцянскага староства 1765 г., барцяк вёскі Паўлока Міхал Шымялевіч меў 3/4 валокі зямлі і плаціў штогод 30 злотых, а згодна з інвентаром 1798 г., ягоны сын Марцін Шымялевіч меў 1 дым (яго сям'я: 2 мужчынскія душы і 3 жаночыя) і 1 вала, 4/8 "osiadlych" валокі і 4/8 "pryjemnych" валокі, штогод адбываў паншчыну 2 дні ў тыдзень на дворнай зямлі і плаціў 40 злотых падатку. Другі сын Міхала, Ян, перасяліўся ў Падзітву. Сын Марціна і ўнук Міхала, таксама Міхал Шымялевіч, нарадзіўся ў Паўлоцы ў 1801 г. (маці Мар'яна з Вішнеўскіх) і жыў на адной валоцы зямлі сям'і сваёй жонкі ў вёсцы Пеляса. Згодна з інвентаром 1832 г., ён адбываў на дворнай зямлі ў Палашках ужо 3 дні паншчыны акрамя іншых абавязкаў і выплат. Тут, у Пелясе, 6 жніўня 1830 г. нарадзіўся бацька гісторыка - Ян Шымялевіч, сын Міхала.

Міхал Шымялевіч пачаў адукацыю ў Лідскай павятовай вучэльні. З памятнай кніжкі Віленскай губерні за 1901 г. бачна, што на пачатку стагоддзя малады Шымялевіч ужо працаваў у Лідскай судоваміравой акрузе, канцылярыі з'езду міравых суддзяў, памочнікам сакратара ("*на пасадзе з 12 сакавіка 1898 г., каталіцкага веравызнання*") .

У 1915 г. Шымялевіч пакінуў родны горад, стаў бежанцам. Пасля 1918 г. ён вярнуўся ў Ліду і пераажыў усе навальніцы, якія прайшлі праз наш горад. Пасля стварэння ў кастрычніку 1926 г. у Лідзе гуртка Таварыства беларускай школы Міхал Шымялевіч стаў сябрам гэтай арганізацыі. У 1927 г. сябар ТБШ Міхал Шымялевіч удзельнічаў у выбарах у Раду г. Ліды і адзіны ад лідскага ТБШ прайшоў у Раду. 13 красавіка 1940 г. 60-гадовы даследчык разам са сваёй жонкай і малодшай дачкой, жонкай польскага афіцэра, быў кінуты ў вагоны для быдла і разам з іншымі тысячамі лідзян вывезены паміраць у казахстанскі стэп, сям'ю пасялілі ў Палудзінскім раёне Паўночна-Казахстанскай вобласці, за 40 кіламетраў ад Петрапаўлаўска, а ягоны дом плошчай 71,41 $м^2$ у Лідзе быў канфіскаваны. Там у 1943 годзе атрымаў яшчэ 10 гадоў ППЛ, але ў 1948 г. быў вывезены ў Польшчу (па амністыі). Жыў у Сопаце з сям'ёй. Працаваў вахцёрам. Памёр 11 студзеня 1969 года. Рэабілітаваны ў 1992 г.

Міхал Шымялевіч не напісаў ні аднаго твора па-беларуску. Аднак жа першая яго сапраўдная кніжка выйшла менавіта па-беларуску.

6 ліпеня ў канферэнц-зале Лідскага замка прайшла прэзентацыя Збору твораў Міхала Шымялевіча, якая распачала серыю "Лідскі кнігазбор". Было вельмі важна правесці прэзентацыю ў замку, бо менавіта артыкул Міхала Шымялевіча пра Ліду і Лідскі замак, надрукаваны ў "Виленском календаре" ў 1906 годзе паклаў пачатак вывучэнню гэтага помніка нашай гісторыі



***Леанід Лаўрэш і Аляксандр Колышка***

Укладальнік кнігі Леанід Лаўрэш спыніўся больш на асобе Міхала Шымялевіча, у прыватнасці, на яго нацыянальнасці, бо той на крутых паваротах гісторыі пісаў сябе то барцяком, то беларусам, то палякам, то проста тутэйшым, што, мабыць, найбольш адпавядае праўдзе.

Рэдактар выдання Станіслаў Суднік спыніўся на тым, як ствкралася кніга, як спрыялі ёй вышнія сілы, бо артыкул М. Шымялевіча пра літоўскіх татараў, надрукаваны ў "Виленском календаре" ў 1905 годзе, быў знойдзены Леанідам Лаўрэшам на нейкім татарскім сайце ўжо тады, калі кніга была гатовая для перадачы ў выдавецтва. У кнізе змешчаны вялікія матэрыялы, якія не друкаваліся нідзе раней, а перакладаліся з рукапісаў, знойдзеных у бібліятэцы Асалінскіх ва Уроцлаве.

Аляксандр Колышка, старшыня Таварыства польскай культуры на Лідчыне, які атрымаў слова наступным, у свой час шмат зрабіў, каб сабраць усе даваенныя нумары "Ziemi Lidzkiej", а таксама, каб у новы час надрукаваць многія артыкулы Міхала Шымялевіча. Сп. Колышка вельмі станоўча ўспрыняў выхад кнігі і толькі задаўся пытаннем, чаму палякі не выдалі такую кнігу раней па-польску.

Такім чынам вялікая справа па выданні спадчыны Міхала Шымялевіча завершана. Па-за кнігай застаўся невялікі артыкул пра Салечнікі, які вядома, што быў, але знайсці які пакуль не ўдалося.

Асобнікі кнігі перададзены ў Лідскі музей, у Лідскую раённую бібліятэку, у іншыя зацікаўленыя ўстановы. Прыватныя асобы могуць набыць кнігу ў шапіку Лідскага музея і ў лідскім "Кніжным свеце". Наклад невялікі, паспяшайцеся.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# КРОНІКА ЛІДЫ




У красавіку ў Лідскай друкарні выйшла кніга вершаў лідскага паэта Міхася Мельніка “З табою”.



25 красавіка ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы прайшлі "VII лідскія чытанні. Гарадзеншчына: летапіс працягваецца", прымеркаваныя да 75-годдзя ўтварэння Гарадзенскай вобласці. На чытанні былі запрошаны работнікі бібліятэк, навуковыя супрацоўнікі Лідскага гістарычна-мастацкага музея, краязнаўцы, настаўнікі і вучні школ Лідчыны.



26 красавіка культурнай сталіцай Беларусі на 2020 год выбрана Ліда. Такая інфармацыя размешчана на сайце Міністэрства культуры.



3 траўня ў Менску прайшоў фінал конкурсу прыгажосці "Каралева Вясна - 2019". Першае месца заняла Таццяна Шчэрбач з Ліды, якая вучыцца ў Гарадзенскім універсітэце імя Янкі Купалы.

9 чэрвеня Таццяна Шчэрбач стала "Віца-каралевай студэнцтва" на міжнародным конкурсе ў Стаўрапалі.




У траўні ў Лідзе выйшла кніга вершаў лідскага паэта Алеся Мацулевіча “Горад-карабель”.



10 чэрвеня цалкам адкрылі для руху ўсе 4 паласы трасы М-6 "Менск-Гародня", у тым ліку на ўсёй тэрыторыі Лідскага раёна. Цяпер дорога ў сталіцу і назад стала шмат бяспечней.




19 чэрвеня ў Лідскім райвыканкаме Ордэн Маці атрымалі лідзянкі Іна Радзецкая і Наталля Нікіціна.





21-23 чэрвеня вядомы беларускі спявак Зміцер Вайцюшкевіч (з Бярозаўкі) знаходзіўся ў Лондане. Ён выступіў у Беларускім доме Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. Спадар Мікола Пачкаеў уручыў Змітру Вайцюшкевічу ад імя Рады БНР медаль да 100-годдзя БНР.

# Лідчына ў 2018 годзе

## I. Інфармацыя пра вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Лідскага раёна за 2018 год

### 1. Рэальны сектар эканомікі

#### *1.1. Прамысловы комплекс*

На долю раёна прыходзіцца 10,7% прамысловай вытворчасці вобласці. Аснову прамысловага комплексу ствараюць 29 прадпрыемстваў, сярэдняспісавая колькасць працаўнікоў на якіх складае 13,3 тыс. чалавек.

Прамысловымі арганізацыямі раёна за 2018 год выраблена прадукцыі ў фактычных адпускных цэнах, уключаючы кошт давальніцкай сыравіны, на суму 1047,4 млн. рублёў, тэмп росту - 111,1%.

Індэкс прамысловай вытворчасці па наборы тавараў- прадстаўнікоў у базісных цэнах 2016 года за 2018 год - 111,3%.

У аб'ёмах вытворчасці Лідскага раёна найбольшую ўдзельную вагу займае вытворчасць прадуктаў харчавання, напояў, хімічных прадуктаў, вылічальнай, электроннай і аптычнай апаратуры.

У апрацоўчай прамысловасці ў 2018 годзе індэкс прамысловай вытворчасці склаў 112,1% і забяспечаны вышэй узроўню 2017 года ў вытворчасці: прадуктаў харчавання, напояў і тытунёвых вырабаў - 105,3%, хімічных прадуктаў - 132,1%, вылічальнай, электроннай і аптычнай апаратуры - 117,5%, электраабсталявання - 126,5%, вырабаў з дрэва і паперы - 128,0%, коксу і прадуктаў нафтаперапрацоўкі - 121,4%, гумовых і пластмасавых вырабаў, іншых неметалічных мінеральных прадуктаў - 150,7%, металургічных, гатовых металічных вырабаў, акрамя машын і абсталявання - 106,6%, машын і абсталявання, не ўключаных у іншыя групоўкі, - 117,5%.

У горназдабыўной прамысловасці ў 2018 годзе індэкс прамысловай вытворчасці склаў 123,1%.

У цэлым у раёне за 2018 год павялічыўся выпуск найважных відаў прамысловай прадукцыі (таварны выпуск): ангідрыду фталевага, іншых вырабаў са шкловалакна, бінокляў, манокляў і іншых аптычных тэлескопаў, прылад на вадкіх крышталях, плугоў адвальных трактарных, комплексаў зернеачышчальна-сушыльных, абсталявання складскога для захоўвання сельскагаспадарчай прадукцыі, машын для грамадскіх работ, брыкетаў, мяса сельскагаспадарчай птушкі, масла і тлушчу жывёльнага іншага, малака і вяршкоў нязгушчаных і непадсалоджаных тлустасцю больш за 6%, мукі дробнага памолу пшанічнай ці пшанічна-жытняй, вырабаў макаронных, супоў і булёнаў і нарыхтовак для іх падрыхтоўкі, камбікорму поўнарацыённага і камбікорму-канцэнтрату для сельскагаспадарчых жывёл, піва, вады мінеральнай і газаванай непадсалоджанай і неараматызаванай, напояў безалкагольных іншых.

Аб'ём адгружанай прамысловай прадукцыі за 2018 год склаў 1016,6 млн. рублёў, з яго аб'ём адгружанай інавацыйнай прадукцыі - 62,2 млн. рублёў ці 6,1%.

Найбольшую ўдзельную вагу адгружанай інавацыйнай прадукцыі - забяспечылі: ААТ "Лідскі ліцейна-механічны завод", ААТ "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш", ААТ "Завод "Оптык", ААТ "Лідскі завод электравырабаў", ЗП "Белтэкс Оптык", ААТ "Шклозавод "Нёман", ААТ "Лідаграпраммаш", ААТ "Лакафарба", СЗАТ "ЛІПЛАСТ-Спб", ААТ "Мінойтаўскі рамонтны завод".

У 41 арганізацыі раёна ўкаранёная сістэма мэнэджменту якасці на адпаведнасць міжнародным стандартам ICO серыі 9001-2015, з іх у 17 прамысловых арганізацыях.

#### *1.2. Сельская гаспадарка*

За 2018 год выраблена валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі ў супастаўных цэнах на суму 92,3 млн. рублёў, тэмп росту склаў 87,4%.

Павялічылі вытворчасць валавай прадукцыі КСУП "Песковцы" і свінагадоўчы комплекс "Прагрэс" ААТ "Лідахлебапрадукт".

Удзельная вага прадукцыі раслінаводства ў агульным аб'ёме сельскагаспадарчай прадукцыі склала 37,5%, у тым ліку: збожжа - 9,4%, алеясем'я рапсу - 2,9%, бульбы - 3,1%, цукровых буракоў- 3,1%, гароднiны - 2,8%, пладоў - 3,9%, кармоў з травы - 8,6%.

Справаздачны год быў спрыяльным для вырошчвання пладова-ягаднай прадукцыі.

#### *1.3. Будаўніцтва*

Аб'ём будаўніча-мантажных работ за 2018 год склаў 196,1 млн. рублёў ці 149,2% да 2017 года ў супастаўных цэнах.

Выкананне параметру забяспечана за кошт рэканструкцыі аўтадарогі М-6 Менск-Гародня-мяжа Рэспублікі Польшча (Брузгі) у Лідскім раёне (РУП "Менскаўтадар-Цэнтр").

Будаўнічым комплексам раёна выканана падрадных работ на суму 101,6 млн. рублёў, што склала 113,9% да 2017 года ў супастаўных цэнах.

За 2018 год уведзены ў эксплуатацыю 833 кватэры агульнай плошчай 67,941 тыс. квадратных метра, у тым ліку: пабудаваны 702 кватэры ў шматкватэрных жылых дамах агульнай плошчай 42,362 тыс. квадратных метра, 131 кватэра плошчай 25,579 тыс. квадратных метра індывідуальнай жылой забудовы.

### *1.4. Гандаль*

Доля Лідскага раёна ў агульным аб'ёме рознічнага тавараразвароту Гарадзенскай вобласці складае 13,5%.

Аб'ём рознічнага тавараразвароту гандлю праз усе каналы рэалізацыі ў цэлым па раёне за 2018 год у фактычных цэнах склаў 620,8 млн. рублёў. Тэмп росту ў супастаўных цэнах да 2017 года - 106,0%.

У структуры тавараразвароту арганізацый гандлю раёна пераважаюць харчовыя тавары (55,4%).

Гандлёвымі арганізацыямі праведзена 24 кірмашы, 111 выстаў-продажаў, 1373 распродажы тавараў па зніжаных коштах, 102 няцэнавыя прома-акцыі.

Больш чым на 90% спажывецкі попыт задавальняецца за кошт тавараў беларускіх вытворцаў па мясе і мясных прадуктах, масле сметанковым, сырах, яйках, вінах ігрыстых, уключаючы шампанскае, вінах пладовых, гарэлцы, лікёрах і лікёрагарэлачных вырабах, крупах аўсяных, цукру і цукразамяняльніках, маторным паліве, панчошна-шкарпэткавых вырабах, плітцы керамічнай.

### *1.5. Транспартная дзейнасць*

За 2018 год пасажырскім транспартам супольнага карыстання раёна перавезена 19,0 млн. пасажыраў. Пасажыразварот склаўся на ўзроўні 122,9 млн. пасажыракіламетраў, тэмп - 104,3%.

Грузавым аўтатранспартам раёна за 2018 год перавезена 1,8 млн. тон грузаў, тэмп росту - 107,0%. Грузазварот склаў 333,2 млн. тона-кіламетраў, тэмп - 107,7%.

## 2. Замежнаэканамічная дзейнасць

### *2.1. Экспарт тавараў*

Замежнагандлёвы зварот тавараў арганізацый раёна за 2018 год склаў 474,7 млн. даляраў ЗША.

Аб'ём экспарту - 330,9 млн. даляраў ЗША ці 104,5% да ўзроўню 2017 года. Аб'ём імпарту - 143,8 млн. даляраў ЗША, тэмп росту 115,1%.

Сальда знешняга гандлю таварамі склалася дадатнае ў памеры 187,1 млн. даляраў ЗША.

Удзельная вага экспарту арганізацый раёна ў экспартных аб'ёмах вобласці - 14,4%.

Асноўны партнёр - Расійская Федэрацыя, удзельная вага якой у агульным аб'ёме экспарту раёна 59,3%. Прадпрыемствы ажыццяўлялі гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва з 69 рэгіёнамі Расійскай Федэрацыі.

З мэтай наладжвання супрацоўніцтва Лідскі раён у 2018 годзе, наведалі дэлегацыі Літвы, Украіны, Польшчы, ЗША, Узбекістана, Малдовы, Ізраіля, Фінляндыі.

### *2.2. Экспарт паслуг*

Па выніках працы за 2018 год аб'ём экспарту паслуг па арганізацыях Лідскага раёна склаў 14983,0 тыс. даляраў ЗША ці 100,8% да ўзроўню 2017 года. Імпарт паслуг - 7822,6 тыс. даляраў ЗША, тэмп росту 155,0%. Атрымана дадатнае замежнагандлёвае сальда ў памеры 7160,7 тыс. даляраў ЗША.

Удзельная вага экспарту паслуг арганізацый раёна ў экспарце паслуг вобласці складае 4,7%.

## 3. Інвестыцыйная і інавацыйная дзейнасць

### *3.1. Інвестыцыі ў асноўны капітал*

Па выніках 2018 года арганізацыямі Лідскага раёна скарыстана 256,0 млн. рублёў інвестыцый у асноўны капітал, тэмп росту да 2017 года -135,9%.

Па арганізацыях, падпарадкаваных рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, аб'ём інвестыцый склаў 140,4 млн. рублёў, рост - у 2,1 раза.

Арганізацыямі, падпарадкаванымі мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, скарыстана 55,4 млн. рублёў, тэмп росту - 114,7%.

Арганізацыямі, не меўшым ведамаснай падпарадкаванасці, - 60,2 млн. рублёў, тэмп росту - 81,2%.

Тэхналагічная структура інвестыцый:

- аб'ём інвестыцый на выкананне будаўніча-мантажных работ склаў 196,1 млн. рублёў;
- выдаткі на набыццё машын, абсталявання, транспартных сродкаў - 41,7 млн. рублёў;
- іншыя работы і выдаткі - 18,2 млн. рублёў.

### *3.2. Замежныя інвестыцыі*

Аб'ём паступлення прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове (без уліку запазычанасці за тавары, работы, паслугі) за 2018 год склаў 6697,5 тыс. даляраў ЗША.

## 4. Рынак працы і палітыка занятасці

### *4.1. Працаўладкаванне грамадзян на зноў створаныя працоўныя месцы*

За 2018 год колькасць працаўладкаваных грамадзян на зноў створаныя працоўныя месцы склала 593 чалавекі пры заданні на год - 522 чалавекі.

### *4.2. Рынак працы і палітыка занятасці*

Сітуацыя ў сферы занятасці і беспрацоўя ў цэлым па раёне характарызуецца захаваннем станоўчых тэндэнцый.

У кіраванне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Лідскага райвыканкама па садзейнічанне ў працаўладкаванні за 2018 год звярнуліся 3276 чалавек, з іх 1991 (60,8%) зарэгістраваных беспрацоўных.

На 1 студзеня 2019 г. лік беспрацоўных, якія стаяць на ўліку, склаў 221 чалавек, узровень беспрацоўя - 0,4% да колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва.

Лік вакансій, заяўленых наймальнікамі ў служ-

бу занятасці, на канец снежня 2018 года склаў 852 вольных працоўных месцы.

У сярэднім на адну заяўленую вакансію на 1 студзеня 2019 г. прыпадае 0,3 беспрацоўных.

З пачатку года з улікам наяўных вакансій працаўладкавана 2458 чалавек, у тым ліку на сталую працу - 1565 беспрацоўных. Удзельная вага працаўладкаваных грамадзян, якія звярнуліся ў службу занятасці, - 60,5%.

У мэтах дадатковай матэрыяльнай падтрымкі беспрацоўных і іншых незанятых грамадзян арганізоўваліся аплачваныя грамадскія работы, у якіх прынялі ўдзел 470 чалавек.

Для набыцця досведу практычнай працы на працоўныя месцы працаўладкавана 20 беспрацоўных.

Аказана садзейнічанне ў арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці шляхам выдзялення субсідый 19-ці беспрацоўным.

Праведзена 14 кірмашоў вакансій, у якіх прынялі ўдзел 60 наймальнікаў і 282 грамадзяніны.

#### *4.3. Прыбыткі і сацыяльная абарона насельніцтва*

Органамі дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання раёна прымаюцца меры па павышэнні ўзроўню заработнай платы як у арганізацыях рэальнага сектара эканомікі, так і ў бюджэтнай сферы.

Сярэднямесячная заработная плата аднаго працаўніка Лідскага раёна за студзень-снежань 2018 года склала 766,0 рублёў (тэмп росту - 116,6%), за снежань - 886,2 рублёў (тэмп росту - 108,3%).

Тэмп росту рэальнай заработнай платы за студзень-снежань 2018 года -112,2%.

## *II. Асноўныя кірункі сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна*

#### *1. Фінансавы стан арганізацый*

За 2018 год сума выручкі ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг у цэлым па раёне склала 1722,4 млн. рублёў, тэмп росту да 2017 года - 115,0%.

Прыбытак ад рэалізацыі прадукцыі склаў 88,4 млн. рублёў, чысты ўбытак - 67,7 млн. рублёў (у 2017 годзе чысты ўбытак - 22,8 млн. рублёў).

Узровень рэнтабельнасці рэалізаванай прадукцыі па раёне - (+)6,1% (у 2017 годзе - (+)8,7%), рэнтабельнасці продажаў (+)5,1% (у 2017 годзе - (+)7,1%). Удзельная вага рэнтабельных арганізацый - 80,7%.

#### *2. Энергаашчаджэнне*

Паказчык па энергаашчаджэнні з улікам эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў за кошт укаранення энергаэфектыўных мерапрыемстваў за 2018 год склаў (-)5,6%.

Аб'ём эканоміі - 9,2 тыс. тон умоўнага паліва пры планаваным значэнні 8,9 тыс. тон умоўнага паліва.

Штогод распрацоўваюцца мерапрыемствы па энергаашчаджэнні.

#### *3. Адукацыя*

Ахоп дзяцей ад 3 да 6 гадоў дашкольнай адукацыяй складае 97,3%, у 2017 годзе - 96,7%.

Ва ўстановах дашкольнай адукацыі функцыянуе 151 група кароткачасовага знаходжання для дзяцей ад 1 да 3 гадоў на платнай аснове (1581 дзіця), 2017/2018 навучальны год - 131 група (1374 дзіцяці).

Сярэдні бал навучэнца ў 2017/2018 навучальным годзе 7,6, адсотак якасці ведаў - 79,8%.

На абласной алімпіядзе па навучальных прадметах навучэнцамі Лідскага раёна заваявана 78 дыпломаў, на рэспубліканскай - 16, у 2017 годзе - 67 і 16 адпаведна.

Упершыню срэбны медаль на 25-ай Міжнароднай алімпіядзе па фізіцы "Туймаада" заваяваў навучэнец СШ № 17 Сяргей Лаза, адзіны прадстаўнік ад Рэспублікі Беларусь (настаўнік Тэжык Д.А.). Навучэнцам заваявана 3-е месца на 6-й Міжнароднай алімпіядзе па эксперыментальнай фізіцы.

Па выніках рэспубліканскай канферэнцыі даследчых прац навучэнцаў заваявана 3 прызавыя месцы, за 2017 год - 2.

Па выніках абласнога конкурсу "Кампутар. Адукацыя. Інтэрнэт" атрымана 4 дыпломы.

Па выніках цэнтралізаванага тэставання стобальные сертыфікаты атрымалі 5 выпускнікоў.

На 1 студзеня 2019 г. прызнаны ў сацыяльнанебяспечным становішчы 331 непаўнагадовы з 173 сем'яў, на 1 студзеня 2018 г. - 364 непаўнагадовых з 194 сем'яў. Стаяць на ўліку, як маючыя патрэбу ў дзяржаўнай абароне 36 дзяцей з 18 сем'яў, на 1 студзеня 2018 г. - 36 дзяцей з 17 сем'яў. Адсотак вяртання дзяцей на выхаванне ў сям'ю - 44,2%, на 1 студзеня 2018 г. - 52,2%.

За 2018 год выяўлена 40 дзяцей, пакінутых без апекі бацькоў. Уладкованы на сямейныя формы выхавання 36 непаўнагадовых (90,0%), 1 непаўнагадовы залічаны на дзяржзабеспячэнне ва ўстанову прафесійна-тэхнічнай адукацыі (3,6%).

На 1 студзеня 2019 г. на ўліку ў кіраванні адукацыі стаяць 172 падапечныя/126 апякунскіх сем'яў, 52 прыёмныя дзіцяці/19 прыёмных сем'яў, 21 выхаванец/2 дзіцячыя дамы сямейнага тыпу.

У кіраванні адукацыі стаяць на ўліку 268 асобаў, абавязаных пакрываць выдаткі на ўтрыманне дзяцей на дзяржаўным забеспячэнні; паказчык пакрыцця выдаткаў склаў 52,4% (на 1 студзеня 2018 г. - 57,2%).

За 2018 год у аздараўленчых лагерах аздароўлена 9099 дзяцей (64,1%), з іх у летні перыяд - 6696 дзяцей (47,6%).

Выкананы работы па бягучым рамонце будынкаў і збудаванняў. Зроблены бягучы рамонт харчаблокаў ДУА "Сярэдняя школа № 14 г. Ліды", ДУА

"Сярэдняя школа № 15 г. Ліды", ДУА "Дзіцячы цэнтр развіцця дзіцяці № 1 г. Ліды".

У сферы адукацыі выконваюцца ўсе сацыяльныя стандарты.

### *4. Ахова здароўя*

За 2018 год у раёне нарадзілася 1388 дзяцей. Адзначана зніжэнне нараджальнасці на 109 дзяцей ці на 7,2%. Узровень нараджальнасці зменшыўся з 11,3 на 1000 чалавек насельніцтва за 2017 год да 10,5 на 1000 чалавек насельніцтвы за 2018 год.

Усяго памёр 1731 чалавек. Узровень смяротнасці на 1000 чалавек насельніцтва склаў за 2018 год і 2017 год - 13,1. Натуральнае змяншэнне насельніцтва склала (-)343 чалавекі, у 2017 годзе натуральнае змяншэнне складала (-)234 чалавека.

У амбулаторна-паліклінічныя ўстановы зроблена 1836,3 тыс. наведванняў, хуткай дапамогай абслужана 42,0 тыс. выклікаў, у аддзяленнях дзённага знаходжання пралечана 5,66 тыс. чалавек, у стацыянарах на даму - 1,9 тыс. чалавек, у кругласутачных стацыянарах - 32,9 тыс. чалавек.

Усе дзяржаўныя сацыяльныя стандарты ў вобласці аховы здароўя выкананы ў поўным аб'ёме. Фінансаванне аховы здароўя за 2018 год склала 38,5 млн. рублёў. Пры нарматыве бюджэтнай забяспечанасці выдаткаў на ахову здароўя на 1 жыхара ў 2018 годзе - 293,0 рубля, фактычнае фінансаванне на 1 жыхара за 2018 год склала 292,99 рубля.

У 2018 годзе закуплены рэктаскоп з валаконнымі святлаводамі, сістэма збору плазмы, помпы інфузійныя шпрыцавыя, СПС "Маланка", апараты ІВЛ "ВІАН-3-турба", электракардыёграфы Смарт-6, устаноўкі стаматалагічныя і іншае абсталяванне.

### *5. Культура*

Клубнымі ўстановамі праведзена 5579 мерапрыемстваў, у тым ліку 2145 на платнай аснове.

За 2018 год колькасць чытачоў бібліятэчнай сістэмы раёна склала 31765 чалавек (план - 31755).

Адукацыйны працэс у школах мастацтваў раёна выконваецца ў адпаведнасці з навучальнымі планамі і праграмнымі патрабаваннямі.

ДУ "Лідскі гісторыка-мастацкі музей" праведзена 1355 экскурсій і заняткаў (план - 1320), арганізавана 38 выстаў (план - 22).

Колькасць наведвальнікаў ДУ "Лідскі гісторыка-мастацкі музей" і Лідскага замка за 2018 год склала 92308 чалавек (план - 90385).

### *6. Спорт і турызм*

У сферы масавай фізічнай культуры і спорту працягнута праца па прыцягненні ўсіх пластоў насельніцтва да рэгулярных заняткаў фізічнай культурай і спортам, прапагандзе здаровага ладу жыцця.

За 2018 год праведзена 177 спартова-масавых мерапрыемстваў, у якіх прынялі ўдзел 17,0 тыс. чалавек. Выканалі нарматывы: майстра спорту міжнароднага класа - 1 чалавек, майстра спорту Рэспублікі Беларусь - 12 чалавек, кандыдата ў майстра спорту - 31 чалавек, 1 разраду - 73 чалавека, трэнерскія катэгорый - 13 чалавек. У спіскавым складзе зборнай Рэспублікі Беларусь знаходзіцца 47 чалавек. Сталі пераможцамі і прызёрамі міжнародных спаборніцтваў 6 чалавек, рэспубліканскіх - 126 чалавек, абласных - 490 чалавек.

У 2018 годзе праведзены рэкламныя туры для беларускіх і расійскіх тураператараў, а таксама для літоўскіх журналістаў.

Выдадзена 2000 асобнікаў рэкламнай прадукцыі турыстычнай скіраванасці.

У сферы турызму на 1 студзеня 2019 г. функцыянуе 40 аграсадзіб.

У рамках рэалізацыі праекту Праграма развіцця ААН у Рэспубліцы Беларусь "Падтрымка доступу да аб'ектаў фізічнай актыўнасці для прасоўвання здаровага ладу жыцця ў г. Лідзе" пабудаваны 2 воркаўт-пляцоўкі (побач з выратавальнай станцыяй каля Лідскага возера і ў спартова-плоскасцевым комплексе "Родны край"). Таксама ў рамках гэтага праекту ў ДУ "Лідскі раённы фізкультурна-спартовы клуб" перададзены 2 хэнд-байкі і 20 ровараў для наступнай арганізацыі пункта пракату.

## ПРЭЗІДЫУМ ЛІДСКАГА РАЁННАГА САВЕТА ДЭПУТАТАЎ ЛІДСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМ1ТЭТ

## ВЫПІСКА З РАШЭННЯ

**21 лютага 2019 г.** **г. Ліда, Гродзенская вобл.**

Прэзідыум Лідскага раённага Савета дэпутатаў і раённы выканаўчы камітэт, абмеркаваўшы вынікі працы Бярозаўскага гарадского, сельскіх Саветаў дэпутатаў і выканаўчых камітэтаў за 2018 год, ВЫРАШЫЛІ:

Першае месца па выніках працы за 2018 год прысудзіць Бярозаўскаму гарадскому Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту (старшыня Яводзік Валер Анатолевіч). Уручыць Ганаровы дыплом першай ступені і грашовую прэмію ў памеры 30 (трыццаць) базавых велічынь.

Другое месца па выніках працы за 2018 год прысудзіць Тарноўскаму сельскаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту (старшыня Астравец Валянцін

Сцяпанавіч). Уручыць Ганаровы дыплом другой ступені і грашовую прэмію ў памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь.

Трэцяе месца па выніках працы за 2018 год прысудзіць Мажэйкаўскаму сельскаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту (старшыня Саўрас Алег Віктаравіч). Уручыць Ганаровы дыплом трэцяй ступені і грашовую прэмію ў памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь.

**Прысудзіць Ганаровыя дыпломы першай ступені** Лідскага раённага выканаўчага камітэта з выдачай грашовай прэміі ў памеры 30 (трыццаць) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці прамысловасці - замежнаму вытворчаму ўнітарнаму прадпрыемству "БЕЛТЭКС ОПТЫК" (дырэктар Матусевіч Алег Ігаравіч);

за дасягнутыя поспехі ў будаўнічай галіне - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Будвектар" (дырэктар Петарс Віктар Пятровіч);

за дасягнутыя поспехі ў адукацыі і выхаванні моладзі - дзяржаўнай установе адукацыі "Гімназія № 1 г. Ліды" (дырэктар Рубцэвіч Ірына Іванаўна).

**Прысудзіць Ганаровыя дыпломы другой ступені** Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў ахове здароўя - аддзяленню дзіцячай хірургіі ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца" (загадчык Якоўчык Юры Паўлавіч);

у пастаноўцы ідэалагічнай працы ў працоўным калектыве - філіялу "Лідскае вытворчае кіраванне" вытворчага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблгаз" (дырэктар Падгайскі Іван Іванавіч);

за дасягнутыя поспехі ў працы ўстаноў культуры - дзяржаўнай установе адукацыі "Лідская дзіцячая школа мастацтваў" (дырэктар Спірына Алена Мікалаеўна);

за дасягнутыя поспехі ў развіцці фізічнай культуры, спорту і турызму - установе "Лідская спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву "Лакафарба" (дырэктар Яновіч Сяргей Рыгоравіч).

**Прысудзіць Ганаровы дыплом другой ступені** Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь за другое месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці прамысловасці - рэспубліканскаму даччынаму ўнітарнаму вытворчаму прадпрыемству "Конус" РУП "Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па механізаванні сельскай гаспадаркі" (дырэктар Жамойда Андрэй Пятровіч).

**Прысудзіць Ганаровыя дыпломы трэцяй ступені** Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці малога і сярэдняга бізнэсу - прыватнаму гандлёваму ўнітарнаму прадпрыемству "Модна-Стыльна" (дырэктар Блюднік Яўген Іванавіч);

за дасягнутыя поспехі ў адукацыі і выхаванні дашкольнікаў - дзяржаўнай установе адукацыі "Дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці № 1 г. Ліды" (загадчык Карней Павел Сцяпанавіч).

**Прысудзіць Ганаровы дыплом трэцяй ступені** Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь за трэцяе месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці прамысловасці - сумеснаму закрытаму акцыянернаму таварыству "Ліпласт- Спб" (генеральны дырэктар Рышкевіч Ігар Міхайлавіч).

**Занесці на раённую дошку Пашаны** працаўнікоў арганізацый і ўстаноў раёна, якія дамагліся найлепшых паказчыкаў па выніках года, з уручэннем грашовай прэміі ў памеры 3 (тры) базавыя велічыні:

Вільнеўчыца Віталя Іванавіча - падпалкоўніка міліцыі, першага намесніка начальніка Лідскага аддзела Дэпартамента аховы Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь - начальніка аддзялення міліцэйскай, ваенізаванай і вартаўнічай аховы;

Вайтукевіч Вольгу Аляксандраўну - лейтэнанта, старэйшага кантралёра аддзялення памежнага кантролю "Беняконі-1" вайсковай часткі 1234;

Урублеўскага Зміцера Тадэвушавіча - кіроўцу адкрытага акцыянернага таварыства "Лідаспецаўтатранс";

Гаўрылкевіча Віталя Уладзіміравіча - капітана міліцыі, участковага інспектара міліцыі аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі аддзела ўнутраных спраў Лідскага райвыканкама;

Ішкула Лілею Збыславаўну - аператара машыннага даення філіяла "Дзітва" адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт";

Жылінскую Таццяну Рамуальдаўну - паліроўшчыка аптычных дэталяў адкрытага акцыянернага таварыства "Завод "Оптык";

Жамойціну Ульяну Міхайлаўну - дырэктара дзяржаўнай установы культуры "Лідскі эстрадны аркестр";

Казлову Лідзію Мікалаеўну - лекара-тэрапеўта (загадчыка тэрапеўтычнага аддзялення) установы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца;

Ката Валерыя Генадзевіча - машыніста машын па здабычы і перапрацоўцы фрэзернага торфу адкрытага акцыянернага таварыства "Торфабрыкетны завод Лідскі";

Комінча Івана Станіслававіча - электрагазазваршчыка філіяла "Аўтобусны парк № 2 г. Ліда" адкрытага акцыянернага таварыства "Гроднааблаўтатранс";

Лук'ян Жану Міхайлаўну - укладчыка хлебабулачных вырабаў хлебнага цэха філіяла "Лідскі хлеба-

завод" адкрытага акцыянернага таварыства "Гроднахлебпрам";

Міцюкевіч Марыну Вітасаўну - старшыню Лідскага грамадскага аб'яднання літоўцаў "Рута";

Маркеля Андрэя Адамавіча - кіроўцу пажарнай аварыйна-выратавальнай часткі № 2 на аб'ектах адкрытага акцыянернага таварыства "Лакафарба" Лідскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях установы "Гарадзенскае абласное кіраванне МНС Рэспублікі Беларусь";

Серафімовіча Пятра Уладзіміравіча - машыніста экскаватара адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўніча-мантажны трэст № 19";

Сергейчыка Сяргея Сяргеевіча - прасаўшчыка гарачага шкла 5 разраду цэха крышталю адкрытага акцыянернага таварыства "Шклозавод "Нёман";

Сеча Алега Анатолевіча - начальніка аддзела размеркавальных сетак філіяла "Лідскія электрычныя сеткі" Гарадзенскага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства электраэнергетыкі "Гроднаэнерга";

Сіняк Алу Іванаўну - рабочую па комплекснай уборцы і ўтрыманні домаўласніцтваў дарожна-эксплуатацыйнай вытворчасці Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Свілу Эдварда Уладзіслававіча - выкладчыка агульнатэхнічных дысцыплін Лідскага каледжа ўстановы адукацыі "Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы";

Скоблю Алену Генрыхаўну - цырульніка Дома быту г. Бярозаўкі адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі камбінат бытавых паслуг";

Улана Іосіфа Антонавіча - машыніста-ўкладчыка асфальтабетону дарожна-будаўнічага кіравання № 24 адкрытага акцыянернага таварыства "Дарожна-будаўнічы трэст № 6";

Фанасава Сяргея Анатолевіча - дырэктара дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 1 г. Ліды";

Цеста Тарэсу Францаўну - варшчыка 4 разраду ўчастка харчовых канцэнтратаў адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскія харчовыя канцэнтраты";

Чэбышава Сяргея Віктаравіча - гвардыі падпалкоўніка, намесніка камандзіра па тыле - начальніка тылу 116 гвардзейскай штурмавой авіяцыйнай базы;

Янковіча Аляксандра Сяргеевіча - трэнера-выкладчыка па барацьбе грэка-рымскай дзяржаўнай установы "Спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа Алімпійскага рэзерву № 3 Лідскага раёна".

**Узнагародзіць Ганаровай граматай Лідскага раённага выканаўчага камітэта:**

Белага Валера Майсеевіча - начальніка службы аховы працы адкрытага акцыянернага таварыства "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш";

Васіленку Барыса Барысавіча - дырэктара таварыства з абмежаванай адказнасцю "Стыль - 97";

Грыдзюшку Вячаслава Мікалаевіча - слесара-рамонтніка цэха па вытворчасці фталевого ангідрыду адкрытага акцыянернага таварыства "Лакафарба" г. Ліда;

Гульніка Зміцера Уладзіміравіча - слесара па кантрольна-вымяральных прыборах і аўтаматыцы службы па ўладкаванні прыбораў уліку і размеркавання цеплавой энергіі Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Данілеўскую Аксану Генадзеўну - галоўнага тэхнолага адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі малочна- кансервавы камбінат";

Дзехцярэвіч Алену Юзэфаўну - загадчыка вытворчасці крамы г. Ліда таварыства з дадатковай адказнасцю "Віталюр";

Дзірбук Алу Яўгенаўну - кантралёра палімерных матэрыялаў 4 разраду сумеснага таварыства з абмежаванай адказнасцю "Бел-Пласт Інтэрнэшнл";

Кудаш Лізавету Аляксандраўну - эканаміста аддзела закупак адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскае піва";

Лісіцынскую Алену Станіславаўну - загадчыка секцыі "Цацка" крамы "Дом гандлю" ўнітарнага камунальнага прадпрыемства крама № 1 "Дом гандлю" г. Ліда;

Мацеюка Аляксандра Аляксандравіча - начальніка раёна цеплавых сетак філіяла "Лідскія цеплавыя сеткі" Гарадзенскага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства электраэнергетыкі "Гроднаэнерга";

Марыневіч Галіну Сцяпанаўну - лекара функцыянальнай дыягностыкі (загадчыка аддзялення функцыянальнай дыягностыкі) установы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Пясецкага Казіміра Казіміравіча - прараба даччынага будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Лідская перасоўная механізаваная калона № 169" Гарадзенскага абласнога будаўнічага прадпрыемства "Гроднааблсельбуд";

Равлушэвіч Ганну Славаміраўну - загадчыка вытворчасці крамы "Родны кут" Лідскага філіяла Гарадзенскага абласнога спажывецкага таварыства;

Радзюкевіч Ірыну Віктараўну - загадчыка дзяржаўнай установай адукацыі "Яслі-сад № 36 г. Ліды";

Раткевіч Марыю Віктараўну - прадаўца крамы "Еўраопт" г. Ліда філіяла таварыства з абмежаванай адказнасцю "Еўрагандаль";

Рахатку Тадэвуша Уладзіслававіча - кіраўніка камунальнага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемствам "Пескаўцы";

Рушлевіч Вольгу Юр'еўну - маляра лакаматыўнага дэпо Ліда транспартнага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі";

Тарас Таццяну Іванаўну - мантажніка радыёэлектроннай апаратуры і прыбораў 3 разраду замежнага вытворчага ўнітарнага прадпрыемства "БЕЛТЭКС ОПТЫК";

Тэжыка Зміцера Аляксандравіча - настаўніка фізікі дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 17 г. Ліды";

Трусілу Ірыну Іванаўну - загадчыка аптэкі № 233 г. Ліда цэнтральнай раённай аптэкі № 146 Лідскага раёна Гарадзенскага гандлёва-вытворчага рэспублі-

канскага ўнітарнага прадпрыемства "Фармацыя";

Цалко Алену Уладзіміраўну - выкладчыка ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны музычны каледж";

Чараховіч Алену Іванаўну - старшыню прафсаюзнага камітэта Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Хацяновіч Наталлю Аляксандраўну - галоўнага захавальніка фондаў дзяржаўнай установы "Лідскі гісторыка-мастацкі музей";

Шушкевіча Аляксея Віктаравіча - начальніка цэха па вытворчасці камбікормавай прадукцыі адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт".

**Узнагародзіць Падзячным лістом старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэта:**

Алхімаву Кацярыну Ігараўну - лекара-анестэзіёлага-рэаніматолага аддзялення анестэзіялогіі і рэанімацыі № 1 установы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Алюк Валянціну Станіславаўну - індывідуальнага прадпрымальніка;

Банцэвіча Пятра Казіміравіча - машыніста тралёвачнай (лесанарыхтоўчай) машыны Фалькавіцкага доследна-вытворчага лясніцтва дзяржаўнай лесагаспадарчай установы "Лідскі лягас";

Беднякову Святлану Міхайлаўну - настаўніцу біялогіі дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 9 г. Ліды";

Бекіша Антона Антонавіча - слесара па рамонце сельскагаспадарчых машын і абсталявання адкрытага акцыянернага таварыства "Ліда-агратэхсервіс";

Васілевіча Валера Іванавіча - індывідуальнага прадпрымальніка;

Вейка Аляксандра Міхайлавіча - начальніка вытворчасці сумеснага беларуска-расійскага закрытага акцыянернага таварыства "Ліпласт-Спб";

Гарбіну Аліну Станіславаўну - загадчыка вытворчасці сталовай дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 17 г. Ліды" ўнітарнага камунальнага прадпрыемства "Камбінат школьнага харчавання";

Гяцэвіча Івана Леанідавіча - машыніста экскаватара вытворчасці вадаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Гумбера Генадзя Мечыслававіча - бетоншчыка даччынага будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Лідская перасоўная механізаваная калона № 170" Гарадзенскага абласнога будаўнічага прадпрыемства "Гроднааблсельбуд";

Ёду Вадзіма Генадзевіча - дырэктара прыватнага ўнітарнага прадпрыемства па аказанні паслуг "Ёдзік";

Здончык Лілею Уладзіміраўну - загадчыка крамы № 3 "Калінка" адкрытага акцыянернага таварыства "Гандлёва-вытворчая фірма "Ліда";

Клешч Вольгу Дзмітрыеўну - кантралёра-касіра ўнітарнага камунальнага прадпрыемства гандлёвы цэнтр "Патсдам";

Казлова Сяргея Міхайлавіча - начальніка змены замежнага прадпрыемства "Эвеліда";

Ліханаву Наталлю Анатольеўну - настаўніцу гісторыі дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 1 г. Ліды";

Лукашэвіч Валянціну Станіславаўну - аператара сувязі аддзялення паштовай сувязі Ліда-12 Лідскага раённага вузла паштовай сувязі Гарадзенскага філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Белпошта";

Манюка Зміцера Мікалаевіча - вытворцу стужак і металасетак таварыства з абмежаванай адказнасцю "ХАВЕР ВУ металатканы завод";

Мікшу Наталлю Леанідаўну - намесніка дырэктара па ідэалагічнай і выхаваўчай працы Лідскага каледжа ўстановы адукацыі "Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы";

Міхалевіча Івана Іванавіча - кіраўніка камунальнага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемствам "Беліца-Агра";

Навіцкую Алену Васільеўну - рэжысёра ўзорнага тэатра "Какос" дзяржаўнай установы культуры "Палац культуры горада Ліды";

Асіпенку Аляксея Валер'евіча - дырэктара таварыства з абмежаванай адказнасцю "ПоспехМедыя";

Раманоўскага Віталя Іванавіча - слесара па абслугоўванні і рамонце газавыкарыстальнага абсталявання філіяла "Лідскае вытворчае кіраванне" вытворчага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблгаз";

Ціхановіч Алену Пятроўну - індывідуальнага прадпрымальніка;

Швайдзюк Галіну Іванаўну - намесніка дырэктара па навучальна-выхаваўчай працы ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны прафесійны політэхнічны ліцэй";

Шушкевіч Галіну Мікалаеўну - дырэктара прыватнага ўнітарнага прадпрыемства "Наталі-стыль";

Шушко Марыну Іванаўну - дырэктара прыватнага гандлёвага ўнітарнага прадпрыемства "ДарынаМаркет";

Яновіч Марыю Альфонсаўну - фельчара станцыі хуткай медыцынскай дапамогі ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца".

# У Лідскага музея - юбілей

Музейная справа на Лідчыне мае цікавую гісторыю. Музей у г. Лідзе адкрываўся некалькі разоў.

28 траўня 1939 года ў горадзе адбылося адкрыццё музейнага цэнтра гарадскога аддзела Польскага краязнаўчага таварыства. Будынак быў асвечаны ксяндзом Іпалітам Баярунцам. Прэзідэнт Лідскага аддзела Юзаф Дзічканец прачытаў лекцыю аб задачах краязнаўчага таварыства, быў падпісаны акт адкрыцця цэнтра, які з’яўляўся асновай для будучага музея Лідчыны.

Другі раз музей быў адкрыты 22 студзеня 1941 года. Сведчыць пра гэтыя падзеі артыкул у газеце "Уперад”. Пад час адкрыцця музей наведала каля 300 чалавек. Будынак размяшчаўся па вуліцы Ленінскай (дзе зараз месціцца магазін "Ласточка”). Па ўспамінах старажылаў каля ўвахода ў музей былі ўстаноўлены дзве бронзавыя пушкі. У час вайны будынак згарэў, экспанаты былі разрабаваны.

У трэці раз быў адкрыты музей 24 красавіка 1959 года. Пад музей быў выдзелены будынак былога піярскага касцёла па вуліцы Савецкай. Дырэктарам музея быў прызначаны былы партызан Яўген Шуціла. Першымі музейнымі экспанатамі сталі прадметы, перададзеныя ад рэдактара газеты "Уперад” Ю. Драгуна. Гэта 5 нумароў ваеннай газеты "Уперад”, лістоўкі 1944 года. Аснову нумізматычнай калекцыі залажыў С. Шут, які падараваў музею свой ордэн Вялікай Айчыннай вайны 1 ступені. Гарадзенскі гісторыка-археалагічны музей перадаў калекцыю зброі, чучалы жывёл. Паступілі ў фонды прадметы з Ленінградскага артылерыйскага музея: ружжы, шашкі, кулямёт "Льюіса", "Максім". У музеі праводзіліся экскурсіі, піянерскія зборы, сустрэчы з вядомымі людзьмі Лідчыны. Да 1964 года музей быў размешчаны ў цэнтральнай частцы будынка, потым перавялі ў двухпавярховую прыбудову. У лістападзе 1964 года ў цэнтральнай частцы быў адкрыты планетарый. Першая пастаянная экспазіцыя музея – аддзел савецкага перыяду, у 1970 годзе адкрыта экспазіцыя аддзела прыроды.

Вялася вялікая навукова-даследчая і пошукавая праца. Сабраны матэрыялы аб лідскім падполлі, даследавана тэма грамадзянскай вайны, гісторыя прадпрыемстваў краю.

У 90-я гады музей быў пераведзены з культавага будынка ў былы Дом сямейных урачыстасцяў. Лідскі краязнаўчы музей і мастацкая галярэя "Лідзея” былі аб’яднаны ў адну ўстанову культуры - Лідскі гісторыка-мастацкі музей. Доўгі час музейныя супрацоўнікі праводзілі мерапрыемствы па-за музеем. Быў арганізаваны цыкл мерапрыемстваў "Дзень музея ў школе", вулічныя вернісажы, выставы аднаго дня і прадмета. Распрацаваны і паспяхова працуе праект ў замку "Замак Гедыміна”. Звязана было гэта з адсутнасцю экспазіцыйных плошчаў для наведвання. Амаль 10 гадоў у памяшканні вяліся рамонтныя работы.

У гэтыя гады вялася вялікая праца па даследаванні гісторыі краю, назбіраны матэрыялы па храналогіі Лідчыны.

8 кастрычніка 2008 года ў горадзе Лідзе быў адкрыты музей для наведвання. Пабудавана пастаянная экспазіцыя "Прырода Лічыны”. Наведвальнікам былі прапанаваны зменныя выставы, якія пазнаёмілі з гісторыяй




краю, лёсамі людзей, творчасцю мясцовых мастакоў.

24 красавіка 2009 года музей адзначыў свой юбілей - 50-годдзе з дня заснавання.

Музейны збор складае сёння каля 40 тысяч адзінак асноўнага фонда і больш за 5 тысяч навукова-дапаможнага. Складаецца з 25 музейных калекцый. Сярод іх выклікае цікавасць калекцыя археалогіі (налічвае больш за 18 тысяч адзінак). Яна сфарміравалася ў выніку раскопак старажытных стаянак на тэрыторыі Лідскага раёна. Калекцыя нумізматыкі фарміруецца з 1959 года. Змяшчае калекцыя 2 535 адзінак захоўвання: соліды, талеры, злотыя, грошы, капейкі, рублі, пфенінгі, якія характарызуюць грашовую сістэму краін Еўропы на працягу XV- XX ст. Асаблівую цікавасць уяўляе скарб выяўлены падчас будаўніцтва будынка цяперашняга музычнага вучылішча на месцы былога Кармеліцкага манастыра. Багатая і калекцыя прадметаў побыту. Яна ўключае ў сябе прадметы асабістага і хатняга ўжытку, рэчы інттэр’еру, посуд, цацкі і іншае. Сёння калектыў працуе над фарміраваннем калекцый і вядзе збор матэрыялаў неабходных ў асноўным для пабудовы пастаянных экспазіцый гісторыі і мастацтва.

У 2010 годзе ў музея з’явіўся літаратурны філіял “Домік Таўлая”,

Створана пастаянная экспазіцыя мастацага аддзела "Сучаснае мастацтва краю”. Яна распавядае аб творчасці сучасных мастакоў Лідчыны як ураджэнцаў, так і тых, чый творчы і жыццёвы шлях звязаны з нашым краем.

Вядзецца праца па стварэнні канцэпцыі будучай экспазіцыі гістарычных раздзелаў. Галоўная мэта будучай экспазіцыі стварэнне навукова-мастацкай мадэлі, якая б адлюстроўвала гістарычны працэс развіцця Лідчыны на прыкладзе асноўных тыпаў пасяленняў, адлюстраванне іх асаблівасцей, планіроўкі, іх быту і асноўных заняткаў.

Калектыў працуе над распрацоўкай нетрадыцыйных і інавацыйных форм работы з наведвальнікамі. Сярод іх цыклы разавых мерапрыемстваў, абрадавыя святы, канцэрты і прэзентацыі музычных альбомаў мясцовых выканаўцаў, літаратурна-музычныя вечарыны, пленэры для вучняў школ з мастацкім ўхілам. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца выставы з іншых музеяў, ладзяцца камерцыйныя выствы з ўдзелам калекцыянераў з розных гарадоў Беларусі, Расіі, Літвы, Украіны.

Вялікую цікавасць выклікаюць выставы аднаго прадмета, аднаго дня, выставы адной карціны, вулічныя вернісажы. Калектыў музея пастаянна знаходзіцца ў пошуках новых форм работы ў музейнай прасторы.

***Сайт музея.***

# Лідскія юбіляры 2019 года

## Стэфан Варшаўскі: прафесар матэматыкі з Ліды

**Ад лідскіх муроў**
**Пачынаем мы крок…**
*Станіслаў Суднік.*

Знаўца краю гісторык Леанід Лаўрэш піша: *"У 1904 г. у Лідзе - 14 заводаў і фабрык, 400 рабочых, аб'ём вытворчасці - 1200 тысяч рублёў, 170 рамесных майстэрняў, 204 рамеснікі. У год праводзілася 4 кірмашы, продаж жывёлы складаў 100 тысяч рублёў. Быў штотыднёвы рынак. Працавалі банкаўскія і натарыяльныя канторы, 10 страхавых агентаў, 13 гатэляў, 24 шынкі, харчэўні і чайныя. У горадзе - 25 вуліц і завулкаў, 2 плошчы, 1000 жылых будынкаў, з іх 275 - мураваныя, 725 - драўляныя. 20 будынкаў пакрыта жалезам, 680 - дрэвам, 300 - дахоўкай. Увечары горад асвятляюць 60 газавых ліхтароў. У горадзе жывуць 15 025 жыхароў. Маецца 4 бальніцы на 115 ложкаў, 6 дактароў, 6 акушэрак, 10 фельчараў, 2 аптэкі, 5 аптэчных крам. Працуюць 4 ніжэйшыя мужчынскія і 2 ніжэйшыя жаночыя навучальныя ўстановы, павятовая 2-х класная навучальня на 60 навучэнцаў. У горадзе 23 настаўнікі, 700 вучняў, 3 друкарні, фотаатэлье, бібліятэка-чытальня. Заробак прыслугі: мужчынам - 10 рублёў, жанчынам - 5 рублёў. Заробак чорнарабочага за дзень: мужчыны - 70 капеек, жанчыны - 50 капеек".*

Вось у гэтым горадзе ў тым самым 1904 годзе ў сям'і аднаго з шасці згаданых лідскіх дактароў нарадзіўся сын Стэфан. Было тое 18 красавіка.

Ліду напаткаў шараговы лёс беларускага горада. Яна, як пісала газета "Гоман" у 1916 годзе ў артыкуле, перадрукаваным з нямецкае газеты "Kowner Ztg", *"у часе войнаў паміж маскалямі і Рэччу Паспалітай не раз цяжка цярпела"*. Цярпела Ліда ад іх і ў пазнейшыя гады, у XX стагоддзі. Але, што цікава, толькі ў 1915 годзе, калі ў горад увайшлі нямецкія войскі, сям'я, у якой пераважна гаварылі на мове новых валадароў, бо маці была немкаю, вырашыла эміграваць. Яны пераехалі ў прускі Кёнігсберг, дзе жылі матчыны бацькі.

У Кёнігсбергу малы Стэфан з прозвішчам Варшаўскі вучыўся ў гімназіі, якую скончыў у 1924 годзе, тут пайшоў ва ўніверсітэт. Аднак пасля двух гадоў навучання студэнт перавёўся ў Гётынген, гэтую *"матэматычную Меку"*, дзе меркаваў рабіць свой дактарат. Тут выкладаў сам Давід Гільберт, прызнаны ў тым часе лідарам матэматыкаў. Кіраваць доктарскай Варшаўскага прызначылі прыват-дацэнта Аляксандра Астроўскага, ураджэнца Кіева. Яны нагэтулькі пасябравалі, што калі Астроўскаму прапанавалі прафесарства ў Базэльскім універсітэце, ягоны дактарант паехаў разам з ім. У Базэлі Стэфан і скончыў сваю працу, якая атрымала ўзнагароду, а з ёю аўтар - пазіцыю выкладчыка ў Гётынгене. Так Варшаўскі ў 1930 годзе вярнуўся ў Ніжнюю Саксонію і пачаў выкладаць ва ўніверсітэце.



Але 30 студзеня 1933 года да ўлады ў Германіі прыйшоў Гітлер. А за ім - 1 красавіка - "Дзень байкоту", калі байкатаваліся габрэйскія крамы, а выкладчыкам, прафесарам-габрэям быў забаронены ўваход ва ўніверсітэты і каледжы. А менш як праз тыдзень, 7-га красавіка, быў прыняты закон аб звальненні ўсіх выкладчыкаў-габрэяў з вышэйшых навучальных установаў. Гэта датычылася і тых, хто не быў сапраўдным арыйцам, - народжаных у мяшаных сем'ях.

Стэфан Варшаўскі зразумеў, што ў Германіі яму не зрабіць кар'еру матэматыка, дый невядома, ці захаваеш жыццё. Таму ён пачаў шукаць працу ў замежжы. З дапамогаю калегі на год уладкаваўся ва Утрэхцкі ўніверсітэт у Нідэрландах, а пасля атрымаў прапанову прыехаць у Калумбійскі ўніверсітэт у Нью-Ёрк.

Замацавацца на працы ў Амерыцы ў той час было вельмі нялёгка: з Еўропы, ратуючыся ад нацызму, у краіну эмігравала больш высакакласных спецыялістаў, у тым ліку матэматыкаў, чым было працоўных месцаў. Стэфан Варшаўскі, нягледзячы на паспяховыя

публікацыі ў прэстыжным прафесійным часопісе "Transactions of the American Mathematical Society", доўгі час мусіў абмяжоўвацца часовымі работамі, чытаючы лекцыі на замену. Толькі ў 1939 годзе ён здолеў атрымаць сталае месца на кафедры Вашынгтонскага ўніверсітэта ў Сэнт-Луісе, штат Місуры.



Тут, не пакідаючы навуковай працы і публікуючы свае навуковыя даследаванні (напрыклад, у "Duke Mathematical Journal"), Варшаўскі чытаў лекцыі. У адным семестры ён меў 36 лекцыйных гадзінаў на тыдзень, але ніколі не скардзіўся, нават не любіў казаць пра сваю занятасць: лічыў, што гэта можа быць успрынята, як нараканне. Багата ў каго навокал яшчэ горай, казаў ён.

Пасля вайны, у 1947 годзе, Стэфан Варшаўскі перабраўся на працу ва ўніверсітэт Мінесоты. Тут ён спаткаў сваю будучую жонку - Ільзу Каўзер. Жыццё паступова наладжвалася, а кар'ера пайшла ўгору.

У 1952 годзе Стэфан Варшаўскі быў прызначаны старшынём матэматычнага дэпартамента Інстытута тэхналогіі ўніверсітэта Мінесоты. У 1963-м ён з сям'ёй пераехаў у Сан-Дыега, дзе ў мясцовым універсітэце таксама ўзначаліў матэматычны дэпартамент. На гэтай пасадзе ён працаваў да 1967 г., шмат спрычыніўшыся да развіцця навучальнай установы, калі праз стан здароўя мусіў адмовіцца ад кіравання, пакінуўшы сабе толькі лекцыі.

Стэфан Варшаўскі сышоў на пенсію ў 1971 г., але працягваў чытаць свае курсы. У гэтым самым годзе ён быў ганараваны як прафесар-эмерыт (Emeritus Professor).

У 1978 годзе ў інстытуце, які стаў для яго родным, ва ўніверсітэце ў Сан-Дыега, была створана пасада асістэнта прафесара імя Стэфана Варшаўскага. Яна прызначалася для маладых дактароў, хто б працягваў навуковыя тэмы самога Стэфана - ці, як яго клікалі ў Амерыцы, Стывена Варшаўскага.

Падчас банкету на свае 85-я ўгодкі ён сказаў, што хацеў бы даказаць яшчэ адну тэарэму: што матэматыка не толькі для маладых. І ён здолеў зрабіць гэта! Нават у такім паважным веку ён не пакідаў чытання лекцый. У Варшаўскага было 19 дактарантаў, а амаль траціну сваіх навуковых даследаванняў ён напісаў і апублікаваў пасля выхаду на пенсію.

Стэфан Варшаўскі памёр 5 траўня 1989 года.

Пасля яго засталіся не толькі навуковыя працы. Яго імем названая тэарэма Нашыра-Варшаўскага (Noshiro-Warschawski, аўтары вынайшлі яе незалежна адзін ад аднаго).




У 1999-2000 гг. ва ўніверсітэце ў Сан-Дыега была прысуджана стыпендыя імя Стэфана Варшаўскага.

Ільза, жонка Варшаўскага, якая памерла ў 2009 годзе, пакінула ўніверсітэту адзін мільён даляраў, зазначыўшы, што частка мае пайсці на развіццё прафесуры ў матэматычным дэпартаменце.

У некралогу калегі напісалі: *"Стэфан Варшаўскі жыў сярод найвялікшых матэматыкаў двух кантынентаў. Ён скіраваў не аднаго дактаранта да навуковай вышыні. Ён зрабіў трывалы ўнёсак у навуковую дзялянку матэматыкі".*

***Лявон Юрэвіч,***

***Наталля Гардзіенка.***

***Валеры Сліўкін***

# Ліда - 1919 год

## *Барацьба нацый за Беларусь*

У лістападзе 1918 года адбыліся падзеі агульнасусветнага значэння: Аўстра-Венгрыя і Германія капітулявалі, скончылася Першая Сусветная вайна, нарадзілася незалежная Польшча, анулявана Берасцейская мірная дамова.

На працягу снежня нямецкія войскі паступова і арганізавана пакідалі беларускія землі, услед за імі прасоўваліся палкі Заходняй чырвонай арміі. 10 снежня чырвонаармейцы ўвайшлі ў Менск. Ваенрэўкам распусціў Раду БНР. 30 снежня ў Смаленску 6-ая Паўночна-заходняя абласная канферэнцыя Расійскай камуністычнай партыі бальшавікоў прыняла рэзалюцыю пра аб'яўленне Самастойнай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі (ССРБ): *"VI-я Абласная Канферэнцыя бальшавікоў лічыць неабходным абвясціць самастойную сацыялістычную рэспубліку Беларусі з тэрыторый Менскай, Гарадзенскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў"*. 31 снежня канферэнцыя была пераназвана ў першы з'езд КП(б)Б. На з'ездзе быў абраны часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі на чале з Д.Ф. Жылуновічам (1887-1937).

Лідская зямля ў канцы 1918 г. была тэрыторыяй палітычнага супрацьстаяння мясцовых нацыянальных эліт. У Лідзе паўсталі палітычныя партыі і нацыянальныя арганізацыі. Палякі стварылі Народную Раду, Таварыства полек, Таварыства польскай моладзі і Працоўны звяз. Габрэі арганізавалі партыі Паалей Цыён, Бунд, звяз габрэйскіх працоўных "Арбайтар Гейм", літоўцы - Звяз сялян, бальшавікі - падпольную бальшавіцкую ячэйку. Беларускую арганізацыю ўзначальваў генерал маёр Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко.

Падпаручнік Вацлаў Людвікавіч Шукевіч, афіцэр Беларускага корпуса на Румынскім фронце, пасля вяртання з Расіі таемна ад немцаў арганізаваў польскі вайсковы аддзел, які неўзабаве быў пераўтвораны ў Самаабарону Лідчыны. Выхадзец з Дзітрыкаў генерал Адам Макрэцкі прыняў ганаровае кіраўніцтва гэтай арганізацыяй.



***Адам Аляксандравіч Макрэцкі (1856-1921)***

У сярэдзіне лістапада акупацыйныя нямецкія ўлады пагадзіліся на існаванне Самаабароны. Немцы перадалі В. Шукевічу 80 карабінаў і дазволілі называць Самаабарону "Крайсміліц".

Штаб Самаабароны знаходзіўся ў хаце Эдварда Янушкевіча на вул. Палескай (цяпер тэрыторыя Рын-




*Фатаграфія з часоў нямецкай акупацыі. Ліда, вуліца Садовая, удалечыні віднеюцца Малая і Вялікая сінагогі. Позняя восень, другая палова дня. Нямецкія салдаты нясуць нейкія штучкі бліжэй да вакзала, працоўны з ліхтаром ідзе на працу. А пасярэдзіне вуліцы ідуць чацвёра маладых хлопцаў з кукардамі на фуражках, трое з іх з павязкамі (знакам улады) на левай руцэ. Разявакі з відавочным здзіўленнем пазіраюць на гэтую чацвёрку. Падазраю, што здымак адносіцца да лістапада 1918 г., а чацвёрка з кукардамі з "Крайсміліц".*

ка). У суседняй хаце былі ўладкаваны казармы. У двары падпаручнікі Міхал Пацэвіч, Зянон Багатка і падхарунжы Юстын Макрэцкі праводзілі вайсковыя заняткі. Напачатку снежня Лідская Самаабарона налічвала 60 чалавек, была падзелена на звязы і размяшчалася па тэрыторыі крайсамта. Штаб і адзін звяз з 12 чалавек (камандзір Багатка) заставаліся ў Лідзе, звяз з 15 чалавек пад камандаваннем Пацэвіча размясціўся ў в. Няцеч, звяз паручніка Выспянскага з 10 чалавек размяшчаўся ў ваколіцы Гейштаўты, кавалерыйскі звяз з 16 чалавек пад камандаваннем харунжага Стэфана Крыдла абасноваўся ў маёнтку Аполін. Калі ў наваколлях Беліцы і Няцечы з'явіліся бандыцкія хеўры, якія рабавалі ўладальнікаў маёнткаў і багатых гаспадароў, звяз Пацэвіча злавіў і расстраляў двух верхаводаў.

У сярэдзіне снежня, калі ўсе нямецкія паліцэйскія пасты былі сцягнуты ў Ліду і стала вядома пра падрыхтоўку сыходу нямецкай залогі, палітычная барацьба прыкметна абвастрылася. Малодшае пакаленне габрэяў - самай шматлікай гарадской групы - актыўна ўступала ў шэрагі камуністычнай і сацыялінтэрнацыяналісцкай партый, старэйшае пакаленне абрала тактыку чакання. Народная Рада вырашыла распаўсюдзіць свой уплыў на ўвесь крайсамт і прызначыла выбары ў Павятовую Народную Раду. На ўстаноўчы з'езд сабралася каля 100 дэлегатаў - прадстаўнікоў горада, валасцяў, вясковых грамад, парафіяльных камітэтаў з усёй Лідчыны. На з'ездзе было абрана бюро Народнай Рады Лідскага павета з 24 чалавек. Прэзідэнтам Рады быў абраны адвакат Станіслаў Здановіч, віца-прэзідэнтамі - аптэкар Рудольф Бергман і Браніслаў Шаптуноўскі з Тракельскага парафіяльнага камітэта, сакратаром - Сцяфанія Малеўская, скарбнікамі - лекар Рамуальд Сапоцька і селянін в. Сцеркава Ксавер Цэшка. У Раду таксама ўвайшлі сяляне Ян Бірук з в. Яўсеевічы і Жукоўскі з в. Палубнікі. Бюро Народнай Рады размяшчалася ў даваенным будынку Казначэйства і пачало кіраваць грамадскім жыццём крайсамта.



***Здановіч Станіслаў*** *(6.07.1882, Лепель- 31.12. 1970, Варшава) нарадзіўся ў шляхецкай сям'і. Скончыў 1-ю Санкт-Пецярбургскую класічную гімназію і юрыдычны факультэт Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. Член журы Судовай палаты Петраграда (1914-17), сакратар Полацкага павятовага земства, прэзідэнт Полацка, камісар Ліквідацыйнай камісіі каралеўства Польскага (1917-1918), член кіравання Народнай Рады, прэзідэнт Народнай Рады Лідскага павета, стараста Лідскага павета (1918-28, афіцыйна 1923-28). Дарадца Генеральнай пракуратуры ў Вільні (1928-39). Пасля 1945 г. службовец сярэдняга звяна ў Польшчы.*

Бюро Народнай Рады паспрабавала арганізаваць Гарадское кіраванне. Запрасілі найболей аўтарытэтных чальцоў Лідскага габрэйскага кагалу на кансультацыі, ім было прапанавана прыняць удзел у дзейнасці Гарадскога кіравання. Габрэі запатрабавалі, каб зносіны ішлі на рускай мове і каб іх прадстаўніцтва ў Радзе складала 2/3 (16 чалавек). Ім адмовілі, гарадское кіраванне стварыць не атрымалася. Адмысловы камітэт, сфармаваны з чальцоў Рады і запрошаных габрэяў, пратакольна прыняў ад нямецкага кіраўніцтва бойню і гарадскую электрастанцыю. Камісар аховы лесу Юзаф Рашкоўскі прыняў па акце планы лясоў.

У трэцяй дэкадзе снежня выйшла з падполля Лідская бальшавіцкая арганізацыя. Карыстаючыся добразычлівым стаўленнем немцаў, яна павяла агітацыйную працу сярод насельніцтва і абвясціла прыём у партыю. Агітатары раз'ехаліся па сёлах, распаўсюджвалася літаратура, праводзіліся мітынгі. І. Чэхаў (Утроб) і Ш. Плашчанскі дакладвалі: *"22 і 23 ...адбыліся мітынгі, тэмы былі: бягучы момант у Літве і Беларусі, г.зн. Саветы працоўных дэпутатаў. Сярод сялянскага насельніцтва і сярод габрэяў выступленне наша было сустрэта з запалам і ўздымам і карысталася выключным поспехам, а згоднікі пацярпелі паразу"*. Бальшавікі праводзілі агітацыю супраць буржуазных арганізацый, на мітынгах яны заклікалі не падтрымліваць Народную Раду і не ўступаць у шэрагі Самаабароны - *"гэта панская ўлада і панскае войска"*.

23 снежня генерал Адам Макрэцкі выехаў у Вільню, перадаўшы Самаабарону падкапітану Пятру Мяніцкаму (1892-1919).

Уначы з 27 на 28 снежня вялікая частка нямецкай залогі звезла зброю і здабычу на вакзал і пакінула горад. Перад ад'ездам на пляцы Славы нямецкая залога ў прысутнасці 16 кулямётаў развіталася з Лідай. З дакладу Н. Лазарава: *"Цяпер становішча такое: у горадзе поўнае безуладдзе. Немцы сыходзяць. Маёмасць і насельніцтва застаюцца без аховы. Неабходна савецкая міліцыя для захопу ўлады, але, нажаль, ні ад Рады, ні ад чыйго-небудзь імя арганізаваць яе нельга. Камуністычная партыя занадта слабая, каб уласнымі сіламі ўзяць уладу ў свае рукі ... Але з прычыны настойлівай неабходнасці неадкладнага стварэння органа ўлады, а выбары ў Саветы павінны заняць тыдзень часу, я высунуў думку пра стварэнне Часавага рэвалюцыйнага камітэта да арганізацыі Савета. Часовы рэўкам вырашана сканструяваць з прадстаўнікоў дзвюх партый (4 камуністаў і 3 інтэрнацыяналістаў). Партыя інтэрнацыяналістаў стаіць цалкам за дыктатуру пралетарыяту і па ўсіх пытаннях цалкам згодна з камуністамі, але ў мясцовых умовах лічыць патрэбным называць сябе інтэрнацыяналістамі..."*.

29 снежня быў створаны Часовы Рэвалюцыйны Камітэт з 9 чалавек: 5 камуністаў: І. Утроб (Чэхаў), Н. Лазараў, Вацлаў Калясінскі, Адольф Сегень, Міхал

Камёнскі і 4 сацыял-дэмакраты інтэрнацыяналісты, сярод іх Сямён Камянецкі. На чале рэўкама сталі Адольф Сцяпанавіч Сегень - селянін в. Вінкаўцы і Вацлаў Альфонсавіч Калясінскі - селянін в. Ёдкі. Галоўнай задачай створанага Часовага рэўкама быў захоп улады для годнай сустрэчы Чырвонай Арміі, якая ў гэты дзень заняла Навагрудак. Рэўкам абвясціў сябе адзіным органам улады ў горадзе і павеце і звярнуўся да насельніцтва з заклікам. Немцы, якія заставаліся, аказалі падтрымку рэўкаму, дазволілі арганізацыю гарадской міліцыі і выдалі зброю. Па іншых дадзеных 100 вінтовак і 15 тыс. патронаў было захоплена ў прадстаўнікоў Тарыбы. З працоўных рэўкам сфармаваў добраахвотныя дружыны па ахове камунальнай гаспадаркі. Быў арганізаваны пралетарскі клуб, у якім рабочыя і сяляне, якія прыязджалі ў горад, слухалі лекцыі, даклады, атрымлівалі літаратуру.



***Калясінскі Вацлаў Альфонсавіч*** *(18.03.1898, Ліда - 2.09.1937, Масква). Паляк. Член кампартыі з 1918. У РСЧА з 1919. Ваенны камісар 159-й стралковай брыгады (10.1919 - 11.1920), 5-й стралковай дывізіі Заходняга фронту (12.1920 - 10.1922). Скончыў Ваенную акадэмію РСЧА (1922-1925). У РУ штаба РСЧА (08-11.1925), начальнік 3-й часткі інфармацыйна-статыстычнага аддзела (11.1925 - 09.1926), памочнік начальніка таго ж аддзела (09.1926 - 10.1928). З 1.10.1928 залічаны ў рэзерв РСЧА з адкамандзіраваннем для працы ў Наркампрацы СССР. Перад арыштам - памочнік начальніка 2-га Галоўнага кіравання Наркамата абароннай прамысловасці СССР. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга (1922). Рэпрэсаваны 9.04.1937. Рэабілітаваны 28.05.1957.*

31 снежня прэзідэнт Народнай рады С. Здановіч абвясціў пра правядзенне 6 студзеня другога з'езду прадстаўнікоў усіх валасцяў. Чальцы Народнай рады аптэкар Рудольф Бергман, ксёндз дэкан Юзаф Шкоп, штаб Лідскай Самаабароны і звяз падпаручніка З. Багаткі пакінулі горад. Звяз сканцэнтраваўся ў Заполлі. Увечар у кінатэатры "Нірвана" адбыўся мітынг. Зала кінатэатра не магла змясціць усіх сабраўшыхся, многія стаялі на вуліцы. Даклад пра бягучы момант прамовіў Н. Лазараў, выступіў І. Утроб (Чэхаў) і В. Калясінскі, які сказаў: *"Упершыню ў нашым горадзе арганізаваны рэўкам - рабочая ўлада. Горад наш стане савецкім, як і ўсе беларускія гарады. З панамі і буржуазіяй скончым".*

**Студзень 1919 года**

**1 студзеня** нямецкая залога пакінула Вільню. Адбыліся ўзброеныя сутыкненні паміж Польскай Самаабаронай (1-ай брыгадай) і віленскімі бальшавікамі.

**2 студзеня** апублікаваны Маніфест Часовага Беларускага рабоча-сялянскага ўрада. Дзяржаўная Рада Літвы перабраўся з Вільні ў Коўню. Польская Самаабарона (1-ая брыгада) разагнала рабочы савет Вільні і захапіла горад. Польскія жандары каля в. Выліны-Русь Беластоцкага ваяводства забілі чальцоў місіі Расійскага Чырвонага Крыжа на чале з Браніславам Весалоўскім.

**3 студзеня** апошні нямецкі атрад выехаў з чыгуначнай станцыі Ліда.

**4 студзеня** пад Новай Вілейкай адбылося баявое сутыкненне Віленскай польскай Самаабароны, кіраванай генералам Уладзіславам Вейткам, (1859-1933) з надыходзячай Пскоўскай дывізіяй Чырвонай Арміі.

**5 студзеня** ўвечар Віленская Самаабарона пакінула Вільню. 1-ы Пскоўскі полк (кампалка Махначоў) і 4-ы Пскоўскі полк Другой брыгады Пскоўскай дывізіі (камбрыгады В.А. Ольдэроге) і 5-ы Віленскі полк Заходняй дывізіі (кампалка Зянкевіч) увайшлі ў Вільню. Партыйнае і савецкае кіраўніцтва ССРБ пераехала са Смаленска ў Менск.

**6 студзеня** пасля паўдня ў Лідзе ў "Народным доме" пачаў працу з'езд Народнай Рады Лідчыны. У 18 гадзін у Ліду з боку Ліпнішак увайшлі чырвонаармейцы 3-га Сядлецкага палка Заходняй дывізіі Чырвонай Арміі: *"Мноства людзей, хто на кані, хто пешшу"*. Іх віталі мясцовыя камуністы. Тым часам Рада працягвала засядаць. Позна ўвечар праца з'езду была перапынена з'яўленнем у зале паседжанняў камісара ў суправаджэнні чырвонаармейцаў. Камісар Шпак абвясціў дэлегатам, што ўлада ў горадзе з гэтага дня належыць камандаванню Заходняй дывізіі, і ад яго імя загадаў пакінуць будынак. Старшыня з'езду С. Здановіч запярэчыў, што гэта патрабаванне незаконнае і добраахвотна гэтаму патрабаванню не падпарадкуецца. Аднак пагроза ўжывання зброі прымусіла дэлегатаў пакінуць залу паседжанняў. Чырвоная Армія заняла Баранавічы. Праз Эйшышкі-Забалаць-Новы Двор на Азёры прайшоў з Вільні аддзел Уладзіслава Дамброўскага.

**7 студзеня** ў бюро Народнай Рады з'явіліся прадстаўнікі Лідскага рэўкама на чале з Адольфам Сегенем, запатрабавалі перадачы дакументаў і арыштавалі намесніка прэзідэнта Рады Браніслава Шаптуноўскага. Камісар Шпак выступіў з палымянай прамовай перад гараджанамі. Сказаў, што Чырвоная Армія нясе волю і незалежнасць простаму рабочаму і селяніну, што ўсе рабочыя горада і сяляне павета павінны актыўна дапамагаць Савецкай уладзе - уладзе рабочых і сялян. Папярэдзіў тых, хто спадзяецца не падпарадкоўвацца Савецкай уладзе, што з імі будзе весціся суровая барацьба. Паведаміў, што кожныя два тыдні ў кінатэатры "Нірвана" будуць адбывацца мітынгі. Вайсковыя падраздзяленні Сядлецкага палка размясціліся часткова ў пяхотных казармах Паўночнага гарадка, часткова на кватэрах у горадзе. Камандаванне палка на чале з камандзірам Ф. Рупневічам і штаб брыгады на чале з камбрыгады Длускім размяс-

цiлiся ў доме доктара Эдмунда Фёдаравiча Рэнерта ў цэнтры горада на вул. Вiленскай (цяпер Савецкая, 23). Лiдская Самаабарона пакiнула Запольскi маёнтак. Да гэтага часу яе колькасць складала 89 чалавек. Добраахвотнiкi Самаабароны ўдзельнiчалi ў нядзельнай iмшы ў Ваверцы, тут да iх далучылiся некалькi мясцовых палякаў. Увечар з песняй "Ешчэ Польска не згiнэла" Самаабарона праехала праз Васiлiшкi, жыхары мястэчка назiралi за рухам з вокнаў. У Вiльнi пачаў дзейнiчаць Лiтоўскi Часовы Рэвалюцыйны рабоча-сялянскi ўрад.

**8 студзеня** Гурнофель стаў апорнай базай Лiдскай Самаабароны, сюды прыходзiлi добраахвотнiкi з Лiды, Беняконяў, Жырмунаў, Белiцы. Тут праходзiлi трэнiроўкi, адгэтуль адпраўлялiся агiтатары для прапагандысцкiх акцый у блiзкiя наваколлi. Пасля злучэння са Шчучынскай Самаабаронай аддзел налiчваў 164 пехацiнцы i 33 кавалерысты. Было вырашана напасцi на Лiду. Увечар аб'яднаная Самаабарона выйшла з маёнтка Малое Мажэйкава.

**9 студзеня** ў 4 гадзiны ранiцы ў Астроўлi аддзел падзялiўся на тры групы, адна пад камандаваннем падпаручнiка Шукевiча, рухаючыся праз Далiну i Шайбакi, павiнна была заняць маёнтак Перапечыца i лётныя казармы, у якiх па данясеннях мелiся дзве гарматы, i затым атакаваць горад з усходу, з боку Лiпнiшак; другая, кiраваная падкапiтанам Мянiцкiм, павiнна была захапiць вакзал i атакаваць горад з захаду; трэцяя, якая складаецца галоўным чынам з кавалерыстаў пад камандаваннем харунжага Крыдла, была накiравана на пяхотныя казармы Паўночнага гарадка. Група Шукевiча заняла Перапечыцу i казармы Паўднёвага гарадка без бою. Аказалася, што чырвонаармейцы з гарматамi сышлi з гэтых пазiцый. Адначасова дайшла iнфармацыя пра ўступленне ў Лiду свежых чырвонаармейскiх падраздзяленняў. Падкапiтан Мянiцкi загадаў адступiць.

**10 студзеня** ў 4 гадзiны ў Палявы штаб Рэўваенсавета РСФСР у Смаленску паступiла данясенне начальнiка аператыўнага аддзела штаба Заходняй армii В.В. Сяргеева. *"Часткамi 3-га Сядлецкага палка заняты г. Лiда i выстаўлены заставы на гарадзенскiм i беластоцкiм кiрунках"*. Камандаванне 3-га Сядлецкага палка прызнала Лiдскi Часовы рэвалюцыйны камiтэт у якасцi органа Савецкай улады, пераўтварыўшы яго ў Лiдскi павятовы Ваенрэўкам. Рэўкам узначалiў камiсар палка Шпак, Вацлаў Калясiнскi прызначаны загадчыкам фiнансавага аддзела, Адольф Сегень - загадчыкам аддзела сельскай гаспадаркi. У склад рэўкама ўвайшлi таксама Падземскi i Шыфмановiч, якiя былi прызначаны кiраўнiкамi гарадской i павятовай мiлiцыi. Мiлiцыянераў яны падбiралi з маладых габрэяў. Рэўкам размяшчаўся ў цэнтры горада на вул. Садовай у доме купца Iлютовiча. Над домам узнялi чырвоны сцяг.

**13 студзеня** ў нядзелю ў Васiлiшках пасля нядзельнай iмшы прадстаўнiкi Самаабароны правялi мiтынг. Чырвонаармейцы зрабiлi вылазку ў маёнтак Скiндараў Багданаўшчыну i канфiскавалi жывёлу. Чырвонаармейскiя падраздзяленнi ўвайшлi ў Слонiм. Камандуючы Заходняй армii Снесараў, начальнiк штаба Новiкаў i член Рэўваенсавета Селязнёў загадалi Лiдскаму баявому ўчастку Заходняй стралковай дывiзii *"трывала заняць i замацавацца на лiнii Гародня - Масты - Слонiм -ст. Даманава на Шчары i весцi выведку на кiрунках Беласток - ст. Чарамха - Брэст-Лiтоўск"*.

**15 студзеня** з Лiды ў бок Васiлiшак выехаў на санках добра ўзброены атрад чырвонаармейцаў, кiраваны выхадцам з Васiлiшак петраградскiм рабочым Макарчуком.

***Макарчук Лявонцiй Iванавiч*** (1898, Васiлiшкi -1937) паляк, член ВКП(б) у 1919-1921, слесар фабрыкi "Светач", жыхар Ленiнграда. Арыштаваны 21 лiстапада 1937 года. Расстраляны 20 снежня 1937 г.

**16 студзеня** за 26 км ад Лiды адбылося першае ўзброенае сутыкненне атрада Чырвонай Армii з аддзелам уланаў нараджаўшайся II-ой Рэчы Паспалiтай. Уначы атрад чырвонаармейцаў, кiраваны Макарчуком, напаў на маёнтак Лябёдка абшарнiка Квiнты, дзе размяшчаўся на пастоi аддзел уланаў пад камандаваннем Стэфана Крыдла. 6 уланаў былi забiты, 4 уцяклi, 7 узяты ў палон, захоплена 19 коней i 5000 марак. Увечар доктар Амброзi Кастравiцкi на дваiх параконных санях перавёз целы загiнулых у Шчучын. Палонных неўзабаве вызвалiлi па настойлiвых просьбах Таварыства полек. ЦК РКП(б) у Маскве прыняў пастанову пра аб'яднанне Лiтоўскай ССР (абвешчанай 16.12. 1918) i ССРБ у адзiную Лiтоўска-Беларускую ССР.

**17 студзеня** Лiдская (камандзiр падкапiтан Пётр Мянiцкi), Шчучынская (паручнiк Баляслаў Лiсоўскi) i Эйшышская (капiтан Казiмiр Iльцэвiч) Самаабароны ўлiлiся ў аддзел Ежы Дамброўскага.

**18 студзеня** ў Шчучынскiм парафiяльным касцёле адбылося жалобнае набажэнства. Прапаведзь прамовiў ксёндз Мароз: *"Сёння з усходу цягнецца да зямлi нашай Арда азiятаў, знiшчае да канца край ужо знiшчаны, нясе з сабой голад, нягоды i галечу, абяцаюць рай, а даюць голад. Абвяшчаюць волю, а нясуць няволю, тыранiю, кайданы"*. Харунжы Стэфан Крыдл, капралы Станiслаў Шалевiч i Юзаф Мейлун, уланы Вiктар Шкоп, Юльян Лiбах, Станiслаў Вайцахоўскi былi пахаваны на Шчучынскiх могiлках.

Пасля бацькi Шкопа i Мейлуна перапахавалi парэшткi сваiх дзяцей у сямейныя магiльныя склепы на Лiдскiх парафiяльных могiлках, Станiслаў Шалевiч перапахаваны ў Вiльнi.

**20 студзеня** гарадзенская газета "Наше утро" апублiкавала допiс з Лiды: *"Да прыемнага расчаравання некаторых мясцовых абывацеляў, якiя ўяўляюць чырвонаармейцаў як хулiганаў i рабаўнiкоў, гэтыя, апошнiя, паводзяць сябе вельмi карэктна… Бальшавiкi вядуць энергiчную барацьбу са злодзеямi i злачынцамi i гэтым набылi сабе сiмпатыi нават буржуазна настроеных колаў насельнiцтва. Адносiны памiж чырвонаармейцамi i насельнiцтвам вельмi прыязныя"*.

**У 20 днях студзеня** ў Лiду прыбыў харчовы транспарт на чале з галоўным iнтэндантам Заходняй ды-




***Помнік загінулым 16 студзеня ўланам на каталіцкіх могілках у Шчучыне.***

візіі 24-гадовым камісарам Багдановічам. Прыбыццё транспарта некалькі разрадзіла харчовы крызіс. Рэўкам прыступіў да ажыццяўлення дэкрэтаў Савецкага ўрада. Былі створаны Камітэт бяспекі, судовыя органы, турэмныя службы, біржа працы і валасныя рэўкамы. Праведзена рэгістрацыя прамысловых прадпрыемстваў, таварных складоў, крам, лавак. На іх уладальнікаў накладзена кантрыбуцыя - 80 тысяч марак *"за сабатаж і хаванне маёмасці ад рэгістрацыі"*. Гандлёвае жыццё ў Лідзе замерла, не толькі буйныя купцы зачынілі свае крамы, але і дробныя зачынілі свае лаўкі. Пачаў адчувацца дэфіцыт харчу і прадметаў першай неабходнасці, тым больш што іх падвоз з сёлаў быў абмежаваны - сельскагаспадарчыя прадукты рэквізаваліся для вайсковых частак. Апісваліся абшарніцкія маёнткі, на ўладальнікаў фальваркаў і маёнткаў накладваліся падаткі. Неплацельшчыкаў саджалі ў турму. Праводзіліся мітынгі з агітацыяй у карысць савецкага ладу. На сяло накіроўваліся агітатары. У некалькіх воласцях былі сфармаваны камуністычныя ячэйкі.

**22 студзеня** ЦВК РСФСР накіраваў польскаму ўраду афіцыйную ноту на прадмет пачатку мірных перамоваў.

**25 студзеня** французскі маршал Фердынанд Фош (1851-1929) запатрабаваў ад германскіх прадстаўнікоў забяспечыць вольны пропуск польскіх войскаў у Гародню і далей для барацьбы з бальшавікамі.

**26 студзеня** аддзел Ежы Дамброўскага пераправіўся цераз Нёман у Орлі і сышоў на Пружаны.

**30 студзеня** газета "Известия" (№ 21) паведаміла, што *"вядзецца суцэльная перашыўка каляі па лініі Вільні - Баранавічы"*.

**31 студзеня** ў Вільні адкрыўся з'езд прадстаўнікоў павятовых рэўкамаў Савецкай Літвы.



***Браты Уладзіслаў (злева) і Ежы Дамброўскія***

**Люты**

**2-3 лютага** ў Менску прайшоў 1-ы з'езд саветаў Беларусі. З'езд завяршыў юрыдычнае афармленне Беларусі як савецкай рэспублікі.

**3 лютага** 1-ы Усебеларускі з'езд саветаў прыняў дэкларацыю пра аб'яднанне Літвы і Беларусі.

**4 лютага** польскія войскі групы "Палессе" занялі Ковель.

**5 лютага** ў Беластоку была падпісана польска-




***Становішча на 10 лютага 1919 г. (з кнігі Davies N. Orzel bialy. Czerwona Gwizda. Krakow. 2000. S.21)***

германская ваенна-палітычная дамова, якая прадугледжвала перадачу тэрыторыі Гарадзенскай губерні польскім войскам. Мелася на ўвазе, што немцы пакінуць губерню на працягу найблізкіх 2-3 месяцаў. 5-ы пункт дамовы дазволіў з 7 лютага праход на ўсход 10 польскіх пяхотных батальёнаў (да 800 чалавек у кожным), 2 эскадронаў конніцы і 2 батарэй (па 4 гарматы ў кожнай). З гэтага дня пачалося пасоўванне польскіх войскаў на ўсход. Сфармаваны новы Саўнаркам ССРБ на чале з А.Ф. Мясніковым (1886-1925).

**7 лютага** ў Маскву на перамовы прыбыў польскі прадстаўнік А. Вянцкоўскі з абмежаванымі паўнамоцтвамі: яму былі даручаны пытанні пра забойства чальцоў місіі, абмен закладнікаў, вяртанне ўцекачоў.

**9 лютага** ўвечар аддзел Дамброўскага ўвайшоў у Берасце.

**10 лютага** польская група войскаў "Палессе" пад камандаваннем генерала Антонія Лістоўскага (1865-1927) заняла Берасцейскую цвердзь і Берасце. Наркамзамсправ РСФСР звярнуўся да ўрада Польшчы з прапановай уступіць у перамовы з урадамі Савецкай Беларусі і Літвы пра ўрэгуляванне тэрытарыяльных пытанняў.

**12 лютага** два ўланскія палкі з групы "Палессе" занялі Кобрын. Галаўкам Чырвонай Арміі Вацэціс і чалец РВС Аралаў падпісалі Дырэктыву пра стварэнне Заходняга фронту.

**13 лютага** аддзел Літоўска-Беларускай дывізіі заняў Ваўкавыск.

**14 лютага** польскія часткі, у склад якіх уваходзілі "лідскія самаабаронцы", з боем занялі Бярозу Картузскую. У м. Масты адбылося баявое сутыкненне польскіх легіянераў з чырвонаармейцамі Заходняй дывізіі. Пачалася нікім не абвешчаная дванцацімесячная польска-савецкая вайна 1919-20 гг.

**15 лютага** Беларуска-Літоўскі савецкі ўрад пераехаў у Вільню.

**У сярэдзіне лютага** начальнік штаба Заходняй дывізіі Длускі і малады 24-гадовы камісар Багдановіч разам з дывізіённай касай перайшлі на польскі бок паблізу Ваўкавыска. Не абыйшлося без жанчын. Дазнаўшыся пра польскае паходжанне камісараў Каміла Ланге - дачка генерала Адама Макрэцкага - прапанавала ім уцячы ад бальшавікоў, а жонка генерала Гелена ўручыла ўласнаручна напісаны ліст, адрасаваны мужу. Здрада двух камісараў выклікала замяшанне ў кіраўніцтве дывізіі, асцерагаючыся недаверу салдатаў, гэты факт захавалі ў таямніцы. Чальцы Народнай Рады Лідскага павета хаваліся ў сельскай мясцовасці: С. Здановіч хаваўся ў маёнтку Малюзін, Р. Сапоцька - у фальварку Таўкунцы, Б. Шаптуноўскі - у Дворышчы.

**16 лютага** Лідскі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт выпусціў разменныя знакі вартасцю адзін, тры і пяць рублёў.

На разменных знаках распісаліся таварыш старшыні Ваенрэўкама І. Утроб і загадчык фінансавага аддзела В. Калясінскі. Саўнаргас Беларусі прыняў Пастанову пра нацыяналізацыю прамысловых прад-




***Лідскія грошы***

прыемстваў: *"Усе фабрыкі, заводы і іншыя прамысловыя прадпрыемствы, у якіх уладальнікі з прыходам Савецкай улады ўцяклі, ці адсутнічаюць па тых ці іншых прычынах, ці не прымаюць актыўнага ўдзелу ў кіраванні прадпрыемствамі, таксама ўсе іншыя безгаспадарлівыя прамысловыя прадпрыемствы, дзе б яны ні апынуліся і ў чым бы яны ні складаліся, усе фабрычныя і завадскія карпусы, будынкі і надворныя пабудовы, наяўныя дапаможныя прадпрыемствы, склады, жывы і мёртвы інвентар, машыны, зямельныя ўгоддзі, арэндныя землі, усе грашовыя капіталы - бягучыя рахункі заводаў і іншае аб'яўляюцца з гэтага часу здабыткам Беларускай рэспубліві"*. Старшынём Лідскага саўнаргаса быў прызначаны Падземскі. Урады Літвы і Беларусі накіравалі Польшчы прапановы пра стварэнне змяшанай камісіі для ўсталявання дзяржаўнай мяжы.

**18 лютага** польскія аддзелы генерала А. Лістоўскага перайшлі ў наступ уздоўж чыгункі Кобрын - Пінск, узялі Драгічын і Янаў.

**18-20 лютага** ў Вільні адбыўся І-ы З'езд Саветаў працоўных, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў Літвы. З'езд прыняў рэзалюцыю пра стварэнне Літоўска-Беларускай ССР.

**19 лютага** створана камандаванне Заходняга фронта са штабам у Старой Русе. Камандуючым фронтам прызначаны былы генерал-лейтэнант Д. Н. Надзёжны. Польскія войскі ўвайшлі ў пакінуты немцамі Беласток.

**20 лютага** ў Менску адкрыўся І-ы з'езд павятовых саўнаргасаў Менскай губерні. У з'ездзе прынялі ўдзел 40 дэлегатаў, у тым ліку ад Лідскага павета.

**22 лютага** *"праціўнік перайшоў у частковае наступленне на Нёмане, паміж Коўняй - Гародняй і ў Брэст-Літоўскім раёне, у кірунках на Баранавічы і Пінск"*.

**27 лютага** на сумесным паседжанні Цэнтральных Камітэтаў Беларускай і Літоўскай Савецкіх рэспублік створана Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Літвы і Беларусі (ССРЛ і Б) з дзвюх губерняў Віленскай і Менскай са сталіцай у Вільні, Саўнаркам на чале з Вікенціем Міцкевічам (1880-1935), ЦВК на чале з Казімірам Ціхоўскім (1887-1937).

**Сакавік**

**2 сакавіка** польскія войскі пад камандаваннем генерала Вацлава Івашкевіча (1871-1922) занялі Слонім.

**3 сакавіка** ўвайшлі ў Скідаль.

**4-6 сакавіка** ў Вільні адбыўся 2-і (аб'яднальны) з'езд кампартый Літвы і Беларусі. Ён абраў ЦК КПЛіБ з 15 чалавек. Старшынём прэзідыума ЦК стаў Вікенці Міцкевіч(1880-1935), сакратаром - Вільгельм Кнорын (1890-1938).

**5 сакавіка** польская група войск "Палессе" генерала Антонія Лістоўскага заняла Пінск. 4-ы полк уланаў заняў Шчучын.

**6 сакавіка** ўланы 4 палка ўзялі ў палон 15 чырвонаармейцаў з 3-га Сядлецкага палка.

**7 сакавіка** ўланы высунуліся са Шчучына ў бок Ліды. *"У Ліду высланы Гарадзенскі полк пяхоты і 4 гарматы"*. Польскі Сейм ухваліў мабілізацыю ў войска шасці ўзростаў.

**8 сакавіка** чырвонаармейскія часткі высунуліся з Ліды на лінію р. Лебяды. У наваколлях Шпілек, Козінцаў, Агароднікаў і Вялікага Мажэйкава адбыўся бой. *"Бальшавіцкая артылерыя прыняла ўдзел у баі. Складалася з 4 хуткастрэльных гармат. Непрыяцель мае значную колькасць кулямётаў. У баі здабылі 6 кулямётаў і пасля 4-гадзіннага бою вымусілі непрыяцеля адступіць за Лебяду. Нашы страты: 2 забітыя, 13 параненых, у тым ліку 4 - цяжка. У баі вызначыліся 3-і эскадрон 4-га палка, 1 і 3 роты Сувальскага палка. Акцыю падтрымлівала 1 батарэя 9 пап. Паміж Аранамі і Лідай няма бальшавіцкіх войскаў. У Лідзе стаіць штаб 3 брыгады і штаб Сядлецкага палка пяхоты. Палякі, якія знаходзіліся ў тых палках, збіраліся ўхіліцца ад адпраўкі на фронт. Атрады гэтыя павінны быць раззброены. Пяхота па большай частцы ўзброена японскімі карабінамі. Салдаты маюць па 60 патронаў, адчуваецца недахоп амуніцыі. Салдацкае грашовае забеспячэнне 5.300 керанскіх рублёў штомесяц. Дысцыпліна вельмі слабая. Акрамя таго ў Лідзе знаходзіцца штаб Варшаўскага палка і эскадрон Мазавецкіх уланаў. У Мыто і Васілішках толькі дробныя невялікія бальшавіцкія атрады па 50 чалавек. Па чутках бальшавікі маюць намер атакаваць Гародню трымя калонамі - з Вільні, Ліды і Баранавіч. Чыгунка паміж Лідай і Вільняй у дзеянні. Паміж Лідай і Баранавічамі няма сувязі, ні тэлефоннай, ні чыгуначнай"*.

**9 сакавіка** *"заўважана імкненне бальшавікоў да вяртання Шчучына. У наш час стаяць яны на лініі Лебяда-Шпількі-Васілішкі. Сілы іх складаюцца з двух батальёнаў Сядлецкага палка, 60 кавалерыстаў і 2 гармат"*.

**13 сакавіка** Заходняя армія РККА пераназвана ў Беларуска-Літоўскую армію.

**14 сакавіка** камандаванне над Літоўска- Беларускай групай польскіх войскаў прыняў генерал Станіслаў Шаптыцкі (1867-1950).

**15 сакавіка** ў Варшаву прыбыла французская ваенная місія на чале з генералам П. Анры. Французскае ваеннае камандаванне накіравала ў Польшчу каля 1000 вайсковых інструктараў.

**25 сакавіка** ўвечар на Шчучынскім кірунку адбылася перастрэлка з польскай выведкай.

**29 сакавіка** каля поўдня на станцыю Ліда праездам са Смаленска ў Вільню і назад заехаў камандуючы Беларуска-Літоўскай арміяй А.Е. Снесараў.



***Андрэй Яўгенавіч Снесараў (1865-1937)***

З дзённіка А.Е. Снесарава: *"29 сакавіка 1919 г. Ліда. Выйшлі з Вільні ў 8 гадзін, прыбылі ў 12 (90 вёрст)… Карпаў (ваенны камісар станцыі, твар катаржніка, гаворыць на "о") кажа пра напады, адрэзанасці… "Тут шпіёны, контррэвалюцыя, шпекулянты" … Жаліцца на Літ. урад. У Вільні ўмеюць схаваць, а тут ясна: "рус. акупанты"… (Карпаў кажа мабыць шчырае: "Калі б тут была Сац. Фед. Рэспубліка, усё б было, але тут шпекулянты"… ці: "Керанак яму не трэба, а дай царскіх")… Такім чынам, усяго каля 1 т. багнетаў, 80 шаб. і 2 гарматы… часткі адарваны ад іншых… Тып наступальнага бою: ідуць ланцугі, камбрыг і камісар ідуць побач з рэвальверамі ў руках, якія разраджаюць у паветра, ззаду браневікі, падпіраюць… выходзіць, інакш драпаку… іншых формаў няма. …З 3-5 гадзін на пазіцыі 3-й роты Сядлецкага палка ў вёскі Слабодка. (…) Ля самай вёскі ёсць пазіцыя, і я тлумачу яе перавагі… тую не зоймуць. Кам. роты абараняецца. Супраць іх чакання я іду на пазіцыю. Наперадзе яе лес (у 1/2 вярсты), справа абстрэлу няма, злева падыходзіць лясок… словам, пазіцыя дрэнь, ды і далёка: не зоймуць. Але камандзір роты сцвярджае, што каля вёскі, па якой зараз страляюць, людзей не ўтрымаць… у полі лепш. Гутарым пра парадкі ў роце… гаворыць унікліва. Насустрач нам ідзе хлопец з мяшком - уцякач, у якога "віды", і ён кажа пра легіянераў… проста. Такіх ідзе маса!"*.

Да канца сакавіка афармілася польска-савецкая лінія фронту ўздоўж чыгункі Вільня-Лунінец. Беларуска-Літоўская чырвоная армія кантралявала тэрыторыю на ўсход ад гэтай лініі з гарадамі Вільня, Ліда, Баранавічы і Лунінец, у сваю чаргу Літоўска-Беларуская дывізія польскага войска - на захад. У Лідзе ў казармах Паўночнага гарадка знаходзіліся 3-ці рэвалюцыйны Сядлецкі полк пад камандаваннем Францішка Рупневіча і 6-ты рэвалюцыйны Гарадзенскі полк пад камандаваннем І. Кукуева. Чырвонаармейцы і камандзіры гэтых палкоў мелі польскае паходжанне, *"кожны другі камісар быў родам з Варшавы"*.

**Красавік**

**2 красавіка** камандуючы Літоўска-Беларускага фронту генерал-паручнік Станіслаў Шаптыцкі атрымаў загад пра наступлепнне на Ліду і Вільню.

**4 красавіка** Дзяржаўная Рада Літвы прыняла 2-ю часавую канстытуцыю Літвы, якая ўводзіла пасаду Прэзідэнта. Першым прэзідэнтам Літвы абраны Антанас Сметана (1874-1944).

**6 красавіка** ў штабах польскіх частак Літоўска-Беларускага фронту пачалася падрыхтоўка да ўзяцця Вільні.

**8 красавіка** на тэрыторыі Літоўска-Беларускай рэспублікі (ССРЛ і Б) абвешчана ваеннае становішча.

**У ноч з 14 на 15 красавіка** на ст. Скрыбаўцы




*Знак "Літоўска-Беларускі фронт"*

прыбыў цягнікам часовы начальнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі са штабам.

**15 красавіка** польскае камандаванне скончыла перагрупоўку і засяроджванне сваіх частак для наступлення на Ліду і Вільню.

**16 красавіка** ў 5 гадзін раніцы ў Паперні Пілсудскі праводзіў конную групу палкоўніка Уладзіслава Бяліны-Пражмоўскага (800 шабель і дзве гарматы), якая выступіла на Вільню. За ім па паперненскім мосце прайшлі тры батальёны генерала Эдварда Рыдз-Сміглага і 1-я дывізія легіёнаў (2500 пехацінцаў). Раніцай Ліду з усіх бакоў атачыла групоўка пад камандаваннем генерал-паручніка Юзафа Лясоцкага, якая складалася з трох батальёнаў 1-й пяхотнай дывізіі легіёнаў, двух батальёнаў Сувальскага пяхотнага палка пад камандаваннем Мечыслава Мацкевіча, трох кавалерыйскіх эскадронаў пад камандаваннем маёра Януша Глухоўскага і чатырох артылерыйскіх батарэй.



***Юзаф граф Лясоцкі** (1861-1931) генерал-маёр аўстрыйскага войска. У сакавіку-красавіку 1919 г. камандзір польскай Занёманскай групы.*

На станцыю Ліда са ст. Беняконі прабіўся бронецягнік № 32, камандзір якога паведаміў пра пачатак польскага наступлення. Наступленне вялося з трох бакоў - з поўначы, захаду і поўдня. На ўсходзе польская кавалерыя пераразала чыгунку Ліда-Маладзечна. Пілсудскі на беразе р. Дзітвы ў аўтамабілі чакаў паведамленняў пра вынікі атакі. Увесь дзень польскія батальёны беспаспяхова штурмавалі горад. *"Першы батальён 2-га пяхотнага палка легіёнаў (які наступаў з поўначы) быў спынены ў Закасанцы. Моцна абстрэльваўся з бронецягніка. Польскім салдатам ўдалося пераразаць чыгунку Ліда-Маладзечна і ўварвацца ў прадмесце горада. Уступілі ў вулічны бой, здабываючы дом за домам. Вялікія страты, выкліканыя агнём бронецягніка, панесла 4-я рота. Батальён, урэшце, быў выбіты з Ліды. Капітан Э. Чаплінскі загадаў ізноў ісці ў наступленне: пакуль 3 і 4 рота штурмавалі першыя дамы, 1-я рота капітана К. Ажахоўскага падарвала ручнымі гранатамі чыгуначную каляю паміж Закасанкай і Закасанкай-Далінай, знішчыўшы яе на працягу некалькіх метраў. Артылерыя пашкодзіла два цягнікі.... Батальён панёс, аднак, цяжкія страты -13 забітых і 68 параненых"*. Казармы Паўночнага гарадка штурмавалі легіянеры 3-га батальёна 4-га палка, у баі загінулі 13 легіянераў, 80 былі паранены. 1-ы батальён 3-га палка страціў 12 чалавек забітымі і 26 параненымі.

**У ноч на 17 красавіка** Ю. Пілсудскі перакінуў пад Ліду яшчэ два пяхотныя батальёны 2-й дывізіі легіёнаў, лепшыя свае часткі: 2-гі батальён 5-га палка (камбат капітан Б. Монд) і 1-шы батальён 6-га палка (камбат капітан С. Млота-Парчынскі) пад агульным камандаваннем маёра Стэфана Домб-Бярнацкага (1890-1959). Пад полагам начной цемры палякі спрабавалі ўзламаць абарону горада.

**17 красавіка** ў 4 гадзіны раніцы польскія батальёны рынуліся на горад з усіх бакоў. Батальёны 2-й дывізіі легіёнаў з поўдня ўздоўж чыгункі праравaліся да вакзала. Батальёны Сувальскага палка (камандзір Мечыслаў Мацкевіч) узялі цэнтр горада.



*Камандзір 41-га Сувальскага пяхотнага палка **Мечыслаў Мацкевіч** (1880-1954).*

На чыгуначнай станцыі былі захоплены бронецягнік, некалькі эшалонаў са зброяй і амуніцыяй, узяты ў палон 350 чырвонаармейцаў. *"Горад двойчы пераходзіў з рук у рукі, асабліва зацятым быў бой каля сцен замка. Загінула палова каманднага складу 3-га Сядлецкага палка, шмат салдатаў палка, а таксама Сямён Камянецкі і Міша Каміонскі, Юліс Ілютовіч. Кіраваў абаронай горада Няпраўскі разам з гарадскімі камсамольцамі"*. Адступаўшыя з горада па Іўеўскай дарозе рэшткі 3-га Сядлецкага і 6-га Гарадзенскага палкоў суправаджала польская кавалерыя з 7-га палка люблінскіх уланаў маёра Глухоўскага. Пад Бердаўкай 1-шы эскадрон уланаў пад камандаваннем паручніка З. Пясецкага атакаваў адступаўшых чырвонаармейцаў. Загінуў улан Ежы Дабрагойскі. У памяць пра гэтую падзею мастак А. Сарновіч напісаў карціну.

Абодва рэвалюцыйныя палкі, 3-і Сядлецкі і 6-ы Гарадзенскі, да вечара 17 красавіка спынілі сваё існаванне. Першая савецкая ўлада пратрымалася ў Лідзе 100 дзён. Падземскі, Шыфмановіч і Калясінскі



***А. Сарновіч. Атака 1-га эскадрона 7-га палка ўланаў пад Бердаўкай***

пакінулі Ліду з чырвонаармейцамі. Сегень застаўся. У той жа дзень польскія легіянеры ўчынілі ў Лідзе габрэйскі пагром. Па афіцыйных дадзеных былі забіты 39 габрэяў (34 з іх былі апазнаны).

Пагром лідскіх габрэяў выклікаў адмоўную рэакцыю ў Польшчы і за мяжой. *"17 красавіка 1919 г. польскія ваенныя ўзброеныя ўлады адваявалі Ліду ў рускіх бальшавікоў. Пасля таго, як горад патрапіў у рукі палякаў, салдаты працягвалі наступаць і рабаваць хаты габрэяў. За час гэтага рабавання было забіта 30 габрэяў. Мноства габрэяў, уключаючы і мясцовага рабіна, у той жа дзень былі ў адвольным парадку арыштаваны польскімі ўладамі і ўтрымоўваліся ў зняволенні без ежы і ў агідных брудных умовах на вул. Каменская, 60. Габрэяў таксама прыгаворвалі да выканання прымусовых работ, не прымаючы да ўвагі шаноўны ўзрост ці слабы фізічны стан. Няма адлюстравання таго, што вінаватыя былі пакараны, ці ж прадпрымаліся меры, каб нейкім чынам пакрыць страты ахвярам рабаўнікоў"* (З дакладу старшыні амерыканскай камісіі Г. Моргентаў).

**18 красавіка** Прэзідэнт Рады Лідскага павета С. Здановіч на вакзале вітаў Ю. Пілсудскага. Снесараў А.Е. запісаў у дзённіку: *"...падобна, што агульнае наступленне ўсюды: я страціў Ліду і ледзь не страціў Сіняўку і Баранавічы, на Мурмане адступленне, а сёння запатрабавалі ад мяне брыгаду "з прычыны склаўшагася становішча на Паўднёвым фронце ў Нікітаўку... відавочна і там штосьці важнае".* Польскія часткі пад камандаваннем генерала Адама Макрэцкага ўзялі Наваградак.

**19 красавіка** конная група Уладзіслава Беліны-Пражмоўскага (1888-1938) атакавала Вільню. *"У 4 гадзіны раніцы, у суботу пад Вялікдзень, сотня польскіх легіянераў захапіла раптам вакзал. Чалавек трыццаць чырвонаармейцаў на вакзале ў паніцы пакідалі зброю і кінуліся на ўцёкі. Усе падазроныя для легіянераў асобы на вакзале зараз жа арыштоўваліся, збіраліся да 70 чалавек у таварны вагон ці расстрэльваліся на месцы. Да непрыяцеля адразу ж пачалі далучацца ўзброеныя чыгуначнікі. Былыя міліцыянеры з цыдулкамі ад ксяндзоў, савецкія супрацоўнікі, вайскоўцы тылавых і штабных устаноў, пажарныя, былыя гарадавыя і, нарэшце, проста бандыты - апошнія ў надзеі на спажыву пры пагроме - усе ішлі да легіянераў".* Да 9 гадзінам раніцы праціўнік захапіў вялікую частку горада, Кафедральны пляц і Замкавую гару. Віленскія чыгуначнікі падалі чыгуначны састаў на ст. Беняконі для пагрузкі пехацінцаў групы генерала Рыдз-Сміглага. Пілсудскі ў Беняконях кіраваў рухам войскаў на Вільню. Аддзел колькасцю 200 багнетаў і 150 шабель быў адпраўлены са станцыі Ліда. Польскія часткі ўзялі Баранавічы.

**20 красавіка** польскія часткі захапілі ключавыя пазіцыі ў Вільні і пачалі абстрэльваць вуліцы з гармат. Чырвонаармейцы Пскоўскай дывізіі пакінулі Вільню. Урад Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Літвы і Беларусі пераехаў у Менск. У Вільню прыбыў Юзаф Пілсудскі, сустрэты лікаваннем жыхароў. У Кафедральным саборы адбылося ўрачыстае набажэнства.

**22 красавіка** у Лідзе натоўп католікаў падчас службы ўварваўся ў Сабор Міхаіла-Арханёла, абразіў протаіерэя Іосіфа Каяловіча, разграміў іканастас і выкінуў на двор абразы.

Пілсудскі ў Вільні выступіў са зваротам да на-




***Віленская аперацыя польскіх войскаў 16-22 красавіка 1919 г (з кнігі Davies N. Orzel bialy Czerwona Gwizda. Krakow. 2000. S.21).***

родаў былога Вялікага Княства Літоўскага.

**23 красавіка** ў Лідзе ў прыходскім доме было знойдзена цела протаіерэя Іосіфа Каяловіча 1835 г.н. са слядамі збівання.

**27 красавіка** нямецкія войскі перадалі Гародню польскім часткам пад камандаваннем палкоўніка Фрэя. Уначы арыштаваны актывісты беларускага нацыянальнага руху.

**Травень**

**1-5 траўня** антысавецкае паўстанне ў Паўночнай Літве, задушана часткамі Чырвонай Арміі.

**10 траўня** польскія часткі ўзялі Смаргонь.



***Серадніцкі Аляксандр Уладзіслававіч (1886-1926)***

**У траўні** ўрад Францыі правёў экіпіроўку і арганізаваў перакідванне ў Польшчу 70-тысячнага польскага войска генерала Юзафа Галера (Халера, 1873-1960) са складу французскіх узброеных сіл. Літоўскі ўрад пачаў фармаваць літоўскае войска. Наступ на поўдні Расіі пачала Добраахвотніцкая армія пад камандаваннем генерала Дзянікіна. Украінскую Народную Рэспубліку ўзначаліў Сямён Пятлюра.

**14** траўня войскі генерала Ю. Галера ўступілі ў бой у Галіцыі.

**24 траўня** камандаванне 1-ай польскай авіягрупы разам з 4-ай выведвальнай эскадрыллю (камандзір ротмістр Аляксандр Серадніцкі) пераехала з віленскага аэрадрома Парубанак у Ліду. У эскадрыллі 4 самалёты: два "Albatros C-III" і два "Roland CL-II".

**25 траўня** аддзел маёра Уладзіслава Дамброўскага, да якога ў студзені далучыліся Лідская і Шчучынская Самаабароны, прыбыў на месячны адпачынак у Ліду. У Вільні адбыўся "Усеагульны сход беларусаў горада Вільні".

**Чэрвень**

**1 чэрвеня** ў Гародні разззброены 1-ы беларускі полк БНР. Выдадзены дэкрэт УЦВК "Пра аб'яднанне савецкіх рэспублік Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Беларусі для барацьбы з узброенай інтэрвенцыяй".

**3 чэрвеня** 1-ы беларускі полк БНР расфармаваны, салдат-католікаў перавялі ў польскія казармы, праваслаўных дэмабілізавалі, афіцэраў інтэрнавалі.

**9 чэрвеня** Літоўска-Беларуская чырвоная армія пераназвана ў 16-ю армію.

**9-10 (9-12,12-14) чэрвеня** ў Вільні праведзены з'езд беларускіх дэлегатаў Віленшчыны і Гарадзеншчыны. З'езд падтрымаў ідэю стварэння федэратыўнай Літоўска-Беларускай дзяржавы і Беларускага народнага войска. Была абрана Цэнтральная Беларуская Рада Віленшчыны і Гарадзеншчыны, якую ўзначаліў Клаўдзій Дуж-Душэўскі (1891-1959).

**12 чэрвеня** на Лідскім аэрадроме пры ўзлёце загінулі паручнік Рамуальд Вярмінскі і падпаручнік грамадзянін ЗША Уладзімір Рыце: *"... пасля старту самалёт "Roland CL.II " на вышыні 50 м сарваўся ў штопар і ўрэзаўся ў зямлю. Пілот загінуў імгненна, а назіральнік памёр назаўтра ў шпіталі".*



***Вярмінскі Рамуальд (1890-1919)***

**14 чэрвеня** паміж дзяржавамі Антанты і Польшчай складзена адмысловая дамова, польскае войска паступіла ў падначаленне галоўнакаманду-




*Лінія фронту на 28 чэрвеня 1919 г.*

ючага ўзброенымі сіламі Антанты маршала Фердынанда Фоша.

**21 чэрвеня** два самалёты 4-ай эскадрыллі, якія стартавалі з Лідскага аэрадрома, бамбілі чыгуначную станцыю Менск. Прыцэльна скінулі каля 150 кг бомбаў паручнік Віктар Вілман, падпаручнікі Кучынскі і Крынскі, сяржант Цагасек.

**25 чэрвеня** Рада міністраў замежных спраў Англіі, Італіі, Францыі і ЗША дазволіла Польшчы акупаваць Галіцыю з Львовам.

**28 чэрвеня** ў Версальскім палацы пад Парыжам падпісаны мірная дамова паміж Германіяй і краінамі Антанты. Польшча атрымала Познань і Заходнюю Прусію.

**У чэрвені** ў сувязі з пагромам габрэяў Ліду наведалі амбасадар ЗША ў Польшчы Х. Гібсан, прадстаўнік Амерыканскага аб'яднанага габрэйскага камітэта забеспячэння "Джоінт" Б. Боген, кіраўнік місіі амерыканскага Чырвонага крыжа ў Польшчы У. Бэйлі.

**Ліпень**

**1 ліпеня** польскія войскі пачалі наступленне, занялі Вілейку.

**2-3 ліпеня** 4-ая эскадрылля выканала з Лідскага аэрадрома 5 баявых вылетаў. Удзельнічалі: паручнікі Біскупскі, Юркевіч, сяржанты Камянкоўскі, Хаінскі, Цагасек і назіральнікі: паручнікі Крынскі і Менчак, падпаручнік Кучынскі.

**4 ліпеня** польскія войскі занялі Маладзечна.

1**3 ліпеня** І. Сталін Леніну з Менска: *"Сёння меў нараду з чальцамі Літбел урада ў Менску. Канстатую поўную непатрэбнасць урада і Менскага Савета абароны, неабходнасць іх самароспуску і ўваходжання іх чальцоў у органы фронту. Чальцы Літбел урада выказалі поўную згоду, патрабуецца толькі згода ЦК партыі".* Міцкевіч і Далецкі па прамым провадзе ў ЦК : *"Да нас прыбыў Сталін і прапанаваў нам сёння ж часова ліквідаваць рэспубліку Літвы і Беларусі, цалкам распусціўшы нашы ЦВК і Саўнаркам і перадаць уладу грамадзянскую ў губвыканкамы, а абарону - РСФСР. ... па пытанні пра ліквідацыю рэспублікі мы выказваемся за яе фармальнае існаванне па наступных меркаваннях: па-першае, (гэта можа) пацягнуць за сабой дэзарыентацыю ў асяроддзі партыйных тава-*




*Ю. Пілсудскі са сваім штабам у Маладзечне*

*рышаў і ў працоўных колах, галоўным чынам па той бок фрон-ту; па-другое, абцяжарыць працу нашых таварышаў за дэмаркацыйнай лініяй; па-трэцяе, дасць магчы-масць польскай ці літоўскай буржуазным партыям вінаваціць Савецкую Расію ў анексіанізме; па-чацвё-ртае, будзе невыгодна Савецкай Расіі (у выпадку) магчымых перамоў з Польшчай…"*.

**17 ліпеня** Літоўска-Беларуская ССР (Літбел) перастала існаваць.

**19 ліпеня** саўнаркам Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Літвы і Беларусі перадаў усе справы Менскаму губернскаму Рэўваенкамітэту.

**22 ліпеня** зняты з пасады камандуючы Заходняга фронту Д.Н. Надзёжны.

**25 ліпеня** польскія часткі занялі Слуцк.

**31 ліпеня** *"Беларускае пытанне цесна звязана з развіццём нашых ваенных дзеянняў на ўсходзе і залежыць ад таго, як далёка змогуць прасунуцца нашы войскі. Ва ўсякім разе, Віленская і Гарадзенская губерня павінны быць пакінуты выключна ў сферы польскага ўплыву, і беларускі рух на гэтых тэрыторыях адмыслова падтрымліваць не варта.."* (Свяхоўскі М., нач. палітычнага аддзела дэпартамента ўсходніх земляў).

**У ліпені** выведвальныя палёты з Лідскага аэрадрома для штаба Літоўска-Беларускага фронту правялі лётчыкі паручнік Артур Юркевіч, сяржанты Тадэвуш Комінкоўскі і Цагасек з назіральнікамі паручнікамі Крынскім, Менчаком і падпаручнікам Кучынскім. Падхарунжы Аляксандр Хаінскі з 1-й эскадрыллі на Albatros-е С.Х ажыццявіў тры вылеты, у адным з іх спыніў браняваную дрызіну Чырвонай Арміі. Два вылеты ажыццявіў падхарунжы 1 эскадрыллі Багуцкі.

У Лідзе ў ліпені быў сфармаваны Навагрудскі полк.

**Жнівень**

**6 жніўня** польскія войскі занялі Клецк і Нясвіж.

**8 жніўня** ўвечар пасля шасцігадзіннага бою 2-я дывізія легіёнаў і 4-я Познанская дывізія занялі Менск.

**10 жніўня** ў Менску створаны Часовы Беларускі нацы-янальны камітэт (ЧБНК) для *"ўзняцця нацыянальнага самаадчування, духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускага народа, а таксама абарона нацыянальных, культурных і рэлігійных яго інтарэсаў"*.

**12 жніўня** прадстаўнікі партый і грамадскіх аб'яднанняў абралі прэзідыум ЧБНК. Старшынём абралі Аляксандра Прушынскага, намеснікам - Усевалада Ігнатоўскага.

**20 жніўня** Польскі Генеральны камісарыят апублікаваў загад: дзяржаўная мова - польская, беларуская мова "дазваляецца" ў паўсядзённым ужытку.

**25 жніўня** войска Літвы вызваліла Зарасай - апошні апорны пункт Чырвонай Арміі.

**29 жніўня** пала Бабруйская цвердзь, польскія войскі занялі Бабруйск.

**30 жніўня** войска Літвы дасягнула берагоў Заходняй Дзвіны.

**У канцы жніўня** 4 я эскадрылля перабазавалася з Лідскага аэрадрома на аэрадром Сляпянка пад Менскам. Пілсудскі аддаў загад спыніць наступленне.

Уладу на беларускай тэрыторыі ажыццяўляў Польскі Генеральны камісарыят Усходніх земляў на чале з Ежы Асмалоўскім (1872-1952). Сялянскія саветы разагнаны, заснаваны 4 акругі: Віленская, Берасцейская, Валынская і Менская, якія ў сваю чаргу падзелены на паветы на чале са старастамі. Цывільная адміністрацыя падпарадкоўвалася ваеннаму камандаванню.

**Верасень**

**3 верасня** ў Ліду прыехаў, прызначаны пробашчам і дэканам ксёндз Гіпаліт Баярунец (1872-1948).

**11 верасня** ўрад РСФСР прызнаў Літоўскую дзяржаву і прапанавала літоўскаму ўраду скласці мірную дамову.

**12 верасня** Дабраахвотніцкая армія Дзянікіна пачала наступленне на Маскву.

**18 верасня** Галоўная рада Польскай сацыялістычнай партыі прыняла рэзалюцыю пра неадкладнае спыненне вайны з РСФСР.

**18-19 верасня** ў Менску знаходзіўся Пілсудскі: *"Менск з самай раніцы набыў святочны выгляд: усе будынкі ўпрыгожаны сцягамі, зелянінай, транспарантамі. Усюды бачныя партрэты Начальніка дзяржавы"*.

**19 верасня** Пілсудскі выступіў перад прадстаў-




***Ю. Пілсудскі ў Менску***

нікамі менскіх грамадскіх арганізацый з прамовай на беларускай мове, заявіў пра неабходнасць дзяржаўнасці для беларусаў.

**У верасні** лідскі дэкан ксёндз Гіпаліт Баярунец стварыў парафію ў Крупе (цяпер Крупава), першым пробашчам быў ксёндз Станіслаў Мікульскі. Польскія войскі выйшлі на поўначы Беларусі на берагі Заходняй Дзвіны.

**Кастрычнік**

**10 кастрычніка** Вярхоўная Рада Антанты абвясціла эканамічную блакаду РСФСР.

Пілсудскі накіраваў на ст. Мікашэвічы свайго асабістага прадстаўніка капітана Ігнацыя Бернера для неафіцыйных перамоваў пра перамір'е з савецкім урадам.

**19 кастрычніка** Літоўска-Беларускую дывізію па загадзе польскага камандавання падзялілі на 1-ю і 2-ю Літоўска-Беларускія дывізіі. Літоўцаў у складзе дывізій практычна не было.




***Наступленне польскіх войскаў у 1919 г. З кнігі Шыра-карада А."Даўняя спрэчка славян"***

**22 кастрычніка** Пілсудскі падпісаў дэкрэт, якім дазваляў сфармаваць два беларускія батальёны і зацвердзіў кіраўніцтва Беларускай вайсковай камісіі (П. Аляксюк, А. Аўсянік, А. Прушынскі, Г. Канапацкі, Ф. Кушаль, С. Рак-Міхайлоўскі, Ю. Мурашка, А. Якубецкі, Д. Якубоўскі). Палкоўнік Гасан Канапацкі быў прызначаны камандуючым беларускімі вайсковымі часткамі.

**27 кастрычніка** перагаворшчык з савецкага боку Юльян Мархлеўскі (1866-1925) у тэлеграме на імя Чычэрына пісаў: *"Я глыбока перакананы, што мы прыйдзем да дамоўленасці пра таемнае спыненне ваенных дзеянняў".*

**29 кастрычніка** ён дадаў: *"Неафіцыйны прадстаўнік Пілсудскага Бернер заяўляе: "Палякі атакаваць не будуць. Яны жадаюць паразы Дзянікіна". Пераконваюць, што вы можаце зняць войскі з фронту. Я думаю - ім можна верыць".*

**У кастрычніку** польска-бальшавіцкі фронт у Беларусі ўсталяваўся па лініі Полацак - Лепель - Бярэзіна і да Прыпяці, на фронце запанавала зацішша.

**Лістапад**

**10 лістапада** ў Менску аднавіла сваю дзейнасць Рада БНР.

**12 лістапада** ў Літве прыняты закон пра выбары ва ўстаноўчы сойм.

**13 лістапада** Рэўваенсавет Заходняга фронту заснаваў карны орган - Надзвычайную тройку.

**20-22 лістапада** войска Літвы каля Радвілішкіса разбіла ўварваўшыхся з Латвіі бермантаўцаў -

узброеных немцаў і рускіх белагвардзейцаў.

**Снежань**

**8 снежня** Вярхоўная Рада Антанты прыняла Дэкларацыю пра часовыя ўсходнія межы Польшчы па лініі Керзона (лініі этнаграфічнай перавагі палякаў).

**13 снежня** Рада БНР раскалолася на антыпольскую Народную Раду БНР на чале з Пятром Крэчаўскім і кабінетам міністраў на чале з Вацлавам Ластоўскім і прапольскую Найвышэйшую Раду БНР на чале з Іванам Серадой і ўрадам на чале з А. Луцкевічам.

**15 снежня** польска-бальшавіцкія перамовы завяршыліся безвынікова. З Літвы цалкам выведзены бермантаўцы.

**17 снежня** польскія ўлады арыштавалі міністраў урада Ластоўскага "за правядзенне нелегальнага сходу", далі распараджэнне пра роспуск Народнай Рады БНР.

**22 снежня** Наркамзамспраў РСФСР накіраваў Польшчы ноту, у якой сведчыў пра жаданне спыніць канфлікт.

**З траўня па снежань** у Лідзе знаходзіўся штаб Літоўска-беларускага фронту на чале з генералам Station Шаптыцкім.



***Станіслаў Шаптыцкі (1867-1950)***

Былі закрыты Лідская Свята-Міхайлаўская і Васілішская цэрквы, у іх адкрыты рымска-каталіцкія касцёлы. Знешні доўг Польшчы дасягнуў 162 млн. даляраў.

У якасці адмысловага меркавання: *"Саюзнікі стварылі незалежную Польшчу ў выніку Сусветнай вайны, якая каштавала велізарных ахвяр… Да няшчасця, Польшча не была задаволена сваімі дзяржаўнымі межамі. Яна пасварылася з Літвой і захапіла літоўскую тэрыторыю. Яна ўварвалася ў Расію і акупавала тэрыторыю, населеную ад 20 да 30 мільёнамі рускіх. Яна настаяла на далучэнні 3500 тыс. украінцаў, нягледзячы на іх рэзкі пратэст. Яна не змагла дамовіцца з чэхамі. Яна стварыла цяжкасці ў пытанні пра Данцыг. Польшча фактычна перасварылася з усімі сваімі суседзямі, уключаючы Германію".* ***Дэвід Ллойд-Джордж. 9 ліпеня 1920 г.***

**Асноўныя першакрыніцы:**

Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918-1920 гг. Сборник документов и материалов. Т.1. Минск. 1968.

Wyszczelski L. Wojna polsko-rosyjska 1919–1920. T. 1. Warszawa. 2010.

Гражданская война в СССР. Москва. 1986.

Грицкевич А.П. Западный фронт РСФСР 1918-1920. Борьба между Россией и Польшей за Белоруссию. Минск. 2010.

Dziczkaniec J. Samoobrona Ziemi Lidzkiej. Lida. 1938.

Какурин Н.Е. Русско-польская кампания 1918-1920. Москва. 1920.

Lezenski C. Kwatera 139. Opowiesc o marszalku Redzu-Smiglym. Lublin.1989.

Сліўкін В., Хацяновіч Н. Першыя саветы // Лідскі Летапісец. 1999. №7.

Tarkowski K.A. Lotnictwo polskie w wojnie z Rosja Sowiecka 1919-1920. Warszwa. 1991.

Из дневника 1918-1919 годов А.Е. Снесарева. Электронный ресурс http://os.x-pdf.ru/20rasnoe/755333-1-iz…

Лида 1919 — разменные знаки Ревкома. Электронный ресурс slideshare.net›mbeliavski/212-1919.

Северный городок. 3-й Седлецкий полк Западной дивизии РККА. Электронный ресурс Северный городок. 3-й Седлецкий полк Западной дивизии РККА.

Сталин в Беларуси. Электронный ресурс https://www.sb.by/articles/stalin-v-belarusi.html.

Mission of the United States to Poland. American commission to negotiate peace. Paris. Oct. 3, 1919.

*Паводле lida.info.*

***Павел Улезень***

# Штурм Ліды 16 - 17 красавіка 1919 года




Планаванае наступленне на Вільню мела ісці ўздоўж чыгункі Ліда-Вільня. Выбар гэтага кірунку вымагаў, каб у першую чаргу быў нейтралізаваны праціўнік, які займаў раён Ліды.

Рэйдавая група на Вільню выйшла 16 красавіка. У гэты самы дзень атакавала Ліду.

Расклад сілаў.

Палякі:

Групоўка, якая атакуе Ліду - ген. Юзаф Лясоцкі.

Група маёра М. Рыся-Таяноўскага:

- 3 батальёны пяхоты (1-шы батальён 2 пп легіёнаў, 1-шы батальён з 3 пп легіёнаў і 3-ці батальён з 4 пп легіёнаў;

- адна батарэя палявой артылерыі і дзве батарэі цяжкай артылерыі з 1-ай пд легіёнаў.

Група маёра J. Галухоўскага:

- 2 і 1/2 эскадрона кавалерыі 7 палка, 3-ці эскадрон 4 палка, эскадрон кавалерыі Мазавеччыны.

Група маёра М. Мацкевіча:

- два батальёны з Сувальскага палка стральцоў;

Група маёра Азевіча:

- 6-я рота Сувальскага палка стральцоў адна




батарэя артылерыі і плутон 7-га палка

Рэзервы:

2-гі батальён 5 пп легіёнаў і 1-шы батальён 6 пп легіёнаў.

Расейцы:

Ліда - 1100 салдат з 3-й брыгады стральцоў Заходняй дывізіі;

3-ці Сядлецкі полк - камандзір Ф. Рупневіч;

1-шы батальён 6-га Гарадзенскага палка - камандзір І. Кукуеў;

бронецягнік;

два дывізіёны артылерыі.

Апоўначы выцяў 1-шы батальён 2-га пп легіёнаў. Легіянеры занялі асаду Закасанка (вул. Свярдлова) і адтуль выцялі на горад. Адна рота дайшла да чыгуначнага вакзала, а другая на ўсходняе прадмесце Ліды - Зарэчча (вул. Калініна). На падмогу расейцам прыбыў бронецягнік. Абодва аддзелы былі спынены непрыяцелем і выбіты з горада. Батальён 2-га пп легіёнаў адступіў на пазіцыі каля чыгункі Ліда - Вільня. Падчас чарговага наступу пасля падрыву чыгуначнай каляі на даўжыню звыш 10 метраў, калі рамонтныя падраздзелы з бронецягніка пачалі рамантаваць каляю, агонь 2 батальёна 3 п цяжкай артылерыі аказаўся трапным. Снарад польскай гарматы патрапіў у склад боепрыпасаў, выбух якога знішчыў цягнік.

1-шы батальён 3 пп легіёнаў і 3ці батальён 4 пп легіёнаў атакавалі казармы, якія знаходзіліся пад горадам (Паўночны гарадок). Аднак і гэтыя баі закончыліся няўдачай.

Аддзелы Сувальскага палка стральцоў занялі




зыходныя пазіцыі ў ваколіцах Цыбары-Раклёўцы, паласа наступлення абмяжоўвалася з аднаго боку чыгункай Ліда-Масты, з другога - шашой Ліда-Мыто. Наступаць меліся роты 1-я, 3-я і 7-я, а таксама рота цяжкіх кулямётаў. Правае крыло забяспечвала 8-я рота, а 5-я рота знайходзілася ў вёсцы Бельскія. У тыле заставаліся 2-я і 4-я роты.

Наступленне пачалося на світанні, аднак заспець непрыяцеля знянацку не ўдалося. 7-я рота ў цемры высунулася далёка наперад і пад флангавым агнём непрыяцеля панесла вялікія страты. 1 і 3 роты, пера-адольваючы моцны супраціў, занялі прадмесці Слабады і захапілі чыгуначны вакзал. Пасля захопу вакзала аддзелы рушылі ў цэнтр горада, аднак тут былі прыбіты да зямлі кулямётамі і акружаны непрыяцелем. Нягледзячы на дапамогу рэзервовай 4-й роты палякі мусілі адступаць як з горада, так і з вакзала.

У гэты час 7-я і 8-я роты разбілі непрыяцеля ў вёсцы Даліна і, выкарыстоўваючы гэтую ўдачу, маёр Мацкевіч аддаў загад 2-й і 8-й ротам атакаваць горад (13.00). Наступленне ўдалося, і палякі зноў захапілі вакзал, а таксама дадаткова могілкі. Каля 15.00 непрыяцель контратакаваў і палякі паўторна былі выбіты на прадмесце Слабады. Баі трывалі далей, і вечарам у трэці раз палякі часова занялі чыгуначны вакзал.

Група маёра Азевіча без поспеху прабівалася на Ліду з кірунку Сялец-Мінойты.

На вестку пра гэтую няўдачу Пілсудскі вырашыў затрымаць марш ударных груп на Вільню і ўзмацніць войскі, якія атакавалі Ліду, двума батальёнамі з 5-га 6-га па легіёнаў (прызначанымі для групы ген. Рыдз-Сміглага), якія якраз прыбылі чыгуначным

транспартам.

На світанні 2-гі батальён 5 пп легіёнаў рушыў уздоўж чыгуначнай каляі проста ў бок вакзала. Узаемадзейнічаючы з батальёнам 6 пп легіёнаў, 2-гі батальён 5 пп легіёнаў пасля кароткага, хоць зацятага бою вакзал узяў.

Расейцы адступалі на ўсход, іх пераследавалі польскія ўланы, якія ў пагоні дапялі да мясцовасці Ліпнішкі. Пасля ўзяцця Ліды Пілсудскі выдаў загад узнавіць марш на Вільню.




***Здымак Ліды з самалёта.***

*Леанід Лаўрэш*

# Новае з гісторыі ўніяцкай царквы на Лідчыне: царква ў Дзікушках і прыватнаўласніцкія капліцы ў Вялікім Мажэйкаве і Красулях

У Бібліятэцы Чартарыйскіх (Biblioteka Ksiazat Czartoryskich), якая з'яўляецца філіялам Кракаўскага Нацыянальнага музея, ёсць рукапісная кніга падсумавання дакументаў графаў Хадкевічаў (Rkp.857/1), напісаная ў 1808 і 1817 гг.[1] Не ведаю, ці захаваліся да нашага часу дакументы, пералічаныя ў кнізе, але нават вывучэнне іх кароткіх апісанняў дае шмат цікавай для нас інфармацыі[2].

З канца XVII ст. Вялікім Мажэйкавам валодалі Хадкевічы: Ян Караль (1686-1712), потым - яго сын Берасцейскі ваявода Адам Тадэвуш (1711-1745), які быў жанаты з Евай Разаліяй (1715-1769) і жыў у Вялікім Мажэйкаве, потым, яго сын Ян Мікалай (1738-1781), Жмудскі кашталян, які ў Вялікім Мажэйкаве ўжо не жыў[3].

Ева Разалія мела другі шлюб з Якубам Гутэн-Чапскім і ў ніжэй цытаваных дакументах запісана як Разалія Чапская.

Нагадаю, што ў 1784 г. калятарка царквы - Хадкевіч, жонка Берасцейскага ваяводы[4], а ў - 1792 г. Хадкевіч, Жмудскі староста[5].

У 53-тым сшытку (fascykul) пераліку дакументаў Хадкевічаў узгадваецца кантракты і квіткі падпісаныя ці выдадзеныя рамеснікам на пабудову афіцыны ў Вялікім Мажэйкаве і царквы ў Дзікушках, а таксама на інструмент для пабудовы Мажэйкаўскай капліцы і на абсталяванне самой капліцы. Гэтыя дакументы паходзяць з 1764-1769 гг.

6 жніўня 1764 г. мітрапаліт Усёй Русі Філіп Феліцыян Валадкевіч дае дазвол на капліцу ў Вялікім Мажэйкаве.

14 кастрычніка 1765 г. паміж ЯВп Разаліяй Чапскай ПЗП (падскарбінай зямель прускіх) і будаўнічым п. Антонам Зэмбрыцкім, падпісваецца дамова на пабудову Мажэйкаўскай афіцыны.

23 лютага 1767 г. у Вільні падпісваецца дамова паміж камісарам ЯВп Гайжэўскім і ўчцівым Рыгорам Мяшакіным (?), майстрам цяслярскага мастацтва, аб пабудове царквы ў Дзікушках, у маёмасці ЯВп Чапскай, ПЗП[6].

6 верасня 1767 г. заключаны кантракт паміж ЯВп Гайжэўскім, камісарам ЯВп Чапскай, ПЗП, з аднаго боку, і сталяром сп. Андрэем Павэлкам, мастаком Антонам Шпакоўскім, з другога боку, на выраб крыжоў для Дзікушскай царквы і іх афарбоўку.

9 чэрвеня 1768 г. падпісваецца кантракт паміж ЯВп Чапскай, ПЗП, і яўрэем Саламонам, шкляным майстрам, на выраб вокнаў для Дзікушскай царквы.

12 чэрвеня 1768 г. паміж камісарам Чапскай Явп Гайжэўскім і п. Войцехам Вішнеўскім, майстрам сніцарскага мастацтва, падпісваецца кантракт на выраб фігуры "Пана Езуса на Крыжы" для вялікага алтара Дзікушскай царквы.

18 кастрычніка 1769 г. ЯВпп Якуб і Разалія Чапскія, ПЗП, атрымліваюць царкоўны дазвол на капліцу ў Вялікім Мажэйкаве ад ЯВкс. Караля Карпа, Віленскага афіцыяла.

9 снежня 1769 г. з'яўляецца рэестр рухомасці і розных рэчаў, якія засталіся пасля смерці ЯВп Чапскай для Мажэйкава (верагодна з капліцы)[7].

**Дзікушская царква**

Такім чынам, як бачна з вышэй цытаваных дакументаў, каля 1770 г. была пабудавана новая, драўляная Дзікушская царква[8]. Пры будаўніцтве царквы цесляроў узначальваў віленскі майстар цяслярскага мастацтва Рыгор Мяшакін, работы па вырабе і афарбоўцы крыжоў выканаў сталяр Андрэй Павэлак і мастак Антон Шпакоўскі. Шкло для вокнаў зрабіў майстар Саламон (яўрэі яшчэ не мелі прозвішчаў), а майстар сніцарскага мастацтва Войцех Вішнеўскі вырабіў фігуру Ісуса на Крыжы для вялікага алтара царквы.

Цікавым з'яўляецца тытулаванне майстроў: майстар цяслярскага мастацтва Рыгор Мяшакін названы "ўчцівым". Вядома, што ў ВКЛ, гэтак называлі паважаных месцічаў, якія займалі высокія пасады ў гарадскім самакіраванні ці былі кіраўнікамі рамесных цэхаў. Сталяр Андрэй Павэлак і майстар сніцарскага мастацтва Войцах Вішнеўскі - "паны", верагодна, яны шляхціцы. Мастак Антон Шпакоўскім і яўрэй Саламон запісаны без тытулаў.

Пра стан Дзікушскай царквы мы можам даведацца з актаў візітацый цырынскага дэкана Васіля-Нупрэя Марцінеўскага ў 1784 г.[9] і полацкага суфрагана Адрыяна Тапор-Бутрымовіча ў 1792 г.[10] Рэчы, выробленыя вышэй згаданымі майстрамі, ёсць у акце візітацыі, новая царква *"драўляная, на падмурку, добра пабудаваная, са склепам, гонтай крытая, з памастацку зробленымі крыжамі, з дзвюмя вежамі, на якіх жалезныя пазалочаныя крыжы, пасярэдзіне фацыята з жалезным пазалочаным крыжам, па баках два бляшаныя вазоны, пасярэдзіне купал з жалезным пазалочаным крыжам, на гэтым крыжы чатыры меншыя пазалочаныя крыжы. Усе гэтыя крыжы з бляшанымі puklami*[11]*. Могілкі агароджаны плотам з старой парушанай званіцай на слупах, саломай крытай, з трыма званамі і сігнатуркай .... Хоры* (царквы - *Л.Л.) упрыгожаны балясамі і гзымсамі. Столь з дошкі, падлога з цэглы. Лаўкі з абодвух бакоў сталярнай работы, з правага боку сакрысціі, дзверы на жалезных завесах з унутраным замком. Два вялікія*

*акны з белага шкла, апраўленага ў дрэва. Прастол з шуфлядамі, дзе знаходзяцца царкоўныя рэчы. Амбон пафарбаваны, сніцарскай работы, пры амбоне, перад вялікім алтаром, пафарбаваныя балясіны стрыжнямі жалезнымі падпёртыя, з дзверцамі на падвойных жалезных завесах з пакрывалам гарусавым чырвоным, пры якіх спавядальня сталярнай работы. ... Царква мае восем калон ...*

*Вялікі алтар сталярскай і сніцарскай работы, пафарбаваны ў чорны колер, з абразам Найсв. Панны, Міласэрнасцю Слыннай ... Вялікае драўлянае ўкрыжаванне з корпусам. ... Над дараносіцай распяцце сніцарскай работы, пафарбаванае ... у футляры за шклом"*[12].

Паколькі на самой царкве былі ўсталяваны жалезныя пазалочаныя крыжы, таму, верагодна, сталяр Андрэй Павэлак і мастак Антон Шпакоўскі зрабілі настольныя ўкрыжаванні для ўнутраных інтэр'ераў. А пафарбаванае распяцце сніцарскай работы ў галоўным алтары захоўвалася за шклом.

Вось такую, цікавую інфармацыю пра новую драўляную царкву ў Дзікушках, якая ў першай палове XIX ст. была заменена на мураваную, удалося адшукаць у архіве.

**Вядомы наступныя грэка-каталіцкія святары гэтай царквы.**

А. Ян Скарымскі ў 1732 г. служыў святаром у Дзікушках, з 1754 па 1764 гг. - лідскі дэкан[13].

У 1767 г. узгадваецца святар Дзікушскай царквы Бафталоўскі[14].

А. Антон Свідэрскі быў прэзентаваны Жамойцкім старастам Янам Мікалаем Хадкевічам, высвечаны і інсталяваны мітрапалітам Валадкевічам. У 1790 г. фігуруе як святар у Дзікушскай царкве[15]. 15 лістапада 1781 г. у Кансісторыі слухалася справа аб абвінавачванні дзікушскага параха Антонія Свідэрскага *"в неблагоповедении"* [16].

У 1790 г. вікарый царквы а. Міхал Гамаліцкі (сын Адама). Ён вучыўся ў Віленскім Папскім алюмінаце, прэзентаваны канцлерам ВКЛ Аляксандрам Міхалам Сапегам у 1783 г. (у Варшаве) і ў 1784 г. інсталяваны мітрапалітам Я. Смагаржэўскім. У 1792 г. узгадваецца як святар Дзікушскай царквы[17].

А. Ян Канеўскі нарадзіўся ў 1764 г. Да 1837 г. служыў святаром царквы ў Дзікушках. З 1817 г. займаў пасаду Лідскага віца-дэкана і з 1819 па 1836 г. Лідскага дэкана, гэтую пасаду ён добраахвотна пакінуў у 1836 г. З 1819 па 1834 гг. - Берасцейскі канонік. *"Звычаяў ухвальных, дзеля таго, што чытае, ведае шмат, можа даваць навуку (парафіянам)"* [18]. З паслужных спісаў уніяцкага духавенства ад 1828 г., даведваемся, што Ян Канеўскі - сын Адама. Вучыўся ў Вегруўскай вучэльні[19]. У духоўнае званне ўступіў у Берасці ў 1796 г. і стаў адміністратарам Мялейчыцкай царквы і адначасова капеланам пры рыма-каталіцкім біскупе ў плябаніі гэтай царквы. Падчас службы ў Берасцейскай епархіі, як капелан, знаходзіўся пры двары Хадкевічаў у Жытомірскай губерні. З 1802 г. пачаў служыць у Дзікушскай царкве. З 1810 г. быў экзаменатарам Лідскага дэканата. Жалавання не атрымліваў і жыў з прыхаджан і царкоўнага фундушу. У 1828 г., маючы ўзрост 65 г., быў нежанаты і не меў дзяцей. *"Кансісторыяй неаднаразова камандзіраваўся ў розныя месцы для працы ў Духоўныя камісіі а так жа на розныя следствы і пасяджэнні ў Лідскім павятовым судзе"* [20].

У 1837 г. вікарыем Дзікушскай царквы служыць а. Стэфан Шальгіна[21].

### Прыватнаўласніцкія капліцы

У XVIII ст. у Лідскім дэканаце меліся наступныя капліцы пры грэка-каталіцкіх цэрквах: Ганчарская царква мела капліцу ў Гаўі[22], Голдаўская - у Бярэзінічах[23], Дзікушскай царква мела капліцу пры плябаніі[24], Жыжмянскай царква мела капліцу (ці філіяльную царкву) у Бердаўцы[25], Зблянская - у Крывічах[26], Лябёдская - у Паваргах[27], Лідская - у Ольжаве і Курасёўшчыне[28], царква ў Нагародавічах мела капліцу ў Зачэпічах[29].

Цікавай з'явай ёсць прыватнаўласніцкія грэка-каталіцкія капліцы пры дварах мясцовых землеўладальнікаў - рыма-каталікаў. Наяўнасць гэтых капліц кажа пра станоўчыя адносіны землеўладальнікаў да грэка-каталіцкай царквы.

#### *Капліца ў Вялікім Мажэйкаве*

Як я ўжо пісаў (гл. вышэй) дазвол на капліцу ў Вялікім Мажэйкаве 6 жніўня 1764 г. даў мітрапаліт Усёй Русі Філіп Феліцыян Валадкевіч.

У Кракаве, у архіве Хадкевічаў[30] у Інвентары маёнтка Вялікае Мажэйкава ад 1793 г. захавалася апісанне гэтай грэка-каталіцкай капліцы са спісам начыння каліцы: *"Капліца ў канцы парку, насупраць палаца, мураваная з цэглы і атынкаваная, пад гонтавым дахам, з фацыятай. Уваход праз падвойныя дзверы на завесах і з клямкай жалезнымі, з унутраным жалезным замком. Столь з дошак, падлога з цэглы, шэсць вокнаў у драўляных рамах"* [31]. Спіс царкоўнага начыння гл. у дадатках.

У Інвентары 1802 г. таксама падаецца апісанне капліцы, з якога бачна, што падвойныя ўваходныя дзверы былі заменены на аднастворкавыя: *"У канцы саду ... насупраць палаца. Вымураваная з цэглы і атынкаваная, крытая гонтай, з фацыятай. Уваход праз аднастворкавыя фасаваныя дзверы на жалезных завесах і круках, з унутраным замком і жалезнымі скобамі. Падлога з цэглы, а столь з дошак, умацаваных ліштвамі. Вокнаў, якія адчыняюцца з жалезнымі кратамі - 6. У алтары - 3 фарбаваныя прастолы. Дзве падвойныя шафы сталярнай работы з сасновых дошак ... з жалезнымі завесамі і меднымі французскімі замкамі са званкамі"* [32].

Парк маёнтка меў сіметрычную рэгулярную планіроўку. Складаўся з параднага партэру і сістэмы баскетаў, падзеленых сеткай грабавых, ліпавых і кляновых алеяў. Кампазіцыйная вось парку пачыналася брамай і завяршалася капліцаю. У паўднёва-ўсходняй частцы парку была альтанка. Ад альтанкі да нашага часу захаваліся прыступкі і падмурак[33].

З інвентара, бачна, як капліца ўпісвалася ў палацавы сад: *"Сад лінейны, дасканалы, за палацам, закладзены ў даўнія часы ў форме квадрата. ... агароджаны драўляным парканам. У садзе з аднаго і другога боку*

*прамая шпалерная лінія з дрэваў: клёнаў, ліп, грабаў і каштанаў пасаджаных у закрытых месцах па 5 квадратных куп у якіх ёсць і розныя пладовыя дрэвы. А ў канцы бакавых купаў, з аднаго і другога боку, каля праспекта, які ідзе ад палаца да капліцы, шпалерамі высаджаны грабы. Фруктовыя дрэвы нядаўна прышчэпленыя ..."* [34]

Згодна з касцельным дзённікам касцёла ў Ішчалне, у 1801 г. 1 300 грэка-католікаў, якія належалі да Маламажэйкаўскай царквы, былі прыпісаны да гэтай капліцы ў Вялікім Мажэйкаве[35].

Зразумела, што гаспадары маёнтка не жадалі перадачы сваёй капліцы праваслаўнай царкве, і ў часы скасавання уніі капліца прыходзіць у заняпад. Да 1905 г. у садзе маёнтка Вялікае Мажэйкава, які тады належаў Станіславу Грабоўскаму, заставаліся толькі руіны капліцы. Пасля 1905 г. па праекце віленскага архітэктара Тадэвуша Раствароўскага, капліца была адноўлена як рыма-каталіцкая. Вось што пра гэта пісаў пляменнік Станіслава Грабоўскага і сын Тадэвуша Раствароўскага Андрэй Раствароўскі: "*За домам пачынаўся сад. Былі там шэрагі грабаў трохметровай вышыні, якія змыкаліся ўверсе, лабірынты, альтанкі, а на пустых месцах раслі пладовыя дрэвы. У канцы, каля мура была капліца. Яе рысунак у свой час выканаў мой бацька. Да 1905 г. забаранялася будаваць капліцы і касцёлы ..."* [36].

Адзін з апошніх уладальнікаў Ішчалны Караль Лясковіч пісаў пра дзейнасць Вялікамажэйкаўскай капліцы ў 1930-х гг.: *"У Вялікім Мажэйкаве таксама стаіць капліца філіяльная да Ішчалнянскага касцёла. Капліца фундавана ў XVIII ст. графам Хадкевічам. У святы, калі набажэнствы ў капліцы не адпраўляліся, уладальнікі і жыхары Вялікага Мажэйкава прыязджалі ў Ішчалну"* . І ў другім месцы сваіх успамінаў ён занатоўвае: *"У канцы парку вялікая, мураваная капліца, пабудаваная ў XVIII ст. старасцінай Хадкевіч і перабудаваная на пачатку XX ст. Грабоўскім па праекту архітэктара Тадэвуша Раствароўскага"* [38].

Гэтая капліца была зруйнавана пасля 1939 г.

### *Красулі*

Ёсць падставы лічыць, што прыватная капліца ў Красулях пачынала існаваць як грэка-каталіцкая. З вопісаў парафій Лідскага дэканату ад 1784 г. даведваемся, што ў Жалудоцкай парафіі, знаходзяцца *"дзве ўніяцкія цэрквы, адна ў Дзікушках , яснавяльможнага панства Хадкевічаў, стаіць у самім фальварку Дзікушкі, другая Орля ў мястэчку Орля і капліца ў Красулях васпанства Губарэвічаў ..."* [39].

Вось што можна даведацца пра Красулі са "Слоўніка геаграфічнага". Пасля таго як цар Васіль III у 1523 г. забраў Смаленск, адтуль прыбыў Васіль Губар. З-за таго, што ён страціў маёнтак, наўзамен атрымаў ад караля Жыгімонта І маёмасць Красулі, якая ўтварылася праз аддзялення ад Жалудка "30 служб". Губары жылі тут 9 пакаленняў і з XVII ст. пачалі пісацца Губарэвічамі. Мелі розныя пасады у павеце, атрымлівалі праўныя прывілеі ад розных каралёў[40]. У 1567 г. Цімафей і Ян Губарэвічы ставілі з маёнтка 2 коннікаў у войска.

Капліца пра якую ідзе гаворка, стаяла ў парку, пасярод вельмі старых высокіх таполяў, пабудаваная яна з дрэва (з лістоўніцы), мела цудадзейны абраз Маці Божай з дзіцяткам. Гэта быў якасны, добра захаваўшыйся абраз ўсходняга тыпу, меў срэбныя шаты тонкай работы. Абраз меў воты, частка вотаў паходзіла з XIX ст. Мелася мясцовае паданне, што Васіль Губар гэты абраз на сваіх уласных плячах прынёс пешшу са Смаленска і тут пабудаваў для яго капліцу. Паданне цвердзіць, што ў 1757 г. перад сваёй смерцю Губарэвіч загадаў унуку[41] паставіць на тым жа месцы новую, мураваную капліцу[42], але гэтае пажаданне не было выканана ажно да 1939 г. Гэтай легендзе пярэчыць нататка кс. Курчэўскага ў яго кнізе "Віленскае біскупства" [43], якая падае, што новая капліца была пабудавана Лідскім стражнікам Губарэвічам у 1764 г. Праўдападобна, што тастамант дзеда выкананы ўнукам не цалкам, бо новая капліца была таксама пабудавана з дрэва. У 1939 г. стан капліцы быў цалкам задавальняльны. Капліца мела шэраг прывілеяў ад віленскіх біскупаў.

З XVIII ст. капліца ў Красулях атрымала вядомасць у сувязі з паломніцтвам да цудатворнага абраза "Маці Божай з дзіцяткам" ці "Маці Божай Красульскай", якая цяпер знаходзіцца ў капліцы пры Жалудоцкім касцёле[44]. Цудадзейны абраз быў адназначна візантыйскага ўзору і, наогул, зразумела, што капліца ад пачатку магла быць толькі ўсходняга абраду. Дакладна вядома, што каля сярэдзіны XVIII ст. капліца ў Красулях з'яўляецца рыма-каталіцкай[45].

У 1831 г. Юлія Губарэвіч выйшла замуж за Яноўскага. З гэтага часу Красулі сталі маёмасцю Яноўскіх.

У 1920-30-х гг. маёнтак Красулі (двухсотгектарная рэшта калісьці сярэдняга па памерах маёнтка) належаў Марыі Яноўскай. Па плошчы Красулі можна было лічыць простым фальваркам. Драўляны, добры і дастаткова вялікі дом быў аточаны маленькім паркам, за якім рос пладовы сад з гародам.

Пасля Першай сусветнай вайны тут жыла Марыя Яноўская, жонка ўнука першага ў Красулях Яноўскага. Мела 3 дзяцей: сына Тэафіла і дзве дачкі - Марыю і Зоф'ю. Тэафіл і Зоф'я памерлі бяздзетнымі. На момант выбуху вайны ў 1939 г. у маёнтку знаходзіліся: бабуля Марыя Яноўская (узрост каля 80 гадоў), яе дачка Пракульская з Яноўскіх (каля 50 гадоў) і ўнучка Зоф'я Корзан з Пракульскіх (26 гадоў). Бабуля з дачкой былі ўдовамі, муж унучкі, афіцэр польскай арміі ў выніку вераснёўскай кампаніі патрапіў у нямецкі палон і знаходзіўся ў Офлагу. Пасля прыходу Чырвонай Арміі, унучка, як жонка польскага афіцэра, уцякла з маёнтка і перабралася ў Варшаву, дзе жыла з сынам, пасля Варшаўскага паўстання перабралася ў Кракаў. У маёнтку засталіся толькі старэйшыя жанчыны.

У 1942 г., падчас нямецкай акупацыі пачалі фармавацца партызанскія аддзелы і звычайныя банды. У палове 1942 г. адна з гэткіх банд, якая складалася з цёмных элементаў, прыйшла пагуляць у Красульскі двор. Прыйшлі з самагонкай, а закуску знайшлі на месцы - абрабавалі спіжарню ўдоў. Упіўшыся, бандыты выцягнулі кабет і перарэзалі ім горла нажом, потым, каб не псаваць настрой, выкінулі трупы ў кусты.

Красулі можна было залічваць да нешматлікіх маёнткаў, якія існавалі больш за 400 гадоў і ніколі не былі прададзены. Валодала гэтым маёнткам заўсёды адна і тая ж сям'я, але апошнія 100 гадоў маёнтак пераходзіў па кудзелі[46].

Дадаткі[47]

**Спіс розных рэчаў у капліцы Вялікага Мажэйкава**

Абраз пана Езуса ўкрыжаванага - 1 шт.
Абразоў у блакітных рамах - 3 шт.
Абразоў намаляваных на палатне - 8 шт.
Абразоў за шклом у большых рамах - 4 шт.
Абразоў за шклом у меншых рамах - 2 шт.
Абразоў гіпсавых, пазалочаных - 2 шт.
Абразоў гіпсавых, гладкіх - 3 шт.
Прастол з адной прыступкай - 1 шт.
Рэліквіяраў за шклом - 4 шт.
Укрыжаванне разьбянае, з дрэва - 1 шт.
Дараносіца - 1 шт.
Шафа для бялізны - 1 шт.
Шуфляда для святарскай вопраткі - 1 шт.
Звон вісячы - 1 шт.
Ванначка для вады - 1 шт.
Абрус на прастол, з ядвабы - 1 шт.
Арнатаў з усімі праналежнасцямі - 2 шт.
Хустак алтарных - 5 шт.
Хустак для келіхаў - 4 шт.
Мшал жалобны, рымскі - 1 шт.
Службоўнік рускі - 1 шт.
Ампулак шкляных - 2 шт.
Абраз Пана Езуса за шклом, малы - 1 шт.
Рэліквіяраў за шклом - 2 шт.
Рэліквіяраў без шкла - 1 шт.
...
Касцельных рэчаў - 50 шт.

**Спасылкі і каментары:**

[1] Аўтар выказвае вялікую падзяку выдатнаму беларускаму гісторыку, к.г.н. Генадзю Семянчуку, за магчымасць папрацаваць з яго фотакопіямі дакументаў Бібліятэкі Чартарыйскіх.

[2] У гэтых дакументах, нумарацыя старонак, дзе яна ёсць, зроблена па старонках, а не па аркушах.

[3] Aftanazy R. Dzieje rezydencji. T. 4. Wroclaw, 1993. S. 229.

[4] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 109.

[5] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 15.

[6] Muzeum Narodowe s Krakowe. Biblioteka Czartoryjskich. Sygn. Rkp.857/1. S. 163/188.

[7] Там жа. S. 164/189.

[8] Інфармацыя пра папярэднюю царкву ёсць у "поданьи" (перадачы) 31 ліпеня 1732 г. Дзікушскай царквы і прыходу Лідскаму протапрасвітару Яну Скарымскаму. Дакумент змяшчае вопіс царкоўнай маёмасці: *"Царква драўляная, з адным купалам, на ім жалезны крыж, дах нанова пакрыты гонтаю ... Срэбная чаша старадаўняй работы, пазалочаная, паламаная ... Евангелле рукапіснае старадаўняе ... Цудатворны абраз Найсвяцейшай Панны Чанстахоўскай. Царкоўная адзежа, кнігі, пабудовы (плябанія), зямля і сяляне (12 мужчын з 2 канямі і 6 валамі)"*

[9] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 109-113адв.

[10] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 15-18адв.

[11] Падстаўка-ножка

[12] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 15-15адв.

[13] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. Мінск, 2015. С. 479.

[14] Там жа. С. 137.

[15] Там жа. С. 473.

[16] Там жа. С. 396.

[17] Там жа. С. 199.

[18] Там жа. С. 281.

[19] У горадзе Венгрўў сучаснага Мазавецкага ваяводства.

[20] Архив Лидского благочиния. Ф. 1., Оп. 1., Д. 9. Арк. 244.

[21] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. Мінск, 2015. С. 555.

[22] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127.

[23] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127 адв.

[24] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 16 адв.

[25] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 39.

[26] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127 адв.

[27] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127 адв.

[28] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127-127 адв.

[29] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127адв.

[30] AMCh - Archiwum Mlynowski Chodkiewiczow (Архіў Млыноўскі Хадкевічаў).

[31] AMCh. Sygn. 2718. Ark. 7 obr.

[32] AMCh. Sygn. 2719. Ark. 6.

[33] Лаўрэш Л. Круцікаў У. Мажэйкаўскія сядзібна-паркавыя комплексы // Спадчына. 2001. №1-2. С. 206-212.

[34] AMCh. Sygn. 2719. Ark. 6.

[35] Круцікаў У., Лаўрэш Л. Гісторыя парафіі ў Ішчалне // Наша слова. 2005. 15 чэрвеня.

[36] Rostworowski Andrzej. Ziemia, ktorej juz nie zobaczysz. Warszawa, 2001. C. 458.

[37] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 47.

[38] Там жа. S. 73.

[39] Парафія Жалудоцкая // Лідскі летапісец. 2014. № 2 (66). С. 14.

[40] Slownik Geograficzny Krolestwa Polskiego i innych krajow slowianskich. T. IV. Warszawa, 1883. S. 647.

[41] Верагодна, гэта Губарэвіч Радабыльскі Пётр Ежы - лідскі каптуровы суддзя (1763), лідскі гродскі суддзя і абозны (1765, 1778-1789, 1798), дэпутат ГТ ВКЛ (1774), уладальнік фальварка Красулі і Брулеўшчына Лідскага павета і Карытніцы Слонімскага павета - *Л. Л.*

[42] Slownik Geograficzny Krolestwa Polskiego i innych krajow slowianskich. T. IV. Warszawa, 1883. S. 647.

[43] Jan Kurczewski. Biskupstwo wilenskie od jego zalozenia az do dni obecnych, zawierajace dzieje i prace biskupow i duchowienstwa diecezji wilenskiej oraz wykaz kosciolow, klasztorow, szkol i zakladow dobroczynnych i spolecznych, 1912. S. 209., 481.

[44] Kalamajska-Saeed Maria. Kosciol parafialny p.w. Wniebowziecia Najsw. Marii Panny w Zoludku. бS. 187.

[45] Kalamajska-Saeed Maria. Kosciol parafialny p.w. Wniebowziecia Najsw. Marii Panny w Zoludku // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 215-216.

[46] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 85-86.

[47] AMCh Sygn. 2718. Ark. 7 obr.

***Леанід Лаўрэш***

# Прыход у Радзівонішках

Верагодна, першай згадкай пра Радзівонішкі, быў межавы акт паміж маёмасцю Геранiма Хадкевiча i маёнткам Радзівонішкі Яна Камаеўскага, падпісаны ў Лебядзе ў 1554 г.

Я знайшоў згадку пра Радзівонішкі на судовым працэсе паміж ЯВ князямі Карыбут-Вішнявецкімі і ЯВП Катлубаямі, Гурыновічамі і Быкоўскімі аб застаўной маёмасці Радзівонішкі, працэс цягнуўся з 1644 да 1671 г.[1]

У 1690 г. Радзівонішкамі (60 дымоў) валодала Барбара Халхоўская[2].

Царква Св. Ганны была пабудавана з дрэва "дзедічам" - законным спадчыннікам і гаспадаром маёнтка Радзівонішкі Халхоўскім у 1696 г.[3] і, верагодна, гэта была не першая царква.

Дзедзіч маёнтка Радівонішкі ЯП Антон Халхоўскі 15.08.1729 г. фігуруе ў якасці гаранта тастаманта памёршага ЯП Войцаха Стацэвіча. Потым, верагодна, адбыўся нейкі канфлікт, бо ў кастрычніку 1729 г. быў складзены спіс таго, што ЯП Халхоўскі *"гвалтоўна забраў з маёнтка Радзівонішкі"* [4] ў адміністратара маёнтка Стацкевіча.

У 1784 г. двор Радзівонішкі належаў ЯВП Касцялкоўскаму, старасту Чатырскаму. Аднак, царква была ў вёсцы Манкаўцы, якая належала ЯВП Касакоўскаму, акрамя царквы тут мелася карчма, і ў вёсцы жыло *"найбольш русі"* [5] - гэта значыць, уніятаў ці беларусаў.

Царква была пабудаваная каля старажытнага гасцінца, які перад падзеламі Рэчы Паспалітай, стаў вялікім трактам Гародня - Ліда і быў задуманы і выкананы як паштовая дарога. Станцыі са стайнямі для паштовых коней і корчмамі былі размешчаны праз 10-12 км. Самыя блізкія паштовыя станцыі да Радзівонішак стаялі ў Залебеддзі, потым Ішчалне, Шчучыне і г. д. Тракт складаўся з выраўненай шырокай ездні, уздоўж якой шэрагамі раслі бярозы, яны стваралі прыгожыя алеі. Унутры кожнай алеі заставалася дадатковая стужка, якая дазваляла раз'ехацца дзвюм карэтам. Межы тракта пазначаліся равамі. Шырыня кожнай з бочных алей, званых "прысадамі", разам з ровам дасягала 10 м.

На карце сярэдзіны XIX ст. бачна, што на поўнач ад царквы знаходзілася вёска Манкаўцы (назва зараз знікала, гэта і ёсць вёска Радзівонішкі), а на поўдзень - двор маёнтка Радзівонішкі.

У 1784 г. царква пад тытулам Бязгрэшнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі: *"... драўляная, старая, крыжовая* (па-форме - *Л. Л.*), *на каменным фундаменце, патрабуе рамонту"* [6]. Парафія складалася з Манканцоў (28 дамоў), Задворцаў (12 дамоў), Цвербутаў (39 дамоў), разам - 80 дамоў, 540 душ. Царква знаходзілася ў калятцыі Нарбута, Лідскага стольніка[7]. Антон Ян Нарбут быў Лідскім стольнікам з 23.02.1784 па 26.01.1795 г. З 1797 г. займаў пасаду маршалка лідскай шляхты[8]. Быў сынам Казіміра, мечніка, войскага і потым маршалка Лідскага павета. Жанаты з Кларай з Плятэраў, сужэнцы мелі дачку Казіміру - жонку Юзафа Гружэўскага[9], якога праслявіў у сваіх мемуарах Браніслаў Мірон Нарбут[10].

У 1792 г. царква: *"Драўляная, цалкам па-новаму адрамантавана, пабудавана ў форме крыжа на каменным фундаменце. Дах з новай гонты, купал з жалезным крыжам, у ім сігнатурка. Могілкі на 25 локцяў, часткова агароджаны, агароджа патрабуе значнага рамонту. За царквой, каля агароджы могілках, званіца на чатырох слупах, абабіта габляванымі дошкамі. На званіцы адзін звон вагой у чатыры камяні"* [11].

Як бачым, Нарбуты адрамантавалі царкву, і ў 1792 г. яна знаходзілася ў калятцыі ЯВП Нарбута[12], Лідскага войскага. З 1776 па 1807 г.(?) Лідскім войскім з'яўляўся Дамінік Нарбут[13] (? - пасля 1807?), брат Антона. Пасол на сойм 1764 г., на якім аддаў свой голас за караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Стараста

[1] Biblioteka Czartoryjskich. MNK. Rkp.857/1. Fascykul № 9. Аркушы без нумара.

[2] Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Ksiestwa Litewskigo. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 224.

[3] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 551.

[4] Biblioteka Czartoryjskich. Archiu Drucko-Lubeckich. Sygn. 13135. Аркушы без нумара.

[5] Рыбак Андрэй. Парафія Дылеўская // Лідскі летапісец. 2013. № 4(64). С. 34-35.

[6] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 98 адв.

[7] Там жа.

[8] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. Pod redakcja Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2004. T. 1. S. 392.

[9] Polski Slownik Biograficzny. T. XXII. S. 529-530.

[10] *"Юзаф Гружэўскі, капітан польскіх войск, мяжовы суддзя Лідскага павета і апошні прэзідэнт гродскі Лідскі, нарадзіўся ў 1760 г., памёр у 1845 г., у 1826 г. набыў ад герцага дэ Біёль фальварак Кульбакі, 11 км ад Ліды і тут жыў да смерці"* - цыт па: Нарбут Мірон Браніслаў. Лідскі павет у сярэдзіне XIX ст // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 6. Укладальнікі: Леанід Лаўрэш, Аляксандр Фядута. Мінск, 2015. С. 120-121.

[11] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 21.

[12] Там жа.

[13] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. Pod redakcja Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2004. T. 1. S. 401.

міжэвіцкі (у Слонімскім павеце) з 1771 г., Лідскі чашнік ў 1770-74 гг. і войскі ў 1775-94 г. У 1789 г. абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Пасол на сойм 1782 г. і Чатырохгадовы сойм 1788-92 гг., член "Згуртавання сяброў урадавай уставы", у 1791 г. галасаваў за канстытуцыю. Падпісаў Віленскі акт паўстання 1794 г., член Найвышэйшай літоўскай рады (яе сакратар, член крымінальнага суда). Дзеяч Парадкавай камісіі Лідскага павета. Пасля задушэння паўстання яго расшуквалі як адказнага за смяротнае пакаранне гетмана Ш. Касакоўскага. Пры канцы жыцця Дамінік Нарбут жыў у Радзівонішках, куды да яго, пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, прыехаў брат Казімір. Дамінік Нарбут быў жанаты з Ружай з Касцялкоўскіх[14]. Сужэнцы мелі сыноў Юзафа (нарадзіўся каля 1780 г.), Яна, Мікалая (нарадзіўся ў 1783 г.), Францішка (нарадзіўся ў 1794 г.), Вікенція і дачок Брыгіту і Барбару[15]. Дамінік і Ружа Нарбуты валодалі домам у Лідзе па вуліцы Віленскай.

У Радзівонішках частку жыцця правёў актыўны дзеяч Камісіі нацыянальнай адукацыі, навуковец, ксёндз, перакладчык, аўтар першага польскамоўнага падручніка логікі Казімір Нарбут. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г., ён адышоў ад грамадскага жыцця і падаўся на Лідчыну, у Радзівонішкі, у маёнтак свайго брата Дамініка. У кнізе "Казімір Нарбут" прафесар Ірэна Стасевіч-Ясюкова на гэты конт піша наступнае: *"У гэтыя гады нацыянальнай паразы Нарбут вырашае таксама адмовіцца ад пасады пробашча як у Радзыміне, так і ў Лідзе, пакідаючы толькі тытулярную годнасць парадыскага абата…*

*Радзівонішкі, якія павінны былі стаць жыццёвым прыстанкам Казіміра Нарбута, знаходзяцца недалёка ад Ліды і ракі Дзітвы. Засмучаны ходам палітычных падзей, пазбаўлены веры і ўсялякіх аўтарытэтаў, 57-гадовы ксёндз вырашыў правесці рэшту свайго працавітага жыцця ў цішы братавага маёнтка. І так сталася, што гэтаму рашэнню ён быў верны 12 гадоў, г. зн. да часу сваёй смерці. Адзіным выключэннем быў выезд у Ліду ў 1801 годзе, каб асвяціць краевугольны камень пад касцёл, які меліся будаваць піяры. Гэта было цалкам зразумела таму, што Нарбут, нягледзячы на секулярызацыю, заставаўся ў вельмі добрых адносінах са сваімі ордэнскімі братамі, дапамагаючы ім у розных абставінах…. Але гэта было ўжо мінулае, да якога ён не хацеў вяртацца. Што ён рабіў у маёнтку брата, невядома, але мы можам здагадацца. Напэўна, заняўся гаспадаркай. Біёграф Антоні Машынскі, піяр, запісаў толькі, што Казімір Нарбут пасля кароткай хваробы, у здаровым розуме, пасля прыняцця святых таінстваў памёр у Радзівонішках 17 сакавіка 1807 года. Ён быў пахаваны ў папярэдне падрыхтаваным адзенні святара "ў склепе ўніяцкай царквы", якая знаходзілася на тэрыторыі маёнтка"* [16]. Слядоў магілы Казіміра Нарбута, як і слядоў уніяцкай царквы, у крыпце якой ён быў пахаваны, не захавалася. Магчыма, перад зносам царквы, вучоны піяр быў перазахаваны.

У царкоўным архіве канца XVIII ст. мелася копія фундушу з актавых кніг Лідскага земскага суда ад 13.03.1745 г.[17] і акты візітацый: 1784 г. - Васіля-Нупрэя Марцінеўскага, Цырынскага дэкана[18], 1792 г. - Адрыяна Тапор-Бутрымовіча, суфрагана Полацкага[19]. У 1784 г. у царкоўным архіве захоўваліся візіты 1 сакавіка 1754 г. - Гарадзенскага сурагатара Антона Бялькевіча, 11 студзеня 1758 г. - Навагрудскага сурагатара Аляксандра Высеўскага, 21 траўня 1763 г. - Гарадзенскага сурагатара Антона Бялькевіча, 15 снежня 1768 г. і 4 лістапада 1772 г. - Лідскага дэкана Пятровіча[20].

Па класіфікацыі Д. В. Лісейчыкава Радзівонішскую плябанію можна аднесці да бедных, што не дзіва, бо парафія была малая.

Архіў уніяцкіх мітрапалітаў захаваў асобныя фрагменты з гісторыі гэтай парафіі. Дакументы 1725 і 1748 г. прыводзяць факты неналежнага выканання святарскіх абавязкаў: адпаведна Янам Герасімовічам і Стэфанам Паплаўскім (невыкананне ўмоў утрымання фундушу, з'яўленне ў прыход без "прэзенты" (дазволу) калятара[21], пропускі набажэнстваў) і строгага рэагавання на гэта духоўнага начальства[22].

19.08.1783 г. Казімір Касцялкоўскі выдаў прэзенту святару Марціну Ваўчановічу на пасаду адміністратара царквы ў Радзівонішках. Ваўчановіч быў высвечаны Пінска-тураўскім біскупам Г. Дашковічам-Гарбацкім 24.04.1783 г.[23]

08.09.1786 г. Лідскім войскім Дамінікам Нарбутам быў прэзентаваны на пасаду адміністратара царквы Палікарп Хазановіч, *"звычаяў незаганных, навук сярэдніх"* [24].

У студзені 1797 г. інстыгатар Лідскага дэканата Ян Мыслевіч разбіраў справу пра "цуд", які адбыўся ў Радзівонішскім прыходзе, дзе кіраваў адміністратар[25] царквы той самы Палікарп Хазановіч. Хазановіч

[14] Polski Slownik Biograficzny. T. XXII. S. 530-531.
[15] Нарбут А.Н. Нарбуты Гродненской губернии. Москва, 1998. С. 50.
[16] Стасевіч-Ясюкова І. Казімір Нарбут. Варшава - Ліда, 2004. С. 65-66.
[17] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 100 адв.; НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 22.
[18] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 98 адв. - 101.
[19] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 21 - 22 адв.
[20] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 100 адв. - 101.
[21] Калятар - асоба, якая ўнесла сродкі на пабудову царквы, касцёла і мае адпаведнае права адносна яе.
[22] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 86, 124.
[23] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. Мінск, 2015. С. 172.
[24] Там жа. С. 528.
[25] Калі царква паўгода не мела параха, для часовага кіравання ёй прызначаўся адміністратар.

абвінавачваўся ў тым, што ён ці яго падначалены прымацаваў на ліпе, якая расла на могілках каля царквы, абраз Найсвяцейшай Панны Чанстахоўскай. Потым, зняўшы кару, абраз усталявалі ў дрэва, так, як быццам ён цудоўна там з'явіўся, пра што было разгалошана людзям, і *"цудоўнаму"* абразу пачалі публічна чыніць *"чэсць"*, а потым усталявалі яго ў царкве. Адміністратар пакляўся, што ні ён сам, ні яго падначалены не займаліся падманам, пра цуд нікому не казалі і не ведаюць, хто здзейсніў гэтую справу. Хазановіч быў прысуджаны падчас кангрэгацыі Лідскага дэканата прасіць прабачэнні ў інстыгатара, супраць яго ён зласловіў, а потым, пачынаючы з 15 лютага - да рэкалекцый пры царкве дэкана Гарбацэвіча ў Моўчадзі[26].

З 1795 г. Хазановіч пераведзены ў царкву вёскі Нагародавічы[27].

У Віленскім архіве захоўваецца "Справа аб жыцці і звычаях аспіранта (прэтэндэнта на пасаду святара) ВП Цыпрыяна Плаўскага, ад 24 лістапада 1803 года". Гэты надзвычай цікавы дакумент для разумення механізму рэкрутацыі грэка-каталіцкага святарства цалкам я падаю ў дадатках.

З дакумента можна даведацца, як у 1803 г. у Нагародавіцкай плябаніі Лідскага дэканата разбіралася справа аб высвячэнні святарскага сына Цыпрыяна Плаўскага ў святары, малады Плаўскі, *"асірацеўшы на шостым годзе жыцця пасля (смерці) бацькі, пакінуў месца свайго нараджэння, нідзе пастаяннага месца жыхарства не меў і знаходзіўся на працягу шасці гадоў у розных месцах і на розных работах, у асноўным, у межах Лідскага дэканата, і ён збіраецца атрымаць прыход у гэтым дэканаце і тут жа ажаніўся"*[28]. Далей, *"у 15 гадоў патрапіў да святара Хазановіча, ... ў Радзівонішкі,* (той) *не чуў пра яго нічога дрэннага"*[29].

Справа пачалася распараджэннем біскупа Язафата Булгака, які даручыў Лідскаму дэкану Стэфану Гарбацэвічу, згодна з кананічным правам і рашэннямі Замойскага сабору, правесці належнае расследаванне.

Гарбацэвічу належала высветліць:

1-е. Чый сын Цыпрыян Плаўскі і якога ён роду;

2-е. Дзе, кім і калі быў ахрышчаны і бежмаваны;

3-е. Пры кім і дзе ў маладыя гады знаходзіўся, чым займаўся і як сябе паводзіў у маладосці;

4-е. Дзе набываў веды неабходныя для святарскага сану, і якім чынам; ці не заражаны якой-небудзь ерассю або вальнадумствам;

5-е. Якіх паводзінаў: ці не схільны да п'янства, да азартных гульняў, да сварак; ці шануе старэйшых, ці далікатны з роўнымі;

6-е. Ці здаровы, ці не пакутуе вар'яцтвам, ці не мае падучай ці якой-небудзь іншай хваробы;

7-е. Які мае сямейны стан: халасты або жанаты; з дзяўчынай або ўдавой уступіў у шлюб; якое стаўленне людзей да яго жонкі;

8-е. Па якіх прычынах жадае ўступіць у духоўнае званне: як даўно рашыў пайсці на гэтую вакансію, ці бачны ў ім дух пакоры, пабожнасці, старання аб славе Божай і выратаванні бліжняга;

9-е. Якія мае кананічныя правы, неабходныя для становішча, ці дастатковыя яны для прыстойнага існавання (забеспячэння); ці не атрымаў іх шляхам змовы, ці будзе мець іх і потым, а не толькі зараз, калі трэба атрымаць пасвячэнне на царкоўнае званне;

10-е. Ці мае царкоўны прыход, на які будзе прызначаны аспірант, фундуш, якой якасці, ці ў мірным валоданні парахаў ён знаходзіцца, ці з вялікай колькасці парафіяльных душ складаецца, колькі налічвае мужчынскага і жаночага насельніцтва[30].

Каб даць адказы на пытанні біскупа, дэкан павінен быў стварыць камісію і апытаць сведкаў, *"сярод якіх (павінна быць) не менш за два капланы, якія добра ведаюць названыя абставіны"*, і *"даведацца пра ўсе абставіны і запячатаны пакет (з матэрыяламі следства), з дадаткам усіх дакументаў якія адносяцца да справы, сведчанні, а таксама метрыкі аб хрышчэнні і вянчанні, засведчаныя (Вамі) асабіста, даслаць у нашу кансісторыю. Для чаго Васпана надзяляем неабходнымі паўнамоцтвамі і ўладай"* [31].

Сведкамі выступілі а. Сямён Радзецкі, адміністратар Марозавіцкай царквы, а. Ян Радкевіч, вікарый Зблянскай царквы, гаспадар з вёскі Турэйск ва ўзросце 36 гадоў Данель Валюк (непісьменны), непісьменны селянін з вёскі Радзівонішкі ва ўзросце 60 гадоў Геранім Стасюкевіч, гаспадар з вёскі Нагародавічы ва ўзросце 70 гадоў Антоні Зубарэвіч (таксама непісьменны). Паседжанні адбыліся 5 лютага 1803 г. у Нагародавіцкай плябаніі[32].

Усе сведкі добра выказаліся пра Цыпрыяна Плаўскага. Было засведчана, што ён сын святара, пасля смерці бацькі жыў у свайго дзеда, святара Цыпрыяна Плаўскага, параха Окалавіцкага, а пасля смерці дзеда ў свайго дзядзькі па бацьку, святара Дамініка Плаўскага. Потым (пераехаў) да святара Рамана Плаўскага ў Жухавічы і там вучыўся чытаць і пісаць, пасталеўшы, пераехаў у плябанію царквы ў Радзівонішках да святара Хазановіча, зараз вучыцца і рыхтуецца да святарскага звання ў Лаўрышаве, характар у яго прыстойны, разважлівы, спакойны і паслухмяны, ён здаровы і ад якіх-небудзь хваробаў не пакутуе, ажаніўся з дачкой святара, прыстойнай дзяўчынай з добрай рэпутацыяй, мае святарскае пакліканне, у ім

[26] Археографический сборник документов, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1902. Т. 13. С. 128-129.

[27] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. Мінск, 2015. С. 528.

[28] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 7. Спр. 134. Дело о рукоположении Киприана Плавского за 1803 г. Арк. 5.

[29] Там жа. Арк. 5 адв.

[30] Там жа. Арк. 1 - 2.

[31] Там жа. Арк. 2.

[32] Там жа. Арк. 4.

ёсць пакорлівасць і жаданне служыць Госпаду Богу, ужо атрымаў прэзенту на Турэйскую парафію і, калі будзе правільна гаспадарыць, дык будзе мець сродкі для існавання[33].

Да матэрыялаў следства былі дададзены:

- Выпіска з запісу аб шлюбе, з якой бачна, што шлюб адбыўся 25 студзеня 1803 г. у Дзятлаўскай царкве і жонкай будучага святара стала Феліцыяна Хазановіч, дачка а. Палікарпа Хазановіча, які пасля Радзівонішак, з 1795 г. быў адміністратарам царквы ў Нагародавічах[34].

- Даведка з Лаўрышава, пра тое, што, *"ВП Цыпрыян Плаўскі з Наваградскага дэканата, які мае 25 гадоў і прэтэндуе на духоўнае званне, два гады знаходзіўся ў Берасцейскай дыяцэзіяльнай семінарыі, але паколькі за гэты час не быў неабходным чынам удасканалены ў навуках, неабходных для гэтага звання, таму ён патраціў яшчэ два з лішнім месяцы на гэта ўдасканаленне, і за гэты час не заўважылі мы ў ім нічога акрамя сціпласці, цвярозасці, сталасці, чуласці ў сваіх абавязках. Займаўся маральнай тэалогіяй і статутам з немалым стараннем і паказаў сябе ў гэтым усім дастаткова добра"* [35].

- Выпіска запісу аб хрышчэнні з парафіяльных кніг Кунаскай царквы, з якой бачна, што *"15 дня месяца красавіка 1777 года я, святар Ян Заўсцінскі, парах Гавязнянскай царквы, ахрысціў і бежмаваў сына, які мае імя Цыпрыян, (народжанага) ад бацькоў - мужа і жонкі: ЯВкс Плацыда Плаўскага, параха Кунаскага, (і) ад маці, ЯВП Канстанцыі Плаўскаў з Юркевічаў. Хросным бацькамі былі ЯВП Андрэй Корсак, паручнік літоўскіх войскаў, з ЯВП Мар'яна Мікуцёва"* [36].

Патрэбныя дакументы даслалі біскупу Язафату Булгаку і ў выніку, Цыпрыян Плаўскі пачаў служыць у Турэйскай парафіі.

Цыпрыян Плаўскі меў сыноў Францішка (1803 г. н.) і Рыгора (1806 г. н.)[37]. У 1837 г. яго сын Францішак служыў у Чарлёне і ў канцы гэтага года стаў Гарадзенскім дэканам[38]. Зразумела, што ў 1837 г., за два гады да скасавання уніі, як і паўсюдна, дэканам мог быць прызначаны толькі "надзейны" святар. Тым цікавей незвычайная гісторыя, якая адбылася з гэтым святаром у 1840 - 1841 гг.

2 верасня 1840 года Іосіф Сямашка піша ў Літоўскую кансісторыю: *"Дабрачынны Скідальскі Плаўскі і віца-дабрачынны Бельскі Лапушынскі носяць імя Франц, неўласцівае для нашай праваслаўнай царквы. Таму прапаную Кансісторыі ... даведацца ці маюць гэтыя святары пры Святым Хрышчэнні другія імёны і ці не пажадаюць прыняць імёны, уласцівыя нашай царкве, пра выніку мне данесці"* [39].

Кансісторыя пісьмова пытаецца ў святароў[40], і Скідальскі дабрачынны Франц Плаўскі адказвае, што не мае іншага імя акрамя імя Франц, *"і таму, што гэта імя неўласціва нашай Праваслаўнай царкве, замест яго з задавальненнем жадаю прыняць імя Канстанцін"* [41].

Бельскі віца-дабрачынны Лапушынскі пры хрышчэнні меў другое імя Афанасій, таму з ім вялікіх праблем не ўзнікла[42], а Францу Плаўскаму распараджэннем Сямашкі адмянілі імя, дадзенае пры хрышчэнні, і іерарх распарадзіўся: *"... прапаную ... дабрачыннага Скідальскага Плаўскага ... у паслужных спісах, ва ўсіх афіцыйных актах і ў жыцці, называць імем Канстанцін ... замест неўласцівага нашай царкве імя Франц"* [43].

Нічога дзіўнага - чалавек, сваімі рукамі зламаў сваю царкву і таму страціў сваё імя, звычайная іронія лёсу. Але, магчыма, гэтая гісторыя вартая пяра сатырыка ўзроўню Міхаіла Салтыкова-Шчадрына.

У 1832 г. святаром у Радзівонішках служыў Іосіф Сцепуржынскі[44].

У першай палове XIX ст. уладальнікі розных фальваркаў Радзівонішкі хутка змяняліся. Але маёнтак Радзівонішкі з вёскамі Манкаўцы і Цвербуты (1 200 дзесяцін, 178 душ) Касцялкоўскіх (у 1839 г. перайшоў да Нарцыза Жураўскага, сына Пятра Касцялкоўскага і Ружы з Янкоўскіх) жанатага з Саламеяй з Кяльчэўскіх[45].

У 1844 г. Нарцыз Жураўскі мае ўжо толькі 89 прыгонных сялян. Жонка Дамініка - Ружа Нарбут валодала тады 20 прыгоннымі, а яе ўнук Мікалай, сын Юзафа - 16 прыгоннымі[46]. У Мікалая Нарбута ў 1862 г. нарадзіўся сын Казімір[47] - апошні з гэтай галіны Нарбутаў - уладальнікаў Радзівонішак.

Пры канцы XIX ст. "Слоўнік Геаграфічны …"

[33] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 7. Спр. 134. Дело о рукоположении Киприана Плавского за 1803 г. Там жа. Арк. 5 - 7.

[34] Там жа Арк. 8.

[35] Там жа. Арк. 9.

[36] Там жа. Аркуш без нумара.

[37] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. С. 423.

[38] Там жа.

[39] ДГАЛ Ф. 605. Воп. 2. Спр. 5. Дело о Плавском и священниках, которые носят несвойственные нашей церкви имена. Арк. 1.

[40] Там жа. Арк. 3.

[41] Там жа. Арк. 6.

[42] Там жа. Арк. 9 - 9 адв.

[43] Там жа. Арк. 11.

[44] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. С. 498.

[45] Нарбут А.Н. Нарбуты Гродненской губернии. Москва, 1998. С. 50.

[46] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. Warszawa. 2016. S. 234.; Malewski Czeslaw. Wykaz alfabetyczny z 1844 r. majatkow pow. Lidzkiego // Ziemia Lidzka. 2004. №; 2(60).

[47] Нарбут А.Н. Нарбуты Гродненской губернии. С. 50.

пісаў пра некалькі Радзівонішак каля старога тракту:

1. Фальварак і маёмасць - уласнасць Жураўскіх, жыло тут 19 праваслаўных і столькі ж каталікаў. Гэтыя Радзівонішкі былі цэнтрам вясковай акругі.

2. Фальварак, уласнасць Нарбутаў, жылі тут 4 праваслаўныя і 12 каталікаў, у XVIII ст. гэта маёмасць належала да ключа Дзітва князя Вішнявецкага.

3. Вёска Радзівонішікі, былыя Манкаўцы, 20 дымоў, 91 праваслаўны і 28 каталікаў, драўляная царква[48].

Засталіся цікавыя ўспаміны пра апошняга з Нарбутаў - Казіміра (1862-1936?). Ад былой маёмасці ў яго застаўся 1 га зямлі і старая хата - можа быць фрагмент нейкай былой дваровай пабудовы, бо яго дом стаяў каля пагорка, на якім раней знаходзіўся палац Нарбутаў, які быў цалкам зруйнаваны і разабраны сялянамі на цэглу падчас Першай сусветнай вайны.

Сяляне лічылі, што Казімір Нарбут сам вінаваты ў сваёй беднасці, бо распрадаў і здаваў у арэнду ўсё, што яму пакінулі бацькі і таму са становішча пана дайшоў да бядноты, большай за сваіх былых падданых. Ён пачаў насіць простую сялянскую вопратку і цалкам перайшоў з польскай на беларускую мову.

Але, калі апошні ўладальнік часткі Радзівонішак дайшоў да краю галечы, ён знайшоў сабе новы занятак - стаў знахарам. Меў таварыскі характар і з шляхецкай маладосці ў яго засталіся нейкія ветэрынарныя веды, усё гэта прыдалося яму на новым шляху. Вельмі хутка Нарбут стаў добра вядомым знахарам, тым больш, што за свае кансультацыі не браў грошы, а толькі прадаваў хворым розныя зёлкі. Аднак не адмаўляўся, калі пацыенты прыносілі яму гарэлку, сала, масла, яйкі, сыры ці што іншае. Не дзіва, што праз кароткі час "Нарбут" - а называлі яго толькі гэтак, пачаў жыць у дастатку, тым больш што ўвесь час узнімалася вядомасць і слава радзівонішскага знахара, да яго пачалі прыязджаць не толькі жыхары Лідскага але і Наваградскага ды Віленскага паветаў.

Улады разумелі, што знахар не мае дазволу на дзейнасць, якую ён вядзе, і да яго шмат разоў прыходзілі паліцыянты. Але ад’язджалі яны ад Нарбута п'яныя і з добрым кавалкам сала. І ўсё заставалася па-старому. Праз нейкі час Нарбут нават пачаў ставіць дыстанцыйны дыягназ - атрымліваў ліст з фотаздымкам хворага і ў адказ высылаў свой вырак. Лісты пачалі прыходзіць з цэнтральнай Польшчы і нават з Амерыкі, пра што ён сам хваліўся суседзям.

Праз нейкі час Нарбуту пачаў дапамагаць яго сын. Запіс на прыём да радзівонішскага знахара рабіўся за вялікі тэрмін часу, і тым не менш перад яго новай хатай заўсёды чакалі фурманкі з хворымі. І хутка новая хата знахара ўжо была пакрытая бляхай, што ў той час з'яўлялася вялікай рэдкасцю і прыкметай багацця. Гэта стала нагодай для плётак сярод суседзяў.

Калі Казімір Нарбут памёр, яго адпяваў сам белагрудскі пробашч Стэфан Гародзька. Пахаванне зрабіла вялікае ўражанне на сялян - такой вялікай колькасці людзей белагрудскія могілкі да гэтага часу не бачылі. На працягу ўсіх 8 км да могілак каля дарогі стаялі, маліліся і нават плакалі людзі. Назіральнікі меркавалі, што яшчэ нікога з Нарбутаў за ўсю гісторыю гэтага роду ніколі не хавала гэткая колькасць па-сапраўднаму ўзрушаных людзей.

Пасля смерці меркаванне пра знахара падзялілася, простыя людзі лічылі яго сапраўдным лекарам, а больш адукаваныя - шарлатанам, але вядома ж, што тыя яго пацыенты, якія паздаравелі, цешыліся і хвалілі знахара, а хто памёр - маўчалі.

Дом, які пабудаваў апошні ўладальнік часткі Радзівонішак Казімір Нарбут, на пачатку XXI ст. яшчэ стаяў, чаго нельга было сказаць пра дамы іншых тутэйшых землеўладальнікаў - Жураўскіх, Кунцэвічаў ці Горскіх[49].

Суседка Нарбута Галіна Кунцэвіч ў паэме "Радзівонішкі" гэтак напісала пра знахара і яго хату:

*У блізкім суседстве, стаяла малая хата,*
*Жыў у ёй пан Нарбут - постаць не багата,*
*Каб паправіць свае жыццёвыя варункі,*
*Займаўся знахарствам і піў трункі.*

*Па-праўдзе, тут за плотам (каб было смешна),*
*Меў за жонку бабку Паўліну,*
*з якой цяжка жыць вечна.*
*Замест шлюбу - суседзямі былі,*
*І абодва свае адносіны нават хвалілі* [50].

Але вернемся да Радзівонішскай царквы.

Апошнім святаром царквы Св. Ганны быў а. Філіп Ядкоўскі (1831-1897). 22 жніўня 1866 г. ён быў пераведзены настаяцелем ў гэтую царкву і служыў тут да 1873 г.[51]

У 1869 г., недалёка ад былой грэка-каталіцкай царквы Св. Ганны, з бутавага каменю была пабудавана новая, праваслаўная царква ў гонар Успення Прасвятой Багародзіцы. Лідскі дабрачынны Каяловіч 12 верасня таго ж года даклаў, што ім *"7 верасня ... высвечана зноўпабудаваная Радзівонішская Царква"* [52]. У 1913 г. "Вестник Виленского Св.-Духовского Братства"

---

[48] Slownik Geograficzny Krolestwa Polskiego i innych krajow slowianskich. T. IX. Warszawa. 1888. S. 476-477.

[49] Kuncewicz Miroslaw. Kazimierz Narbutt // Ziemia Lidzka. 1998. № 2-3(30-31).

[50] W najblizszym sasiedztwie, stala mala chata,
Mieszkal w niej pan Narbutt - (postac niebogata).
Aby wiec poprawic zyciowe warunki,
Trudnil sie znachorstwem. Potem - pijal trunki.

Wprawdzie tuz za plotem (zeby bylo smieszniej),
Mial zone (babke Pauline), z ktore trudno zyc wiecznie!
Wiec zamiast malzenstwem - sasiadami byli,
I oboje ten stosunek ponieked chwalili.
Гл: Kuncewiczowa Halina. Radziwoniszki // Ziemia Lidzka. 1997. № 6 (28).

[51] Стренковский С. П. Священно- и церковнослужители Лидского и Ошмянского уездов в XIX - начале XX века. Минск, 2019. С. 90.

[52] ЛЕВ. 1869. № 19. С. 1159.

сярод іншых цэркваў, пабудаваных праз генерал-губернатара Літвы Мураўёва-вешальніка, падае: *"Збольшага скончана царква ў мястэчку Радзівонішкі на 4 875 р. 35 к."* [53]. Пасля рамонту, царква паўторна асвечана 15 жніўня 1889 г.

Радзівонішская царква з'яўляецца помнікам архітэктуры сінадальнага накірунку псеўдарускага стылю. Падоўжана-восевую кампазіцыю складаюць 3-ярусная званіца (васьмярык на 2 чацверыках) шатровая званіца з макаўкай, кароткая і нізкая трапезная, кубападобная малітоўная зала пад шатровым дахам, звершаным цыбулепадобнай галоўкай, 5-гранная апсіда. Фасады прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі ў кілепадобных ліштвах, дэкарыраваны аркатурнымі фрызамі, вуглавымі руставанымі лапаткамі.



***Радзівонішкаўская царква***

У канцы XIX ст. Радзівонішскай царква мела 70,5 дзесяцін зямлі ў 15 кавалках. Да царквы належала 102 двары, 409 мужчын і 412 жанчын[54].

У 1892 г. з Лідскага сабора ў Радзівонішскую царкву быў пераведзены псаломшчык Сяргей Ігнацьевіч Карскі - стрыечны брат заснавальніка беларускай філалогіі акадэміка Яўхіма Карскага. У 1882 г. ён быў выключаны з 1-га класа Літоўскай духоўнай семінарыі з-за адсутнасці сродкаў на аплату адукацыі. Служыў псаломшчыкам у царкве Дукштаў і ў 1884 г. быў пераведзены ў Лідскі Міхайлаўскі сабор. У 1893 г. цалкам звольніўся з царкоўнай службы[55].

Уладальнікі Тарнова, сямейства Маўрасаў, лічыліся прыхаджанамі блізкай да Тарнова Радзівонішскай царквы, у 1869 г. "Літоўскія епархіяльныя ведамасці" пісалі: *"...у Радзівонішскую царкву да дня яе асвячэння генерал-маёрам Маўрасам, вернікам гэтай жа царквы, былі ахвяраваны ўборы на прастол, ахвярнік і аналой, а таксама два абразы добрага жывапісу Св. Апосталаў Фамы і Пятра, коштам 100 руб."*. У 1883 годзе тая ж газета пісала: *"Сяло Радзівонішкі. У нашым вельмі малалікім прыходзе 16 траўня было... прыкметнае свята. Гэта была імпрэза з-за каранавання Іх Імператарскай Вялікасці. Графіня Маўрас раздавала даволі каштоўныя падарункі, святкаванні працягваліся тры дні, грала хатняя музыка і былі народныя танцы"* [56].

8 кастрычніка 1892-га святар Радзівонішкаўскай царквы Дружылоўскі асвяціў мураваную капліцу ў імя Святога Дзмітрыя Салунскага, пабудаваную ў маёнтку Тарнова па праекце і пад асабістым наглядам графа Маўраса ў неагатычным стылі. Шыбы ўпрыгожвалі выявы святых і крыжы з рознакаляровага шкла. Каля капліцы пабудавалі званіцу з конусападобным купалам і крыжам наверсе. Пад капліцай знаходзілася ўсыпальніца, дзе пахавалі парэшткі жонкі графа. У гэтай жа ўсыпальніцы праз чатыры гады быў пахаваны і сам граф Дзмітрый. Дарэчы, калі ў 1939 г. капліца з магільным склепам Маўрасаў была разбурана, з'явіліся чуткі, што Кацярына Маўрас ляжала забальзамаваная ў спірце[57].

На вядомым здымку Радзівонішскай царквы, выкананым Балзункевічам у 1899 ці 1900 гг., на фоне царквы стаіць святар Фёдар Кунаховіч. Нарадзіўся ён у Гародні ў 1870 г. у сям'і калежскага асэсара. Скончыў курс Літоўскай духоўнай семінарыі па другому разраду. У Радзівонішскай царкве служыў з 1898 па 1902 г. У 1898 г. ужо быў удаўцом[58].

### Акт генеральнай візітацыі Радзівонішскай царквы[59]

Царква пад тытулам Бязгрэшнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце, фундацыі ЯВП Халхоўскіх, у каляцыі

[53] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства 1913. № 5. С. 103.

[54] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. Вильна, 1893. С. 27.

[55] Стренковский С. П. Священно- и церковнослужители Лидского и Ошмянского уездов в XIX - начале XX века. С. 250.

[56] Литовские епархиальные ведомости. 1883. № 23. С. 222.

[57] Лідскі летапісец. 2005. № 1-2 (29-30). С.83-88.

[58] Стренковский С. П. Священно- и церковнослужители Лидского и Ошмянского уездов в XIX - начале XX века. С. 110.

[59] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага Дэканата. 1792 г. Арк. 21-22 адв.

ЯВП Нарбута, лідскага войскага. Драўляная, па-новаму цалкам адрамантавана, пабудавана ў форме крыжа на каменным фундаменце. Дах з новай гонты, купал з жалезным крыжам, у ім сігнатурка. Могілкі на 25 локцяў, часткова агароджаны, агароджа патрабуе значнага рамонту. За царквой, каля агароджы могілак, званіца на чатырох слупах, абабіта габляванымі дошкамі. На званіцы адзін звон вагой у чатыры камяні. На ўваходзе ў бабінец падвойныя дзверы на жалезных завесах з зашчапкай і прабоямі. Сакрыстыі - дзве. Адна мае дзверы на жалезных завесах і з унутраным замком, з зашчапкай і прабоямі, адно акно, у сакрыстыі прастол з шуфлядамі для захавання царкоўных прадметаў і службовай вопраткі, а таксама шафка для захоўвання паціраў, якая замыкаецца. У другой сакрыстыі дзверы на жалезных завесах з зашчапкамі і жалезнымі прабоямі, вокнаў і падлогі няма.

У царкве перад Вялікім алтаром - хоры, агароджаныя парэнчамі і балясінамі. Столь з габляваных дошак, падлога гліняная, пяць вокнаў, лаўкі сталярнай работы, амбон на чатырох слупах, пакрыты дыванам.

**Вялікі алтар** сталярнай, часткова сніцарскай работы ... пафарбаваны, з абразом Найсвяцейшай Панны Марыі ў срэбнай шаце з дзвюма каронамі. [Каля абраза] срэбных таблічак шэсць, два срэбныя сардэчкі, адна срэбная рука, лубкоў срэбных - тры, сем шнуркоў караляў, тры шнуркі бісеру, адзін каменчык. Рэліквіярый - адзін. Газавых фіранак - адна пара, з чырвонай ліштвай з кітайкі. Штофавых блакітных фіранак - адна пара. На прастоле пафарбаваныя дараносіца сталярнай работы на замку, у ёй срэбная, знутры пазалочаная, даразахавальніца ..., у якой захоўваюцца Святыя дары. Укрыжаванне драўлянае, з пасійкай. Алтарных, алавяных падсвечнікаў - адна пара, настольных - дзве пары, драўляных - тры пары. Ручнікоў - два. Антымінс Яснавялебнага (Льва) мітрапаліта Грабніцкага. Абруспакрывала гаруснае, зялёнае. Падушка ўлачковая. Франтальная заслона прастола ўлачковая, вышытая ... .

**Бакавы алтар** сталярнай работы, стары, з абразом Пана Езуса за кармазынавымі, старымі фіранкамі з кітайкі. На прастоле драўлянае ўкрыжаванне з пасійкай. Драўляных падсвечнікаў - адна пара. Ручнік - адзін, пакрывала з тканіны. Франтальная заслона прастола драўляная, пафарбаваная.

**Другі бакавы алтар** сталярнай работы з абразом Найсвяцейшай Панны Марыі, над абразом ... карона. Шата ... пафарбаваная. Фіранак з грэтуту (цяжкага французскага шоўку - *Л. Л.*) - адна пара. На прастоле драўлянае ўкрыжаванне з пасійкай. Ручнікоў - два. Франтальная заслона прастола драўляная, пафарбаваная.

**Царкоўнае начынне.** Срэбны пацір з дыскасам, які знутры і звонку пазалочаны, другі срэбны пацір з непазалочаным дыскасам, стары, у дрэнным стане ... . Срэбная лыжачка адна, мерніца ..., алавяных падсвечнікаў - пара, алавяных ампулак - адна пара. Кропельніца алавяная - адна. Кадзіла вялікае, старое - адно. Кадзіла вялікае, новае - адно. Лодка - адна. Алтарных званкоў - тры, чацвёрты - у бурсе. Бляшаная лямпа. Драўляны працэсійны крыж з пасійкай. Крыж новы, прыбіты. Жалезны трымальнік для паходні. Тры гарусныя харугвы з абразамі.

**Увага!** Медная, добрая пазалочаная даразахавальніца з накрыўкай і крыжыкам, хоць аддадзена царкве, аднак знаходзіцца ў калятараў. Шата з каронамі важыць пяць грывен і тры лоты. Пацір з двума дыскамі - дзве грыўны. Пацір і дзве лыжачкі - трынаццаць лотаў. Даразахавальніца важыць адну грыўну і адзінаццаць лотаў. Шэсць таблічак, два сардэчкі, адна рука і тры лубкі важаць дзесяць лотаў. Сігнатурка ў купале - пяць фунтаў. Алтарныя званкі з кадзіламі - 2 фунты. Усяго волава - дванаццаць фунтаў.

**Кнігі.** Службоўнік у добрым стане, віленскага выдання. Другі лацінскі, новы. Трэбнік супральскага друку. Евангелічка польская. Метрыкі хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў, а таксама і рэестр парафіі разам з табліцай насельніцтва.

**Зямля плябаніі.** Зямлі - дзве з паловай валокі ў трох частках. Першая частка ва ўрочышчы Кавалеўшчына. Пачынаецца ад зямлі двара і цягнецца да палуцкай зямлі (вёскі Палуты - *Л. Л.*), адным бокам мяжуе з зямлёй Хвёдара Пілейкі, а другім - з зямлёй Яна Казюты. Другая частка ва ўрочышчы Барэйкі, ад зямлі більтаўскай (вёскі Більтаўцы - *Л. Л.*) да зямель палуцкіх. Адным бокам мяжуе з зямлёй Пілейкі, а другім - з зямлёй Казюты. Трэцяя частка мае назву Староўня, пачынаецца ад Манкаўскага выгану, а заканчваецца каля Сярбовых палеткаў, адным бокам - ад зямлі двара, а другім - да зямлі Яна Казюты. ...

**Пабудовы плябаніі.** Белая хата, на ўваходзе дзверы на жалезных завесах з зашчапкай. Старая кафляная печ. Два старыя, вялікія акны, трэцяе малое, белага шкла, патрабуюць рамонту. Столь з габляваных дошак, падлога з дошак, стол сталярнай работы, пафарбаваны. Дзверы ў камору на жалезных завесах, у каморы адно вакно, столь з габляваных дошак, падлога з дошак. Дзверы ў спальню на жалезных завесах з

**Спіс Радзівонішскай парафіі разам з рэестрам абодвух палоў, якія здольны і не здольны да споведзі**

| | Хаты | Мужчын | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | здольны | не здольны | здольная | не здольная |
| Вёска Манкаўцы | 30 | 66 | 30 | 30 | 19 |
| Вёска Цвербуты | 37 | 65 | 30 | 60 | 23 |
| Разам, дымоў | 67, | | | | |
| парафіян 323 | 67 | 131 | 60 | 90 | 42 |

зашчапкай, [у спальні] столь з габляваных дошак, падлога з дошак, кафляная печка, адно акно з польскім шклом. Двое дзвярэй на жалезных завесах з зашчапкамі вядуць у сені. У сенях - тры каморкі з дзвярамі на бегунках. У пякарні - дзверы на бегунках, чатыры акны, простая печ, столь з габляваных дошак, дзве лавы. Уся пабудова пакрытая саломай, старая, патрабуе рамонту.

Свіронак драўляны, стары, крыты саломай, на памосце з дошак, дзве засекі, дзверы на жалезных завесах з зашчапкай і прабоямі.

Стайня, хлявы, бровар, накрыты добрай саломай з дзвярамі, зробленымі з дранкі.

Гумно на двух сохах, крытае саломай, адрына, абодва патрабуюць рамонту.

Хлеў стары, абвалены, патрабуе рамонту.

Усе пабудовы пастаўлены святарамі і патрабуюць рамонту.

Шпіталь, пабудаваны дваром, белая хата з каморай і сенямі, крытая саломай, ніякага фундушу не мае, дзед і баба жывуць Божым провідам.

**Дакументы.** Копія фундушу з актавых лідскіх гродскіх кніг ад 13 сакавіка 1745 г. Генеральная візіта Гарадзенскага сурагатара, вялебнага святара Бялькевіча ад 1 сакавіка 1754 г. Генеральная візіта Наваградскага сурагатара, вялебнага святара Аляксандра Высеўскага ад 11 студзеня 1758 г. Візіта Лідскага дэкана, вялебнага святара Пятровіча ад 1772 г. Генеральная візіта Цырынскага дэкана, параха Любчанскага, вялебнага святара Васіля-Нупрэя Марцінеўскага ад 20 траўня 1784 г.

**Літургічнае ўбранне.** Адзін штофавы, блакітны, з усім неабходным. Другі кармазынавы, адамашкавы, з усім неабходным. Трэці сіні, з кітайкі, з усім неабходным. Чацвёрты драгетаваны, жалобны, з усім неабходным. Пяты блакітны, з французскага шоўку, з усім неабходным. Шосты адамашкавы, ..., з усім неабходным. Арнат лацінскі на кармазынавай падкладцы. Чатыры альбы з чатырма гумераламі з тканіны. Дзве комжы з тканіны. Пасаў - тры. Карпаралаў - два. Пурыфікатараў - пятнаццаць. Бурса для хворых - адна, з французскага шоўку, добрая.

**Увага!** Дзесяць коп жыта, ячменю чатыры капы, паўбочкі грыкі, пшаніцы дзве шаснаццаткі на вечныя часы павінны фундавацца плябаніі.

**Увага!** Падданы Несмяртэльны з'яўляецца падданым калятараў.

Павінны [адпрацоўваць] з кожнай хаты, мужчыны тры дні, жанчыны тры дні, як вызначана з ласкі ЯВП калятараў. За што мясцовы святар абавязаны ў тыдзень адну імшу адслужыць.

Пры гэтай царкве адміністратарам з'яўляецца вялебны святар Палікарп Хазановіч ... . Высвечаны ў Варшаве Яснавялебным Стэфанам Лявінскім, сурагатам Полацкім у 1785 г., 4 жніўня. ... прэзентаваны ў Радзівонішскую царкву ЯВП Дамінікам і Разаліяй Нарбутамі, войскімі Лідскімі 8 верасня 1786 г.

....

**Справа аб жыцці і звычаях аспіранта**
(**прэтэндэнта на пасаду святара** - *Л. Л.*)
**ВП Цыпрыяна Плаўскага,**
**вырашаная 24 лістапада 1803 года**[60]

Ігнат Язафат Булгак, з Божай ласкі і дабраславення Святога Апостальскага пасаду біскуп Берасцейскі ў губернях Літоўскай, Менскай, Курляндскай.

Вялебнаму айцу Стэфану Гарбацэвічу, дэкану Лідскаму, міламу нам у Хрысце, збаўленаму ў Госпадзе. Абвяшчаем, што мы, згодна з прадпісаннямі кананічнага права і рашэннямі Замойскага сабору, жадаем мець неабходныя і дастатковыя звесткі і быць перакананым у фактах аб нараджэнні, жыцці, паводзінах, талентах і адукацыі ВП Цыпрыяна Плаўскага, прэтэндэнта на духоўнае званне і гэтым дакументам вырашылі даручыць тваёй міласці правядзенне належнага расследавання. Так, у імя Госпада загадваем, каб падабраў для гэтай справы прыдатнага таварыша і гэты выбар пазначыў у гэтым жа дакуменце, ... як мага больш старанна, з інстыгатарам (дазнаўцам) дэканата, да выпрабавання спраў такога роду прысягай абавязанага, ... у тэрмін, неабходны пасля абвяшчэння, прыехаць на месца нараджэння ці найбольш працяглага пражывання Цыпрыяна Плаўскага і там пасля належнага абмеркавання, сваёй юрысдыкцыяй знайсці (звесткі) па наступных пунктах:

1-е. Чый сын Цыпрыян Плаўскі і якога ён роду;

2-е. Дзе, кім і калі быў ахрышчаны і бежмаваны;

3-е. Пры кім і дзе ў маладыя гады знаходзіўся, чым займаўся і як сябе ў маладосці паводзіў;

4-е. Дзе і якім чынам набываў веды, неабходныя для святарскага сану; ці не заражаны якой-небудзь ерассю або вальнадумствам;

5-е. Якіх паводзінаў: ці не схільны да п'янства, да азартных гульняў, да сварак; ці паважае старэйшых, ці далікатны з роўнымі;

6-е. Ці здаровы, ці не пакутуе на вар'яцтва, ці не мае падучай ці якой-небудзь іншай хваробы;

7-е. Які мае сямейны стан: халасты або жанаты; з дзяўчынай або ўдавой ўступіў у шлюб; якое стаўленне людзей да яго жонкі;

8-е. Па якіх прычынах жадае ўступіць у духоўнае званне: як даўно рашыў пайсці на гэтую вакансію, ці быў бачны ў ім дух пакоры, пабожнасці, старання аб славе Божай і выратавання бліжняга;

9-е. Якія мае кананічныя правы, неабходныя для становішча, ці дастатковыя яны для прыстойнага існавання (забеспячэння); ці не атрымаў іх шляхам змовы, ці будзе мець іх і потым, а не толькі зараз, калі трэба атрымаць пасвячэнне на царкоўнае званне;

10-е. Ці мае царкоўны прыход, на які будзе прызначаны аспірант, фундуш, якой якасці, ці ў мірным валоданні парахаў ён знаходзіцца, ці з вялікай колькасці парафіяльных душ складаецца, колькі налічвае мужчынскага і жаночага насельніцтва.

(Абавязваю Вас) падаць сведчанні ад сведкаў, годных веры, сярод якіх (павінна быць) не менш за два капланы, якія добра ведаюць названыя абставіны,

[60] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 7. Спр. 134. Арк. 1 - 12.

абраныя інстыгатарам і пакліканыя да згаданага дзеяння, прысягнуўшыя ў скрупулёзным пошуку праў-ы. Узяць (інфармацыю) па кожным пункйце, у чым Вашу міласць абавязваю паступіць па сумленні, даведацца пра ўсе абставіны і запячатаны пакет (з матэрыяламі следства), з дадаткам усіх дакументаў, якія адносяцца да справы, сведчанні а таксама метрыкі аб хрышчэнні і вянчанні, засведчаныя (Вамі) асабіста, даслаць у нашу кансісторыю. Для чаго Вашу міласць надзяляем неабходнымі паўнамоцтвамі і ўладай.

У Наваградку ў 21 дзень месяца студзеня 1803 года.

Сільвестр Антаневіч, ордэна Святога Васіля Вялікага ігумен Кобрынскі, дэпутат духоўных спраў, афіцыял Берасцейскі і старшыня кансісторыі.

Язафат Гарбацэвіч, асэсар Берасцейскай кансісторыі, за сакратара.

Стэфан Гарбацэвіч, дэкан Лідскі, парах Моўчадскай царквы, Міхаіл Пазоўскі, адміністратар Нова-Ельнінскай царквы, дэлегаваны Кансісторыяй для здзяйснення гэтага дзеяння.

Вялебным айцам пробашчам, іх памочнікам і іншым, хто знаходзіцца на царкоўнай службе, абвяшчаем гэтым нашым азнаямленчым лістом, што нам быў прадстаўлены дакумент з галоўнай Берасцейскай кансісторыі, выдадзены ў 21 дзень студзеня месяца бягучага года за № 33, які змяшчае распараджэнне, каб мы пасля папярэдняга абвяшчэння правялі следства аб жыцці, паводзінах і адукацыі ВП Цыпрыяна Плаўскага, прэтэндэнта на святарскае званне і апыталі прысяжных сведак. Маючы (жаданне) выканаць такое распараджэнне, вам, вышэй згаданым ... загадваем, каб ... азнаёмілі асабіста як ЯВ Цыпрыяна Плаўскага, так і ЯВкс айца Яна Мыслевіча, інстыгатара Лідскага дэканата, па пасадзе сваёй абавязанага сачыць за дадзенай справай. Знайсці сведак, якіх бакі (справы) абавязаны запісаць у адмысловы рэестр і якіх мы знаёмім (са справай) і аўтарытэтам дэлегаванай нам улады заклікаем, каб (яны) у пяты дзень месяца лютага бягучага года з'явіліся асабіста ў Нагародавіцкую плябанію для слухання. Юрысдыкцыяй нашай камісарскай устанаўляем неабходнасць прынясення прысягі сведкамі і іх апытання па пунктах, названых у дакуменце (кансісторыі) і г. д.

Дадзена ў нашай рэзідэнцыі ў 26 дзень студзеня 1803 года.

Стэфан Гарбацэвіч, дэлегаваны дэпутат.

Міхаіл Пазаўскі, адміністратар Нова-Ельнінскай царквы, абраны камісар.

Пункты для допыту прэтэндэнта на святарскае званне ВП Цыпрыяна Плаўскага, у дзень 5 месяца лютага 1803 года падалі (гэтай) камісіі:

1-е. Як сведка ведаю, ведаў або чуў, чыім сынам з'яўляецца Цыпрыян Плаўскі і ці законнага ён нараджэння?

2-е. Як сведка ведаю, ведаў або чуў, кім і калі ён быў ахрышчаны і бежмаваны?

3-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, у каго і дзе (ён) знаходзіўся ў маладыя гады? Чым займаўся? І як сябе ў маладосці паводзіў?

4-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, дзе (ён) набываў адукацыю неабходную для святарскага звання, з якім стараннем? Ці не заражаны якой-небудзь ерассю або вальнадумствам?

5-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, якіх (ён) паводзін, ці не мае схільнасці да п'янства? Да азартных гульняў? Да сваркі? Як шануе старэйшых і ці ветлівы з роўнымі?

6-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, якое мае здароўе? Ці не пакутуе вар'яцтвам? Ці не мае падучай хваробы ці якой-небудзь іншай хваробы?

7-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, якое мае сямейнае становішча? Халасты ці жанаты? З дзяўчынай або ўдавой ўступіў у шлюб; якое ўяўленне людзей пра яго жонку?

8-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, чаму хоча трапіць у духоўнае званне і як даўно заняў гэтую вакансію? Ці бачны ў ім быў дух пакоры, пабожнасці, старання аб славе Божай і выратаванні блізкага?

9-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, ці мае кананічныя правы, неабходныя для становішча, ці дастатковы яны для прыстойнага існавання (забеспячэння)? Ці не выпрасіў царкоўныя званні?

10-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, ці мае (ён) прыход, на які павінен быць прызначаны, ці мае забеспячэнне, якой якасці? Ці ў мірным карыстанні парахаў знаходзіцца? З якой колькасці гаспадарак складаецца? Колькі налічваецца мужчынскага і жаночага насельніцтва?

Такія пункты падпісваю святар Ян Мыслевіч, адміністратар Голдаўскай царквы, інстыгатар Лідскага дэканата.

Такое апытанне пададзена для камісіі.

Стэфан Гарбацэвіч, Лідскі дэкан, дэлегаваны камісар,

Міхал Пазоўскі, кіраўнік Нова-Ельненской царквы, абраны камісар

Рэестр сведак падчас працы камісіі пра справе прэтэндэнта на святарскае званне ВП Цыпрыяна Плаўскага, пададзены ў камісію ў 5 дзень месяца лютага 1803 года

1-ы сведка вялебны айцец Сямён Радзецкі, адміністратар Марозавіцкай царквы;

2-гі сведка вялебны айцец Ян Радкевіч, вікарый Зблянскай царквы;

3-ці сведка Данель Валюк;

4-ы сведка Геранім Стасюкевіч;

5-ы сведка Антоні Зубарэвіч;

Падаючы такіх сведкаў для камісіі, падпісваюся, святар Ян Мыслевіч ... адміністратар Голдоўскай царквы, інстыгатар Лідскага дэканата.

Рэестр сведкаў для камісіі, упісаны.

Стэфан Гарбацэвіч, Лідскі дэкан, дэлегаваны камісар.

Міхаіл Пазоўскі, адміністратар Нова-Ельненскай царквы, абраны камісар.

Адбывалася ў Нагародавіцкай плябаніі ў пяты дзень месяца лютага тысяча восемсот трэцяга года.

Мы, ніжэйпадпісаўшыеся камісары, дэлегаваныя дакументам генеральнай Берасцейкай кансісторыі, выдадзеным 21 студзеня гэтага года за № 33, пасля заканчэння тэрміну, вытрыманага намі па законе аб абвяшчэнні, ... прыбылі ў Нагародавіцскую плябанію, у прысутнасці ВП Цыпрыяна Плаўскага, які прэтэндуе на святарскую ступень, а таксама ў прысутнасці вялебнага айца Яна Мыслевіча, інстыгатара Лідскага дэканата, які абавязаны суправаджаць гэтае дзеянне па сваёй пасадзе, уладай нашай камісарскай у імя Гасподняе пачалі працу. І хоць інстыгатар заўважыў, што ВП Цыпрыян Плаўскі не быў народжаны ў нашым павеце, і, такім чынам, для гэтага дзейства неабходна было выбраць іншае месца, аднак, ВП Цыпрыян Плаўскі адказаў, што, асірацеўшы на шостым годзе жыцця пасля (смерці) бацькі, пакінуў месца свайго нараджэння, нідзе пастаяннага месца жыхарства не меў і знаходзіўся на працягу шасці гадоў у розных месцах і на розных работах, у асноўным у межах Лідскага дэканата, да таго ж ён збіраецца атрымаць прыход у гэтым дэканаце і тут жа ажаніўся. Такім адказам названага Плаўскага інстыгатар быў задаволены і пагадзіўся на правядзенне камісіі ў Нагародавіцскай плябаніі.

Калі ж пункты, адпаведна з выдадзеным (Кансісторыяй) дакументам, былі запісаны і пададзены асобным рэестрам і былі запісаны сведкі, дык пасля прынясення прысягі па форме, прадпісанай правам, у прысутнасці бакоў мы прыступілі да апытання сведак, гэтае апытанне было наступным:

Першы сведка вялебны айцец Сямён Радзецкі, адміністратар Марозавіцкай царквы, на набажэнстве быў учора, прысягнуў садзейнічаць праўдзе, паказаў:

Па 1-м. Добра ведаў бацьку, вялебнага айца Плаўскага, калі той быў святаром, і ведаю, што ён яго сын.

Па 2-м. Не ведаю, гэта варта шукаць у метрычных запісах.

Па 3-м. Пасля смерці свайго бацькі, у маладосці, жыў у свайго дзеда, святара Цыпрыяна Плаўскага, параха Окалавіцкага, а пасля смерці дзеда праводзіў маладыя гады ў свайго дзядзькі па бацьку святара Дамініка Плаўскага. Потым (пераехаў) да святара Рамана Плаўскага ў Жухавічы і там вучыўся чытаць і пісаць. Гэта бачыў сам, бо жыў блізка і часта яго бачыў. Не чуў, каб пра яго што-небудзь дрэннае казалі. Ведаю, што, пасталеўшы, пераехаў у плябанію царквы ў Радзівонішках да святара Хазановіча, але, як доўга там жыў і як сябе паводзіў, не ведаю, бо гэта ад мяне далёка.

Па 4-м. Зараз вучыцца і рыхтуецца да святарскага звання ў Лаўрышаве. Меркаваць аб тым, ці заражаны якой-небудзь ерассю альбо вальнадумствам, не магу.

Па 5-м. Заўсёды лічыў яго прыстойным, разважлівым, спакойным і паслухмяным.

Па 6-м. У дастатковай ступені ведаю і ўпэўнены, што ён здаровы і ад якіх-небудзь хваробаў не пакутуе.

Па 7-м. Зараз ажаніўся з дачкой святара, дзяўчынай, якая не мае дрэннай рэпутацыі.

Па 8-м. Ад Духа Божага мае пакліканне, і ў ім ёсць пакорлівасць і жаданне служыць Госпаду Богу.

Па 9-м. Ведаю, што атрымаў прэзенту на Турэйскую парафію і, калі будзе (правільна) гаспадарыць, дык будзе мець сродкі для існавання, а што ён думае пра далейшае, таго не ведаю.

Па 10-м. Не быў у Турэйску і таму не ведаю, ці ёсць фундуш у гэтай плябаніі, чуў толькі, што зямлі нямала, і тая зямля знаходзіцца ў мірным валоданні парахаў. Наколькі вялікі прыход, не ведаю.

Гэта прызнанне сваёй рукой падпісаў святар Сямён Радзецкі, адміністратар Марозавіцкай царквы.

Другі сведка вялебны айцец Ян Радкевіч, вікарый Зблянскай царквы, на набажэнстве быў учора, прысягнуў садзейнічаць праўдзе, паказаў:

Па 1-м. Сам чуў, і гэта сапраўды так, з'яўляецца сынам святара.

Па 2-м. Не ведаю гэтага, але могуць засведчаць метрычныя запісы.

Па 3-м. Дзе правёў маладыя гады, не ведаю, але прыкладна ў 15 гадоў патрапіў да святара Хазановіча, бачыў яго ў Радзівонішках, не чуў пра яго нічога дрэннага.

Па 4-м. Ведаю, што да гэтага часу знаходзіўся ў Лаўрышаве і там вучыўся, аднак, дрэнна ці добра, не ведаю і не чуў, каб якімі-небудзь супраціўнымі рэлігіі поглядамі мог быць заражаны.

Па 5-м. Ведаў яго і раней, і цяпер як сціплага, не схільнага да п'янства, не ахвотнага да сварак, ён паважае старэйшых і аднагодкаў.

Па 6-м. Не чуў і не заўважаў, каб ён хварэў якой-небудзь дрэннай хваробай.

Па 7-м. Ведаю, бо бачыў, што ён уступіў у шлюб з прыстойнай дзяўчынай, якая не мае дрэннай славы.

Па 8-м. Не ведаю, як даўно і па якіх прычынах мае прагу да духоўнага звання, але цяпер бачу, што можа быць узорным святаром.

Па 9-м. Чуў, што атрымаў прэзенту на Турэйскую парафію, а гэтая парафія заўсёды мела святароў з добрым забеспячэннем. І мне здаецца, што прэзенту ён атрымаў, каб там і жыць.

Па 10-м. Не ведаю, ці ёсць фундуш у царквы, ці няма. Не чуў, ці крыўдзіў хто (мясцовых парахаў). Колькасць парафіян добра не ведаю.

І такое сваё прызнанне ўласнай рукой падпісваю.

Святар Ян Радкевіч, вікарый Зблянской царквы.

3-ці сведка Данель Валюк з вёскі Радзівонішкі, мае 60 гадоў, быў на велікоднай споведзі, пасля прысягі, што будзе садзейнічаць праўдзе, паказаў:

Па 1-м. Чуў, што бацька ягоны быў святаром.

Па 2-м. Гэтага не ведаю

Па 3-м. Казалі, што раней знаходзіўся недзе ў Наваградскім (ваяводстве), потым трапіў у Радзівонішкі і гады два ці тры, добра гэтага не памятаю, заставаўся каля святара Хазановіча, дзе падчас знаходжання выконваў гаспадарчыя і парафіяльныя работы, прыкладна вёў сябе, і я гэта бачыў і гэта памятаю.

Па 4-м. Бываючы ў плябаніі, бачыў, што ён чытае і піша на дошцы, а дзе яшчэ вучыўся, не ведаю.

Па 5-м. Не бачыў у ім ніякай дрэнны прыроды, у цэлым, калі ён жыў у Радзівонішках, дык быў паслухмяны і з кожным, як сірата, ціхі.

Па 6-м. Калі жыў у нас, дык заўсёды быў здаровы, і ніякай хваробы ў яго не было прыкметна.

Па 7-м. Нашто Васпану трэба нада мной смяяцца? Ён жа раней ажаніўся з маладой паненкай, якая вырасла на маіх вачах.

Па 8-м. Напэўна, Гасподзь Бог яго заклікаў да гэтага, аднак, калі жыў у нас, я бачыў яго ў плябаніі і ў царкве і лічыў пабожным і сціплым.

Па 9-м. Чуў, што яму свеціць Турэйская плябанія, дзе, калі пастараецца, дык зможа жыць.

Па 10-му. Гэтага не ведаю.

Свае паказанні, як непісьменны, трыма крыжыкамі падпісваю.

Данель Валюк + + +

4-ты сведка Геранім Стасюкевіч з вёскі Турэйск, гаспадар, мае 36 гадоў, быў на велікоднай споведзі, пасля прысягі садзейнічаць праўдзе, паказаў:

Па 1-м. Чый сын святар Плаўскі, не ведаю.

Па 2-м. Хто яго хрысціў, не ведаю.

Па 3-м. Дзе знаходзіўся ў маладыя гады і як сябе паводзіў, не ведаю.

Па 4-м. Дзе ён вучыўся, не ведаю.

Па 5-м. Якіх ён паводзін не ведаю, бо нядаўна пазнаёміўся.

Па 6-м. І гэтага не ведаю.

Па 7-м. Прыбыўшы сюды, даведаўся, што ён ажаніўся з дачкой мясцовага святара.

Па 8-м. Напэўна яму гэтак Гасподзь Бог даў, што ён хоча стаць святаром.

Па 9-м. Пагаворвалі ў нас, што ён атрымаў прэзенту на нашу Турэйскую царкву, пры якой, калі іншыя (святары) жылі, дык зможа жыць і святар Плаўскі.

Па 10-м. Не ведаю, ці мае царква фундуш і які, але зямля і прылады маюцца здаўна, іх мірна выкарыстоўвалі святары, і ніхто ім не перашкаджае. Ведаю, што ў парафіі гаспадарак больш за сто, а душ палічыць не магу. Вось менавіта гэта сваё прызнанне, як непісьменны, падпісваю трыма крыжыкамі.

Геранім Стасюкевіч + + +

5-ты сведка Антоні Зубарэвіч з вёскі Нагарадавічы, мае 70 гадоў, гаспадар, быў у споведзі на Ружанцовым тыдні, пасля прысягі садзейнічаць праўдзе, паказаў:

Па 1-м. Хто быў бацькам спадара Плаўскага, не ведаю.

Па 2-му. І гэтага не ведаю.

Па 3-м. Чуў, што знаходзіўся ў мясцовага святара, калі той служыў у Радзівонішках, чуў, што там сябе добра паводзіў.

Па 4-м. Дзе ён вучыўся, не ведаю.

Па 5-м. Пазнаёміўся з ім блізка, калі ён з'явіўся тут, але не магу пра яго нічога сказаць, таму што нічога дрэннага не заўважаў.

Па 6-м. Наколькі ведаю, цалкам здаровы.

Па 7-м. Ведаю, што ажаніўся ў тутэйшай царкве з дачкой мясцовага святара, дзяўчынай добрай славы.

Па 8-м. Для чаго хоча знаходзіцца ў духоўным званні, не ведаю, але бачу яго пабожным, паслухмяным і сціплым.

Па 9-м. Чуў, што будзе служыць у Турэйскай царкве, а таксама чуў, што там па 4 бочкі жыта можна пасеяць на кожным полі.

Па 10-м. Ведаю, што ёсць царква, а пра яе фундуш не ведаю. Кажуць, што зямлі знаходзяцца ў мірным валоданні, а, колькі парафіян, не ведаю.

Такія свае паказанні, як непісьменны, падпісваю трыма крыжыкамі.

Антоні Зубарэвіч + + +

Гэтыя паказанні запрошаных і прысягнуўшых сведак дакладна і добрасумленна запісаны, запісы аб хрышчэнні і вянчанні, а таксама сведчанні ВП Плаўскага, разам з 4 рэвізіямі Турэйскай царквы далучылі (да справы). Самога ж прэтэндэнта для слухання канчатковага рашэння адаслалі ў генеральную Берасцейскую кансісторыю. Датавана, як вышэй.

Стэфан Гарбацэвіч, Лідскі дэкан, дэлегаваны камісар.

Міхал Пазоўскі, кіраўнік Нова-Ельненскай царквы, абраны камісар.

**Запіс аб шлюбе**

(Я) Ніжэй падпісаўшыйся, прыбыў ў Нагародавіцкую плябанію, у якой прасілі аб выдачы запісаў пра шлюб ВП Цыпрыяна Плаўскага, знайшоў метрычныя кнігі Нагародовіцкай царквы і выпісаў (запіс) у наступным выглядзе:

*25 дня месяца студзеня 1803 года я, святар Ануфры Ралевіч, парах Дзятлаўскай царквы, пасля таго, як прамінулі тры абвяшчэнні і не знайшоўшы перашкод для шлюбу, з дазволу мясцовага дэкана дабраславіў шлюб ўзаемна асоб, якія пакляліся ў вернасці: маладога ВП Цыпрыяна Плаўскага і маладой ВП Феліцыяны Хазановічаўны з Нагародавіцкай плябаніі. Прысутнымі сведкамі былі ЯВП Іосіф Плаўскі, ротмістр Слонімскага павета, ВП Міхаіл Курак, эканом Нагародавіцкі.*

Гэты запіс, дакладна выпісаўшы, для лепшага сведчання падпісваю ўласнай рукой.

Дадзена ў Нагародавічах у 3 дзень лютага 1803 года.

Стэфан Гарбацэвіч, дэкан Лідскі, сваёй рукой.

Антоні Зубарэвіч + + +

*Ігнат Язафат Булгак, ласкай Божай і дабраслаўленнем святога апостальскага прастола біскуп Берасцейскі ў губернях Літоўскай, Менскай і Курляндскай.*

*Усім разам і кожнаму паасобку, каму аб гэтым варта ведаць, паведамляем, што мы, будучы перакананыя ў годных учынках, прыкладных паводзінах і адукацыі ВП Цыпрыяна Плаўскага, прэтэндэнта на духоўнае званне і семінарыста Лаўрышаўскай дыяцэзіяльнай (семінарыі), і таму, жадаючы забяспечыць яго годным месцам і кананічнай маёмасцю неабходнай для прызначэння, і паколькі прыхадская царква ў Турэйскім прыходзе ў Лідскім павеце па праву з'яўляецца вакантнай і па прычыне таго, што сам Цыпрыян Плаўскі прасіў пра гэтую Турэйскую парафію і*

*належным чынам адшукваў для сябе прэзенту і прававымі шляхамі яе здабыў, таму гэтай нашай згодай ... дазваляем, а таксама афіцыйна рэкамендуем, яго для атрымання прэзенты ў цяперашніх калятараў.*

*У Навагрудку ў 8 дзень студзеня 1803 года.*

*Сільвестр Антаневіч, ордэна Святога Васіля Вялікага абат Кобрынскі, дэпутат духоўных спраў, афіцыял Берасцейскі і старшыня кансісторыі.*

*Язафат Гарбацэвіч, асэсар Берасцейскай кансісторыі, за сакратара.*

**У 9 дзень лістапада 1803 года ў Лаўрышаве**.

*(Мы), ніжэй падпісаўшыяся, сведчым, што ВП Цыпрыян Плаўскі з Наваградскага дэканата, які мае 25 гадоў, прэтэндуе на духоўнае званне, два гады знаходзіўся ў Берасцейскай дыяцэзіяльнай семінарыі, але паколькі за гэты час не быў неабходным чынам удасканалены ў неабходных для яго звання навуках, таму патраціў яшчэ два з лішнім месяцы на гэтае ўдасканаленне, і за гэты час не заўважылі мы ў ім нічога акрамя сціпласці, цвярозасці, сталасці, чуласці ў сваіх абавязках. Займаўся маральнай тэалогіяй і статутам з немалым стараннем і паказаў сябе ў гэтым усім дастаткова добра.*

*Вось менавіта гэтае сведчанне для веры подпісамі сваіх рук змацавалі. Датавана як вышэй.*

*Марцініан Стэфаноўскі, ордэна Святога Васіля Вялікага рэктар Берасцейскай епархіяльнай семінарыі, сваёй рукой.*

*Святар Анатоль Сямігродскі, прафесар маральнай тэалогіі, базыльянін.*

*Святар Анастасій Пляскацэвіч, ордэна Святога Васіля Вялікага інструктар Берасцейскай епархіяльнай семінарыі, сваёй рукой.*

**5-е. Запіс аб хрышчэнні.**

Я, ніжэй падпісаўшыся, якога прасілі аб выдачы метрыкі пра хрышчэнне з парафіяльных кніг Кунаскай царквы, знайшоў такія запісы ў царкве і выдаў іх у наступным выглядзе:

*15 дня месяца красавіка 1777 года я, святар Ян Заўсцінскі, парах Гавязнянскай царквы, ахрысціў і бежмаваў сына, які мае імя Цыпрыян, (народжанага) ад бацькоў - мужа і жонкі: вялебнага святара Плацыда Плаўскага, параха Кунаскага, (і) ад маці, ЯВП Канстанцыі Плаўскай з Юркевічаў. Хросным бацькамі былі ЯВП Андрэй Корсак, паручнік літоўскіх войскаў, з ЯВП Мар'яна Мікуцёва.*

*Дадзеную выпіску выдаю ў папярэднім выглядзе, сведчу, што (яна) адпавядае запісу ў кнігах, якія знаходзяцца пры Кунаскай царкве. І на гэта ўласнай рукой пры звычайнай пячатцы падпісваю.*

*Дадзена ў Кунасе 26 жніўня 1802 года.*

*Святар Афанасі Гамаліцкі, адміністратар Кунаскай царквы.*

*Такую выпіску з аўтэнтычнай кнігі, як мага больш дакладна перапісаную, для лепшага даверу з прымацаванай пячаткай, падпісваю ўласнай рукой, святар П. Здановіч, дэкан Слонімскі, парах ...*

**Парафіяне Радзівонішскай грэка-каталіцкай цэрквы у 1829 г.**

**Вёска Манкаўцы розных пацэсараў**

1. Мацей Багуцкі, 47 г.; Караль Бабраўсюк, зяць, 32 г.; Гіеранім, сын Мацея, 7 г.; Павел, сын Караля, 2 г.; Сымон, сын Магдалены, 12 г.; Тамаш, другі сын, 6 г.; Анна, жонка Караля, 28 г.; Тэкля, дачка Мацея, 10 г.; Магдалена Валюк, 47 г.; Люцыя, дачка Магдалены, 10 г.

2. Базыль Будзішка, 56 г.; Сымон, сын Базыля, 19 г.; Мар'яна, жонка Базыля, 53 г.

3. Аляксандр Пілейка, 48 г.; Змітрук, яго сын, 9 г.; Кацярына, жонка Аляксандра, 36 г.; Мар'яна, яе дачка, 19 г.; другая Анна, 15 г.; трэцяя Аксіння, 2 г.

4. Казмір Шурмей, 52 г.; Раман, крэўны ... 7 г.; Разалія, жонка Казіміра, 32 г.; Хвядора Сінека, 14 г.

5. Стэфан Пілейка, 67 г.; Цыпрыян, сын Стэфана, 32 г.; другі Марцін, 25 г.; Ян, сын Марціна, 3 г.; Анна, жонка Стэфана, 63 г.; Крысціна, жонка Марціна, 24 г.

6. Стэфан Зайка, 48 г.; Клеменс Зайка, яго брат, 37 г.; Самсон, пасынак Клеменса, 9 г.; Ружа, жонка Клеменса, 40 г.; Хелена, дачка Ружы, 14 г.; Мар'яна, жонка Стэфана, 36 г.

7. Ян Ярмаловіч, 51 г.; Ігнат, пасынак Яна, 18 г.; Ігнат, пасынак Яна, 11 г.; Кшыштаф, трэці, 7 г.; Мар'яна, жонка Яна, 62 г.; Хелена, крэўная Яна, 19 г.; другая Аксіння, 14 г.

8. Мікалай Барысевіч, 32 г.; Казімір Барысевіч, 18 г.; Павел, брат Мікалая, 12 г.; Стэфан, сын Мікалая, 4 г.;

9. Мацей Новік, 53 г.; Клеменс, сын Мацея, 31 г.; Павел, сын Мацея, 20 г.; Францішак, другі сын, 9 г.; Тарэза, жонка Мацея, 36 г.; Анна, жонка Клеменса, 23 г.; Хелена, дачка Мацея, 16 г.; Анна, другая дачка, 8 г.; Барбара, трэцяя, 6 г.; Разалія, чацвёртая, 4 г.; Мар'яна, пятая, 1 г.

10. Мікалай Зайка, 42 г.; Караль, брат Зайкі, 32 г.; Мар'яна, жонка Мікалая, 31 г.; Кацярына, жонка Караля, 25 г.

11. Антон Каспорскі, 66 г.; Мікалай, яго сын, 38 г.; Гжэгаш, сын Мікалая, 3 г.; Леан, другі сын, 1 г.; Магдалена, жонка Антона, 66 г.; Барбара, жонка Мікалая, 25 г.

12. Антон Юрэвіч, 32 г.; Тамаш, сын Антона, 8 г.; Дамінік, другі сын, 4 г.; Уршуля, жонка Антона, 34 г.; Мар'яна, маці, 72 г.; Крысціна, маці Уршулі, 76 г.; Петранеля, дачка Антона, 1 г.

13. Дамінік Сініцкі, 46 г.; Гжэгаш, сын Дамініка, 17 г.; другі Вінцэнт, 12 г.; трэці Фёдар, 6 г.; чацвёрты Антон, 3 г.; Магдалена, 40 г.; Крысціна, яе дачка, 9 г.

14. Юзаф Пілейка, 42 г.; Ежы Шурмей, 40 г.; Тэадор, сын Юзафа, 9 г.; Стэфан, сын Ежы, 10 г.; Данель, другі сын, 8 г.; Кацярына,жонка Ежы, 38 г.; Караліна, дачка Юзафа, 14 г.; Хелена, дачка Ежы, 1 г.

15. Філіп Багуцкі, 65 г.; Сымон, сын Філіпа, 41 г.; Хвёдар, другі сын, 21 г.; Гжэгаш, сын Сымона, 14 г.; Ежы, сын Хвёдара, 4 г.; Мар'яна, жонка Сымона, 38 г.; Хрысціна, жонка Хвёдара, 23 г.; Хелена, дачка Сымона, 1 г.

16. Якуб Карней, 53 г.; Клеменс Кузюта (?), 19 г.; Марцін, сын Сідара, 7 г.; Рэгіна, жонка Якуба, 33 г.; Настасся, сястра Якуба, 46 г.; Крысціна, дачка Якуба, 4 г.; другая, Мар'яна, 19 г.

17. Клеменс Барысевіч, 57 г.; Андрэй, сын Клеменса, 25 г.; Ігнат, другі сын, 19 г.; трэці, Якуб, 15 г.; Антон Шаўрановіч, 36 г.; Крысціна, жонка Якуба, 23 г.; Петранеля, жонка Андрэя, 27 г.; Кацярына, дачка Антона, 3 г.; другая, Караліна, 1 г.

18. Тамаш Грынкевіч, 51 г.; Барталамей, яго сын, 24

[61] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Спіс парафіян Лідскай грэка-каталіцкага дэканату 1829 г. Арк. 198-201.

г.; Стэфан, другі сын, 1 г.; Крысціна, 48 г.; Таццяна, жонка Барталамея, 23 г.

19. Сымон Валюк, 52 г.; Мікалай, сын Сымона, 7 г.; другі, Вінцэнт, 3 г.; Настасся, жонка Сымона, 47 г.; Хелена, дачка Сымона, 19 г.; Рэгіна, другая дачка, 13 г.

20. Базыль Кузюцкі (?), 49 г.; Базыль, сын Базыля, 12 г.; Мікалай, другі сын, 9 г.; трэці Тэадор, 6 г.; Хвядора, жонка Базыля, 40 г.; Крысціна, яе маці, 67 г.

21. Андрэй Рыхліцкі, 45 г.; Лукаш, сын Андрэя, 12 г.; Агата, жонка Андрэя, 37 г.; Даніцэля, дачка Андрэя, 7 г.; другая, Тарэза, 4 г.; трэцяя Мар'яна, 2 г.

22. Пракоп Крышчан, 46 г.; Павел, брат Пракопа, 37 г.; Ян, сын Пракопа, 6 г.; Вінцэнт, сын Паўла, 5 г.; Станіслаў, сын Паўла, 2 г.; Мар'яна, жонка Пракопа, 23 г.; Хелена, жонка Паўла, 32 г.; Агата, маці Пракопа, 72 г.; Тарэза, дачка Пракопа, 12 г.; Анна, дачка Пракопа, 4 г.; Міхаліна, дачка таго ж, 2 г.

**Вёска Цвербуты, належыць розным пацэсарам**

1. Сымон Русак, 70 г.; Якуб, сын Сымона, 38 г.; Павел, сын Сымона, 26 г.; Стэфан, сын Паўла, 3 г.; Тарэза, жонка Сымона, 63 г.; Уршуля, жонка Якуба, 45 г.; Юстына, жонка Паўла, 27 г.; Юзэфа, дачка Якуба, 16 г.; Антаніна, дачка таго ж, 11 г.; Мар'яна, дачка таго ж, 6 г.

2. Ян Русак, 60, г.; Цыпрыян, сын Яна, 27 г.; Ігнат, другі сын, 22 г.; Ян, сын Цыпрыяна, 1 г.; Альжбета, жонка Яна, 57 г.; Францішка, жонка Цыпрыяна, 26 г.; Мар'яна, жонка Ігната, 21 г.

3. Станіслаў Якевіч, 52 г.; Ян, сын Станіслава, 12 г.; Антон Будзейка, 31 г.; Міхал, сын Антона, 5 г.; Мар'яна, жонка Станіслава, 50 г.; Пелагея, дачка Станіслава, 17 г.; Вікторыя, жонка Антона, 30 г.; Юстына, іх дачка, 1 г.

4. Базыль Андрушка, 46 г.; Кандрат,сын Базыля, 14 г.; Ігнат, другі сын, 12 г.; трэці сын Ян, 4 г.; чацвёрты Юзаф, 1 г.; Анна, жонка Базыля, 40 г.; Магдалена, маці Анны, 71 г.; Настасся, дачка Базыля, 7 г.; Уршуля, жонка Яна ... 62, г.

5. Сымон Барысевіч, 45 г.; Фелікс Барысевіч, 35 г.; Павел, сын Сымона, 12 г.; Міхал, сын Фелікса, 7 г.; Данель, сын Сымона, 3 г.; Тарэза, жонка Сымона, 40 г.; Мар'яна, яе маці, 62 г.; Крысціна, дачка Сымона, 14 г.; Даміцэля, другая дачка, 5 г.; Еўдакія, жонка Фелікса, 30 г.; Францішка, дачка Фелікса, 2 г.

6. Ян Санкевіч, 27 г.; Ульяна, жонка Яна, 21 г.; Кацярына, маці Яна, 63 г.; Кацярына, сястра Яна, 17 г.

7. Юзаф Рыхліцкі, 46 г.; Ян, сын Юзафа, 12 г.; Стэфан, другі сын, 1 г.; Яўхіма, маці, 68 г.; Крысціна, жонка Юзафа, 49 г.; Настасся, дачка Юзафа, 20 г.; Анна, дачка Юзафа, 10 г.

8. Юзаф Будзішка, 54 г.; Ежы, сын Пятра, 15 г.; Ян, сын Пятра, 9 г.; другі Якуб, 6 г.; сын Пятра Леан, 2 г.; Крысціна, жонка Пятра, 41 г.; Мар'яна, іх дачка, 18 г.; Аксіння, другая дачка, 12 г.

9. Ян Карней, 70 г.; Францішак, сын Яна, 42 г.; Эльяш, другі сын, 9 г.; Францішак, сын Францішка, 5 г.; другі Пётр, 1 г.; Еўдакія, жонка Францішка, 31 г.; Анна, дачка Яна, 15 г.; Юстына, цешча Францішка, 53 г.

10. Тэадор Карней, 42 г.; Данель, сын Тэадора, 16 г.; Якуб, другі сын, 7 г.; Хелена, жонка Тэадора, 38 г.; Анна, іх дачка, 14 г.

11. Юзаф Верабей, 53 г.; Ануфры, сын Юзафа, 33 г.; Стэфан, другі сын, 19 г.; Ян, трэці сын, 12 г.; Пракседа, жонка Юзафа, 43 г.; Мар'яна, жонка Ануфрыя, 31 г.

12. Ян Рыхліцкі, 46 г.; Віктар, сын Яна, 10 г.; Магдалена, жонка Яна, 31 г.; Мар'яна, дачка Яна, 17 г.; другая дачка Анна, 15 г.; трэцяя дачка Хвядора, 3 г.

13. Лаўрын Тузін, 51 г.; Стэфан, сын Лаўрына, 21 г.; Кшыштаф, сын Лаўрына, 6 г.; Ян Тузін, яго брат, 48 г.; Зоф'я, жонка Лаўрына, 35 г.; Анна, жонка Стэфана, 20 г.; Хвядора, дачка Яна, 12 г.

14. Якуб Тузін, 43 г.; Пелагея, дачка Якуба, 20 г.; Ева, другая дачка, 18 г.; Кася, трэцяя дачка, 9 г.; Антаніна, чацвёртая дачка, 7 г.

15. Габрыэль Тузін, 49 г.; Вінцэнт Тузін, 40 г.; Ян, сын Габрыэля, 12 г.; Вінцэнт, сын Вінцэнта, 1 г.; Мар'яна, жонка Габрыэля, 38 г.; Агата, яго дачка, 13 г.; Анна, другая дачка, 6 г.; Крысціна, трэцяя дачка, 1 г.; Кацярына, жонка Вінцэнта, 27 г.

16. Станіслаў Карней, 39 г.; Якуб Карней, 33 г.; Ігнат, сын Якуба, 9 г.; Вінцэнт, другі сын, 5 г.; Кацярына, жонка Станіслава, 37 г.; Анна, іх дачка, 13 г.; Хвядора, другая дачка, 11 г.; Магдалена, 3-я дачка, 1 г.; Мар'яна, жонка Якуба, 22 г.; Рэгіна, дачка Якуба, 4 г.

17. Ян Каспорскі, 32 г.; Крыштаф Каспорскі, 28 г.; Гжэгаш, сын Яна, 6 г.; Ян, сын Крыштафа, 1 г.; Анна, жонка Яна, 28 г.; Хелена, жонка Крыштафа, 21 г.; Вікторыя, дачка Яна, 3 г.; Мар'яна, дачка Крыштафа, 3 г.

18. Якуб Каспорскі, 32 г.; Крыштаф Каспорскі, 28 г.; Гжэгаш, сын Яна, 6 г.; Ян, сын Крыштафа, 1 г.; Анна, жонка Яна, 28 г.; Хелена, жонка Крыштафа, 21 г.; Вікторыя, дачка Яна, 3 г.; Мар'яна, дачка Крыштафа, 3 г.

19. Васіль Лагеза, 15 г.; Клеменс Лагеза, 4 г.; Таццяна, іх маці, 55 г.; Мар'яна, іх сястра, 22 г.; Крысціна, другая сястра, 8 г.

20. Стэфан Карней, 56 г.; Гжэгаш, сын Стэфана, 29 г.; Еўдакія, маці Стэфана, 50 г.; Магдалена, жонка Гжэгаша, 23 г.; Пелагея, дачка Гжэгаша, 1 г.

21. Данель Гойка, 49 г.; Аляксандр, яго сын, 19 г.; Кацярына, жонка Данеля, 46 г.; Антаніна, дачка Данеля, 9 г.

22. Ежы Карней, 49 г.; Леан, сын Ежы, 18 г.; Настасся, яго жонка, 43 г.; Кацярына, іх дачка, 19 г.; другая дачка Міхаліна, 9 г.; Кацярына Якімовіч, 40 г.; Антаніна, дачка Кацярыны, 12 г.

23. Ян Гойка, 60 г.; Ян Бурак, зяць, 31 г.; Хелена, жонка Яна, 41 г.; Пелагея, жонка Яна, 25 г.; Антаніна, дачка Яна, 15 г.; другая дачка Францішка, 2 г.

24. Хвёдар Сідар, 46 г.; Антон Барысюк (?), 24 г.; Мікалай, сын Сідара, 5 г.; Кацярына, жонка Сідара, 32 г.; Анна, іх дачка, 11 г.; Хвядора, маці Кацярыны, 75 г.

25. Павел Бабраўсюк, 29 г.; Ян, брат Паўла, 23 г.; Гжэгаш, сын Яна, 2 г.; Хвядора, жонка Яна, 23 г.; Крысціна, жонка Паўла, 23 г.; Тарэза, сястра Паўла, 13 г.

26. Сымон Пішык, 41 г.; Кандрат, яго брат, 23 г.; Вінцэнт, сын Кандрата, 3 г.; Мар'яна, яго маці, 71 г.; Францішка, жонка Сымона, 40 г.; Кацярына, жонка Кандрата, 41 г.; Кацярына, дачка Кацярыны, 9 г.

| Назва мясцін | Дымы | Разам вернікаў | Мужчын | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Да камуніі | Не да камуніі | Да камуніі | Не да камуніі |
| Вёска Манкаўцы | 22 | 191 | 57 | 23 | 54 | 17 |
| Цвербуты | 26 | 179 | 61 | 22 | 79 | 17 |
| Разам | 48 | 330 | 118 | 49 | 133 | 34 |

Гэты інвентар вернікаў парафіяльнай Радзівонішскай царквы 20 жніўня 1829 г. склаў і ўласнай рукой падпісаў святар Павел Сцепуржынскі.

***Віктар Кудла,***
***выпускнік Ганчарскай сярэдняй школы 1959 года***

# Сачыненне на тэму: “ЗВЕСТКІ ПРА СЯЛЯНСКАЕ ЖЫЦЦЁ, НАВУЧАННЕ, ВУЧНЯЎ І ІХНІ ЛЁС У ГАНЧАРСКАЙ АКРУЗЕ”

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Патрэбы капіталістычнага развіцця, узмацненне грамадска-палітычнага руху вымусілі царызм правесці школьную рэформу, якая садзейнічала пашырэнню сеткі пачатковых школ і адмяняла саслоўныя абмежаванні для паступаючых у вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы. “Палажэннем аб пачатковых народных вучылішчах” 1864 г. было дазволена грамадскім установам і прыватным асобам адкрываць пачатковыя школы *"для ўмацавання ў народзе рэлігійных і маральных паняццяў і распаўсюджвання першапачатковых карысных ведаў"*. У гэтых школах дзяцей вучылі пісьму і чатыром дзеянням арыфметыкі, вялікая ўвага надавалася Закону Божаму і царкоўным спевам. У нядзельныя і святочныя дні вучні былі абавязаны ўсёй школай хадзіць у царкву. Для ўзмацнення адміністрацыйнага і педагагічнага кантролю ў 1869 г. уводзілася пасада інспектара народных вучылішч, а ў 1874 г. - дырэктара народных вучылішч.

У архіўных дакументах ёсць першае ўпамінанне, што ўжо ў 1864 годзе ў Ганчарах адкрыта земскае народнае вучылішча. Размяшчалася ў казённым доме, утрымлівалася на сродкі дзяржаўнага казначэйства (выдаткоўвала 200 руб. штогод) і часткова за сродкі мясцовых сялян.

Па "Памятных кніжках" Віленскай вучэбнай акругі Віленскай губерні знойдзены частковыя звесткі пра настаўнікаў, працаваўшых у розныя гады ў Ганчарскай школе, законанастаўнікаў праваслаўнага спавядання і колькасць навучэнцаў.

У школе ў розны час настаўнічалі:

- Аляксандр Данілавіч Пятроўскі (1871-75) (адзін з першых скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, атрымліваў 150 руб. штогод і кватэру);
- Васіль Восіпавіч Рут (1875-76), выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі,
- Сцяпан Міхайлавіч Чараповіч, з сялян (1879-81),
- Ігнацій Пятровіч Бяганскі, з сялян (1881-83);
- Іван Антонавіч Кульвінскі (1887) (выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, аклад 150 руб., хлеба на 35 руб. і кватэра);
- Восіп Зубец (1890),
- Міхаіл Рудзевіч (1891-95);
- Аляксей Якімовіч (1897),
- Фёдар Рамашкевіч (1897/98),
- Мікалай Альшук (1898/99).
- Пётр Скрабец (выхаванец Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, атрымліваў 199 руб. 50 кап. і кватэру).

Законанастаўнікамі праваслаўнага спавядання былі святары: выпускнік Валынскай духоўнай семінарыі Фёдар Лаўрыновіч (1876-78); Іаан Філіпавіч Грудзінскі (1879-84), Сяргей Аляксеевіч Шэстаў (1886-94, выпускнік Цвярской духоўнай семінарыі, атрымліваў 25 руб.), Кастанцін Высоцкі (1994-99), Мікалай Відзелібскі (1900-10), Пётр Семянткоўскі (1914-15).

Цяга мясцовага насельніцтва да навучання дзяцей у школе была велізарная. Як сведчаць гістарычныя дакументы, многія школы ў Лідскім павеце поўнасцю знаходзіліся на ўтрыманні сялян. На сродкі сялян аддаленых вёсак пры школах ствараліся і ўтрымліваліся вучнёўскія інтэрнаты. Шырока практыкаваўся збор сельскай грамадой грашовых сродкаў і збожжа на будаўніцтва і ўтрыманне дзяржаўных народных вучылішч. Адкрываліся і хатнія "школкі". Сяляне наймалі на некалькі дамоў пісьменнага хлопца - "дарэктара", які вучыў дзяцей у сялянскіх хатах па чарзе. Матэрыяльная падтрымка насельніцтвам школьнай справы з'яўлялася сведчаннем добрых адносін да адукацыі і ведаў.

У 1880 годзе ў Ганчарах дзейнічалі: праваслаўная царква, земскае народнае вучылішча, карчма, валаснoе ўпраўленне, 2 км ад сяла - паштовая станцыя Лупеніца, 4 км - касцёл у Агародніках. У 1886-87 навучальным годзе вучылішча наведвалі 70 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1888 годзе ў Ганчарскім народным вучылішчы налічвалася 67 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. А ў 1894 годзе ў школе набывалі веды 74 хлопчыкі і 7 дзяўчынак… Ёсць звесткі, што у 1897 годзе пры Ганчарскай царкве адкрыта аднакласная царкоўна-прыходская школа.

На пачатку XX ст. неабходнасць адукацыі была ўспрынята сялянамі Лідчыны, як адзін з галоўных фактараў жыццёвага поспеху сваіх дзяцей. Таксама пачала ўсведамляцца неабходнасць і мэтазгоднасць вучобы менавіта на роднай беларускай мове. Але легальную беларускую школу адкрыць тады было яшчэ немагчыма. Як вынік, беларускія школкі пачалі з'яўляцца без дазволу ўладаў.

*"У Лідскім павеце гаспадары пачалі кратацца каля прасветы сваіх дзетак. У адной вёсцы зрабілі прыгавор аб вучылішчу, але агледзяліся, што ў гэтым вучылішчу адразу вучаць па-расейску, дык першы год дзеці толькі час трацяць, бо дрэнна разумеюць гэту мову, вось і сяляне надумалі з самых пачаткаў вучыць сваіх дзяцей дома. Нанялі такога вучыцеля, каторы ўмее добра беларускую родную мову, і пераканаліся, што гэтак шмат болей карысці для дзяцей, бо ім усё, што вучыцель да іх кажа, зразумела, і пасля ў школкі лягчэй вучыцца".*

У карэспандэнцыі пад загалоўкам "З Лідскага павета" ў газеце "Наша Ніва" на пачатку 1908 г. аўтар апавядаў, што сяляне ўжо добра зразумелі неабходнасць навукі для дзетак на сваёй мове: *"У зывадной вёсцы надумаліся мужыкі наняць настаўніка... цяпер нам усім дрэнна, а без навукі яшчэ горш будзе. Зямлі, брат, сваёй няшмат, дома сыны век не будуць сядзець, трэба будзе выхіляцца ў свет, а як чалавек невучоны, дык бяда: усюды папіхваюць і за дурня маюць!"* (Антось Кумпяк).

Той жа аўтар праз некалькі месяцаў пісаў: *"Устаюць памалу беларусы на свае ногі, і самі працуюць, каб падняць куьтуру. Толькі бядуюць, што няма дзе вучыць дзяцей, школак ў валасці толькі адна - народная, а дзяцей для навукі ў кожнай вёсцы будзе па 30, прыйдзе зіма, і вясковыя дзеці замест навукі будуць сабак ганяць ... Але мужыкі стараюцца і самі наймаюць вучыцялёў на зіму. Школкі такія добра вучаць і па-руску, і па-польску, а тлумачыць ім вучыцель усё ў роднай беларускай мове. Крыўда толькі дзецям ў тым, што такія школкі называюць "тайнымі" і закрываюць. У 1908 гадзе начальства закрыла 4 такія школы ў Ганчарскай воласці - у вёсках Фалькавічах, Мінойтах, Песках і Заборцах, дык яшчэ 2 школкі ў Беліцкай воласці ў в. Нецяч і Чаплічы".* Як бачым, толькі ў невялікай частцы тагачаснага Лідскага павета, за адзін год улады не запачаткавалі, а закрылі шэсць беларускіх школ!

Сяляне Лідчыны гатовыя былі вучыць сваіх дзяцей за свае кроўныя грошы, але расійская ўлада праследавала непадкантрольную ёй адукацыю. Газеты таго часу рэгулярна змяшчалі інфармацыю з усёй Беларусі пра закрыццё "тайных" школ і судовы пераслед іх арганізатараў. *"Трэба нам наняць вучыцяля, ды такога, каб вучыў па-нашаму, у такой мове, як самі гаворым; калі не будзе так, як я кажу, дык, дасць бог, і капейкі не дам на якога іншага вучыцяля!"*

Але моўнае пытанне сялянская грамада мела магчымасць вырашыць па сваім разуменні: беларуская мова задавальняла ўсіх.

"А.С." пісаў з Бутрыманцаў Лідскага павета: *"... асвета сялян тут па вёсках ідзе не праз школы, бо ўрадавая школа ўсяго адна на цэлую воласць, і воласць не малую. Хадзіць у тую школку ня кожнаму спадручна, ды і школка малая: усе месцы заняты, а жадаючых навукі шмат, дзеля гэтага сяляне прымушаны самі вучыць сваіх дзяцей і вучаць: бо ўцямілі патрэбу навукі. Усюды добра граматнаму - ці дзе паехаў, ці пайшоў. Чытаць умеюць ня толькі мужчыны, але і ўсе блізка кабеты, кабеты ж і вучаць чытаць дзяцей, сабраўшы па якіх 2-3, больш няможна, бо пацягнуць... Галоўная мэта гэтай навукі - чытанне на малітоўніку. На малітоўніку дзеці і чытаць вучацца, ён і астаеццаў іх назаўсёды адзінай…".*

У 1900 годзе ў Ганчарах непадалёку ад царквы, на другі бок вуліцы, пабудавана з дрэва першая школа на 5 пакояў. У будынку меліся два класныя пакоі, настаўніцкая і кватэра дырэктара. У той час былі: дырэктар - Данько, настаўнікі: Альшук, Скрабец, Пятроўскі, Стаянаў, Даўгаполаў. (Нажаль, іх імёны не захаваліся, а вось на Лідчыне ёсць жыхары з такімі прозвішчамі, мажліва, родзічы… добра было б, каб адгукнуліся).

Скупыя архіўныя запісы нагадваюць аб навучанні ў тыя часы…



***Па ўсёй верагоднасці гэта і ёсць будынак Ганчарскай школы, пабудаваны ў 1900 годзе***

1901 год. Дзейнічалі: народнае вучылішча (90 вучняў, усе хлопчыкі), царкоўна-прыходская школа, праваслаўная Свята-Пакроўская царква, фельчарскі пункт (фельчар Іван Лісін) і валаснное ўпраўленне.

1905 год. У сяле працавала народнае вучылішча і царкоўна-прыходская аднакласная школа.

У ходзе рэформы навучальныя ўстановы розных ведамстваў перайшлі ў большасці сваёй у падпарадкаванне Міністэрству народнай асветы. Пачатковымі школамі ў вёсцы сталі народныя вучылішчы. Пры царкоўных прыходах існавалі пачатковыя прыходскія адна- і двухкласныя школы дарэформеннага тыпу, а таксама двух-, трох- і чатырохкласныя мужчынскія і жаночыя вучылішчы царкоўнага ведамства.

1906 год. У Ганчарскай школе навучалася толькі 16 вучняў (штосці рэзка зменшылася колькасць вучняў (*В.К.*).

А ўжо ў 1908 годзе пабудавана другое памяшканне для школы. (Потым на гэтым месцы пабудаваў хату Чаркоўскі). Існавала тады і жаночая царкоўна-прыходская школа да 1915 г. (Яна размяшчалася там, дзе цяпер дом Алены Шут.) Працавалі настаўнікі: Са-

лаўёва, Мохава, Крылова, Ушакова.

У 1914 годзе ў народным вучылішчы настаўнікам працаваў Антон Пятровіч Бяганскі.

У вёсцы Фалькавічы Лідскага павета Ганчарскай воласці пастаноўка справы народнай адукацыі з большага задавальняла сялян: *"Ёсць у нас вучылішча Любарскага обчэства. Усе нашы сяляне цешацца і з вучылішча, і з вучыцеля, каторы вельмі добра абходзіцца з дзеткамі. Не саўсім толькі здаволены каталікі тым, што ім прыходзіцца вучыцца па-расейску. Хаця ўсе тут беларусы, але цёмныя людзі хочуць вучыць пацяроў не па-беларуску, а па-польску, бо думаюць, што, як каталік, то ўжо і палякам стаўся".*

У вёсцы Дзітрыкі жыў Мулінскі Аляксандр Іванавіч. Сям'я была вялікая, а зямелькі невялікі шматок, ды і той - пясочак і хмызняк. Аляксандр узяў у жонкі працавітую маладую ўдаву Соф'ю Лукашэвіч (муж-аднавясковец Вінцэсь рана памёр, пакінуўшы на гаспадарцы жонку і сіротку Алесю). У іхняй маладой сям'і родзяцца яшчэ чатыры дачушкі і два хлопцы. Паўсядзённая праца на гаспадарцы, дзе кожны з дзяцей меў свой абавязак, і навучанне ў "хатняй школцы" выхавала працалюбавых і здольнах да самастойнага жыцця. У хуткім часе дзяўчаты павыходзілі замуж: Аляксандра 1883 г.н. - у Дроздава за Кудлу Івана Ізыдаравіча, Ганна 1888 г.н. - за Хрышчановіча Юзюка ў Хаданішкі, Марыля ? г.н. - за Ашмяну Аляксандра ў Більтаўцы, Надзя 1899 г.н. - за Буйніцкага Рыгора, і самая малодшая Юлька 1906 г.н. - за Германовіча Кандрата ў Ганчары. Усе яны дружна жылі, на святы заўсёды збіраліся ўсёй вялікай кампаніяй, па-сваякоўску дапамагалі сем'ямі, асабліва, калі дзеці пайшлі вучыцца далей. На бацькавай гаспадарцы застаўся Аляксандр,1904 г.н., ажаніўшыся з Панковіч Аляксандрай.



***Вучні Ганчарскай школы Мулінскія: Надзя, Юлька, Марыя***

Старэйшы сын Іван 1895 г.н. з дзяцінства цікавіўся навукай, кнігамі, і бацькі здолелі адправіць яго ў Ганчарскую школу, дзе хлопец праявіў добрыя здольнасці да вучобы. Дзявятнадцацігадовым юнаком у 1914 годзе быў прызваны ў царскую армію ў кавалерыйскі полк, ваяваў з кайзераўцамі тут, на Віленшчыне. Потым накіраваны пад Маскву на курсы малодшых камандзіраў, а па дарозе заехаў на радзіму і расказваў пра зверствы германцаў. Гэта падштурхнула кінуцца ў бежанцы родзічаў. Разам з ім першымі ў дарогу рушылі родныя бацькі Вані: бабуля Аляксандра, цёця Соня і сястра Вольга. Іван дапамог ім уладкавацца ў сяле Навінкі каля Серпухава. Пасля рэвалюцыі трапіў у дабраахвотніцкую армію Калчака. Як адукаваны, і меўшы выдатны каліграфічны почырк, быў некаторы час пры штабе пісарам. У часы грамадзянскай вайны перайшоў да чырвонаармейцаў, але ў партыю не ўступаў. Так і застаўся ў Сібіры, закончыў нейкія бухгалтарскія курсы. Працаваў на адказных пасадах. Там застала Айчынная вайна, быў у дзейнай арміі. Памятаю, як пасля Перамогі ў вайсковай форме быў у Дроздаве ў гасцях у сястры Алесі. Мы, дзеці, распальвалі самавар, раздуваючы вуголле халявай бота. Разам з маім бацькам прыгожа спяваў: "На позицию девушка провожала бойца…". Абаснаваўся ў Краснаярску, быў галоўным бухгалтарам Сібірскага леспрамгаса. У сям'і быў прыёмны сын. Некалькі разоў наведваў родныя Дзітрыкі і гасціў падоўгу ў сваіх родных.



***Мулінскі Іван Аляксандравіч у гасцях у Дроздаве ў сястры Алесі***



***Мулінскі Іван Аляксандравіч, Буйніцкі Леў Рыгоравіч, Кудла Вера Іванаўна, Кудла Ігар (фота 50-х гадоў)***

З успамінаў Германовіч (Пільчук) Аляксандры Кандрацьеўны (з расказаў яе бацькі Германовіча Кандрата Кандратавіча 1895 г.н. - удзельніка грамадзянскай вайны, узнагароджанага ордэнам Чырвонай Зоркі (*В.К.*): *"Я ведаю, што школа ў Ганчарах была даўным-даўно. У ёй вучыўся і мой бацька, прыкладна ў 1907-1912 гадах. Тады яна называлася "Церковно-приходская двухгодичная школа". Навука вялася на рускай мове. Былі ўрокі рускага чытання, граматыкі, матэматыкі, а таксама ўрокі рэлігіі, якія праводзіў бацюшка Ганчарскай царквы.*

*Бацька расказваў, што перад Першай сусветнай вайной нейкі час у Ганчарскай школе і ў вёсцы Вя-*



***Кандрат Кандратавіч і Юлія Аляксандраўна Германовічы (фота 1975 г.)***



***Рыгор Шырма (справа) у маладыя гады. Падобна па вопратцы Рыгора і форме адзення калегі, мажліва, яны ў часы вучобы на настаўніцкіх курсах у Свянцянах***

*лікія Канюшаны працаваў настаўнікам Рыгор Шырма. І, ужо будучы кіраўніком народнага хору, у 40-ым годзе прыехаў з канцэртам. Я сама бачыла, як Рыгор Шырма падышоў да бацькі, прывіталіся, і нейкі час яны размаўлялі, як старыя знаёмыя*".

Па дадзеных аўтабіяграфіі Рыгор Шырма нарадзіўся ў 1892 годзе ў вёсцы Шакуны на Пружаншчыне. У 1910 годе закончыў двухгадовыя настаўніцкія курсы ў Свянцянах і працаваў настаўнікам у Лідскім павеце. Шырма ўжо тады не толькі настаўнічаў, але і ездзіў па вёсках і збіраў беларускія песні, загадкі, прымаўкі, быліны, ствараў школьныя хоры, якія выступалі з канцэртамі ў вёсках.

Пасля Першай сусветнай вайны Шырма застаўся ў Заходняй Беларусі, збіраў і апрацоўваў народныя песні, стварыў беларускі народны ансамбль. Кіраўнік і дырэктар беларускага дзяржаўнага ансамбля песні і танцу (да 1955 года) Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР (1939-1970, памёр 23.05.1978.*(В.К.)*



АКТЪ

***Фрагмент акта ад жніўня 1915 года аб перапісе ўсёй маёмасці, дзе даволі падрабязна зроблены вопіс-пералік маёмасці, яе ацэнка***

Аб тым, што сяляне, нягледзячы на занятасць на гаспадарцы, усё ж наведвалі школкі і набывалі веды, яскрава сведчыць такі факт. Калі германскія войскі наблізіліся да Лідчыны, і ўзнікла пагроза зверстваў, дзядуля парашыў з сям'ёй падацца на ўсход... У жніўні 1915 года паліцэйскі ўраднік Лідскага павета Іваноў даволі падрабязна зрабіў вопіс-пералік маёмасці, яе ацэнку на больш, чым дзесяць тысяч царскіх рублёў - на той час значная сума! Гэты дакумент яскрава сведчыць аб дабрабыце маіх родзічаў. Дакумент падпісалі староста Ганчарскай воласці Осіп Дычок і пісьменныя аднавяскоўцы: Васіль Кудла, Осіп Шут, Мікалай Кудла, Юрый…

Уласнік маёмасці - мой дзядуля Іван Кудла 1875 года нараджэння падпісаўся даволі каліграфічна… Гэта добрае сведчанне таго, што сяляне вучыліся і прайшлі навуку ў Ганчарскай школе.

З успамінаў Грос Тамары Уладзіміраўны:

*"Калі пачалася Першая сусветная вайна, пад уплывам чутак аб зверствах германцаў, старэйшыя вырашылі ўцякаць у Расію. Восенню 1914 года першымі адправіліся прабабуля Аляксандра, цёця Соня - ёй было 23 гады, была яна настаўніцай у Ганчарах, і мая мама Вольга - ёй было 7 год. Абасналіся ў сяле Навінкі каля Серпухава. Тут цёцю Соню прызначылі настаўніцай, а маці вучылася ў мясцовай школе".*


Свидѣтельство.

***Захавалася пасвечанне ад 8 ліпеня 1917 года аб паспяховым заканчэнні курса навучання ў Навінкаўскай царкоўна-прыходской школе*** *(В.К.)*

Прыйшлі немцы. Тут, на акупаваных землях, была арганізавана акруга Обер-Ост. Лідскі павет для больш надзейнага кантролю за тэрыторыяй быў падзелены на чатыры меншыя: Лідскі, Радуньскі, Васілішкаўскі і Шчучынскі.

Першая беларуская школа ў зоне Обер-Ост была адкрыта 13 лістапада 1915 года ў Вільні на Юр'еўскай вуліцы, дзякуючы намаганням нашай зямлячкі А. Пашкевіч (Цёткі) і Б. Пачобкі.

На пачатку сакавіка 1916 года газета "Гоман" паведаміла, што нямецкі галоўнакамандуючы Усходнім фронтам Гіндэнбург выдаў загад пра арганізацыю беларускіх школ на акупаваных землях. Сярод іншага ў дакуменце гаворыцца: *"Беларуская мова, як адменная ад расейскай, дапускаецца да ўжытку без ніякіх перашкод".* Аб навуцы рэлігіі сказана, што яна павінна выкладацца ў матчынай мове вучня, значыць, у той мове, у якой бацькі гавораць з дзецямі.

Але найважнейшай праблемай быў недахоп настаўнікаў, большай часткаю мабілізаваных ці эвакуяваных у Расію. Аднак беларусы скарысталіся з загаду Гіндэнбурга, і ў лістападзе 1916 года газета паведаміла, што ў Лідзе *"для тутэйшых настаўнікаў і настаўніц наладжаны педагагічныя курсы. На іх пакуль што вучыцца 26 душ".*

Улады Обер-Оста прынялі рашэнне адкрыць беларускую настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы, дзе на трохмесячных курсах павінны былі атрымаць падрыхтоўку новыя кадры. У выніку тут прайшлі навучанне 144 настаўнікі беларускіх школ.

У Свіслачы вучылася і моладзь з Лідчыны: *"У тутэйшай беларускай вучыцельскай семінарыі навукі ідуць поўным ходам. Работа ідзе ахвоча, бо ўсе курсісты - гэта шчырыя беларусы, сыны беларускай вёскі, з'ехаўшыеся з розных ваколіц. Хаця курс навук толькі трохмесячны, аднак пры акуратна наладжанай рабоце яго праходзяць, як мае быць..."* (Лідскі летапісец, № 4 (72).

Паводле часопіса "Лідскі летапісец" № 4 (72), у часы акупацыі нашай мясцовасці кайзераўскімі войскамі з верасня 1915 па люты 1919 года, верагодней за ўсё, навучанне ў Ганчарах было. Немцы дазволілі адкрыць беларускую школу з выкладаннем і мовы нямецкай.

Пасля заканчэння Першай сусветнай вайны, тут на Лідчыне ўсталёўваецца на кароткі час савецкая ўлада з 5 студзеня 1919 года па 17 красавіка 1919 года. Затым польскія войскі выганяюць саветаў, але і самі пратрымаліся да 17 ліпеня 1920 года,калі расейскія войскі зноў пагналі палякаў, але не надоўга - там пад Варшавай атрымалі паразу, і з 30 верасня 1920 года наш раён - у складзе Польшчы да18 верасня1939 года. Вось якія ператрусы і перасцярогі прыйшлося перажыць нашым землякам у часы савецка-польскай вайны, што пракацілася па паселішчах і насельніцтву Заходняй Беларусі.

Аб цяжкай дарозе і жыццёвых абставінах у бежанцах па успамінах бацькі і па зберажоных дакументах мною падрабязна апісана ў нататках "Экскурс у гісторыю беларускага бежанства ў Першую сусветную вайну", надрукаваных у "Лідскім летапісцы".

Роўна сто год таму, у лютым 1919 года, мае родзічы: дзядуля Іван, яго сястра Соф'я, бабуля Алеся, цёця Вольга і тата Ваня, пазнаўшы гаротнае і трывожнае жыццё ў Расіі і даведаўшыся аб вызваленні Беларусі, сабраліся і рушылі ў дарогу… Пры звальненні 7-га лютага1919 года дзеду выдалі заключны разлік крыху грашыма, а частку сваім палатном сітцанабіўной фабрыкі.

Захавалася цікавае пасведчанне на фірменным бланку з усімі рэквізітамі, напісаннае строгім каліграфічным почыркам з подпісамі кіраўнікоў. (Добры прыклад для цяперашняга справаводства).

*Пачаў душыць Расію голад,*
*вялікі гвалт вакол стаяў.*
*У гарадах зімою холад*
*ды пошасць Бог яшчэ паслаў.*
*І беларус дамоў падаўся,*
*хто на падводзе, хто пяшком*
*К мясцінам родным дабіраўся*
*з адзіным рэчавым мяшком.*
*Тым больш з'явілася нагода:*
*дамова Рыжская была.*
*Па той дамове перашкоды*
*Масква вяртанню іх зняла.*
*Старыя людзі гаварылі -*
*не ўсе вярнуліся дамоў.*
*Хто сам памёр, каго забілі,*
*а хто ў Расіі лёс знайшоў.*

**З успамінаў бацькі:** *"Калі закончылася вайна, праз два тыдні цягніком у таварных вагонах, напрыканцы зімы, мы ўсёй сям'ёй вяруліся ў родныя мясціны. У Дроздаве - жудасны малюнак: саламяныя стрэхі пабудоў разшматаны. Хата, гумно і хлявы разхлестаны - без дзвярэй і начыння. Не стала ні малатарні, ні сячкарні, ані жорнаў. У старой хаце выламаны вокны. Ні сталоў, ні зэдлікаў, нават агароджу панеслі. Вугал зруба новай хаты быў падняты, а залатнік, які паклалі пад першы "вянок" гэтага зруба, укралі. Вяртаць маёмасць, якую пакінулі і так скрупулёзна апісалі і ацанілі, не было каму… Самаго гаранта - Цара-бацюшку і яго сям'ю знявечылі… А новая ўлада - сама босая...*

*Пайшлі да Козела Міхаіла, далёкага родзіча (ён не выязджаў у Расію), якому мажліва больш за ўсё перапала з нашай гаспадаркі, а ён даў толькі два вядры бульбы і бохан хлеба.*

*Крыху дапамаглі сваякі з Хаданішкаў: родныя сёстры мамы: Надзя Буйніцкая і Ганна Хрышчановіч. Яны далі па торбе зерня і трошкі мукі. У аднавяскоўцай выменьвалі расейскае паркалевае палатно на хатнія пажыткі і яду. Мала-памалу сабралі насенне на пасеў. Была вясна. На яду збіралі шчаўе і крапіву. Пасадзілі агародчык. Бульбу садзілі, збіраючы ў аднавяскоўцаў лупіны. Восенню крыху накапалі. Далей - болей. Завялі жыўнасць, кабылку. Зямелька давала добры ўраджай. Бацькі працавалі ад світання да змяркання. Я ўжо станавіўся за плуг, баранаваў, браўся касіць, даглядаў жывёлу, калі- нікалі наведваў школу, стараўся вучыўцца добра."*

*Тых, хто вярнуўся, тут чакалі*
*адсутнасць ежы і жытла.*
*Ды ліцвіны не гаравалі,*
*да гора звычка ўжо была.*
*З душэўнай радасцю, імпэтам*
*упрагліся вёскі аднаўляць.*
*Зімой студзёнай, палкім летам*
*ім давялося шчыраваць.*
*Палі залеглыя ўзаралі,*
*насення, бульбы не было,*
*Лупіны іншы раз саджалі,*
*ды дзякуй Богу ўсё ўзрасло.*

Але зноў над нашай гаротнай зямлёй навісла пагроза: то Чырвоная Армія, то Войска Польска,а потым жыццё "за польскім часам".

*І можна жыць было б, ды дзе там!*
*Маскаль нас хутка тут дастаў,*
*Пад зычны лозунг: "Власть Советам"*
*дзяржаву зноў акупаваў.*
*Яны і Польшчу меркавалі*
*зноў у імперыю загнаць.*
*Ды толькі зубы абламалі:*
*пад Менск прыйшлося адступаць.*
*"Даёшь Варшаву", - верашчалі,*
*туды, нібы на шпацыр, шлі,*
*Ды толькі там іх не чакалі:*
*пагібель тысячы знайшлі.*
*Антанта ляхам памагала*
*дзяржаўнасць Польшчы аднавіць.*
*І шмат чаго ахвяравала,*
*каб войска польскае стварыць.*
*Апроч таго, паляк-мужчына*
*спрадвеку добры быў ваяр.*
*Вышэй за ўсё яму - Айчына,*
*за яе волю ён змагар.*

*Добра памятаю, як летам 20-га года, калі адступалі польскія войскі, у нас на гумнішчы на конных павозках прыпыніліся жаўнеры. Карабіны паставілі ў піраміду, з паходнай кухні раздавалі вайскоўцам ежу. Падпаручнік прайшоўся па вёсцы і, не знайшоўшы вазнічага , загадаў майму бацьку, каб запрог свайго каня ў другую павозку і павёз вайскоўцаў дзесьці пад Шчучын. Пад раніцу бацька вярнуўся дахаты, але без каня. Сказаў, што ваякі хутка ўцякалі на Польшчу…"*

**Пратакол (пераклад з польскай мовы)**
**1920 года кастрычніка 26 дня**

*"Я, ніжэй падпісаны, солтыс вёскі Дроздава Кумпяк Іосіф у прысутнасці сведкаў жыхароў вёскі Дроздава Міхаіла Пазняка, Івана Шута і Міхаіла Махнача напісалі ніжэйшы пратакол аб наступным:*

*У ліпені месяцы ў час адступлення польскіх войскаў салдатамі 17 дывізіі калоны Г. забраны кабыла з хамутом і аброццю для абозу ў жыхара нашай вёскі Івана Кудлы, які павёз салдат той жа калоны на калёсах жыхара вёскі Супраўшчына Іосіфа Шута. Даехаўшы пад гарадок Васілішкі, названыя салдаты прымусілі іх вярнуцца дамоў. На іх жа конях салдаты паехалі далей і іх не вярнулі да сёняшняга дня. Нявернутая Івана Кудлы кабыла мела наступныя прыметы: чорная, гадоў дзесяць, рост сярэдні. Узятая кабыла каштавала 20.000 марак, у чым і распісваемся:*

*Солтыс вёскі Дроздава - Кумпяк Іосіф (подпіс).*

*Сведкі: Міхаіл Махнач(непісьменны),за яго і за сябе распісаўся Міхаіл Пазняк;*

*Іван Шут (подпіс).*

*Уласнаручныя подпісы солтыса Кумпяка, сведкаў Махнача, Пазняка і Шута кіраўніцтва гміны Ганчарскай зацвярджае 26 кастрычніка 1920 года.*

*Пячатка.*

*Войт гміны: (подпіс) А. Якубоўскі.*

*В.А.(выканавец абавязкаў) пісар: Кумпяк (подпіс).*

*Прайшло з паўгода. Ужо ўсталявалася польская ўлада. Бацька заявіў кіраўніцтву гміны аб тым, як пры адступленні польскія вайскоўцы забралі каня з вупражжу, аб чым засведчылі аднавяскоўцы. З гэтым пратаколам бацьку прышлося пахадзіць да розных лідскіх начальнікаў. І толькі пасля Калядаў выдалі з вайсковай часткі кабыліцу больш - менш здатную запрагаць у сані, але вясною нягодную ў плузе. Прышлося збываць…*

*Бацька Іван быў працавітым і руплівым гаспадаром, граматна і дасканала вёў палявыя работы, так што палеткі давалі добры ўраджай разнастайнай збажыны, хапала для сям'і і для немалой колькасці свойскай жывёлы. Амаль кожную нядзелю вазіў на рынак у Ліду ці Бяліцу на продаж розныя прадукты. Там жа закупляў неабходныя для гаспадаркі прылады працы, нешта і з прысмакаў… Па дарозе заўжды заязджаў у карчму (на перакрыжыванні дарог у Дроздаве) і прыязджаў дахаты ў добрым настроі і з песняй. У вёсцы яго празывалі - "багатыр - Зыдар".*

*Цяжкія гады бежанства, вайна, беспрасветная праца на гаспадарцы падарвалі здароўе майго бацькі. Прастыўшы, цяжка захварэў, асаблівых лекаў тады не было - так і заснуў на ложку… Яму не было яшчэ і шасцідзесяці год… Як адметнага прыхаджаніна адпявалі ў Ганчарскай царкве і тут жа на пагосце каля царквы пахавалі".*



***Захаваўся адзіны здымак: Кудла Іван Ізыдаравіч - 1875-1934 гг.***



***Помнік на магіле Кудлы Івана Ізыдаравіча***

**Віктар Кудла:** *"Па ўспамінах бацькі, яго родная цёця Кудла Соф'я Ізыдараўна нарадзілася ў 1892 годзе ў вёсцы Дроздава, вучылася ў Ганчарскай школе. Закончыла нейкія настаўніцкія курсы, бо да вайны і ў бежанцах у Расіі, і пасля вяртання настаўнічала. (Сярод фотаздымакаў вучаніцы тых гадоў - Козел Анюты (Заека) нядаўна знайшлася фатакартка, дзе настаўніца з вучаніцамі праводзіць заняткі па вышыванні. На левым баку па-польску і не вельмі якасна выведзены подпісы С. Кудла, А. Козел і інш.) Была даволі адукаванай інтэлігенткай, напамяць чытала вершыкі, байкі. Аднавяскоўцы часта звярталіся, каб напісала якуюсьці заяву ці прашэнне. Па ўсёй верагоднасці, яна была першай настаўніцай з нашай мясцовасці, і менавіта гэта паслужыла добрым прыкладам для маладых сваякоў з Хрышчановічаў, Буйніцкіх, Германовічаў і дроздаўской моладзі: Кудлы Анатоля, Козелаў (Міхалюковых) Вані і Марыі вучыцца на настаўнікаў. Прывезла з Расіі некалькі расійскіх кніжак. Сваякам і вяскоўцам давала для чытання, але не ўсе кнігі і ў добрым стане вярталі. Замужам Соф'я Ізыдараўна не была. Яшчэ ў Расіі захварэла на сухоты (туберкулёз). Позняй восенню 1937 года, працуючы на полі пры капанні бульбы, ёй стала дрэнна. Так у баразне і памерла. Было ёй толькі 45 год. Пахавалі на старых Беняўскіх магілках".*



На гэты час захаваліся рарытэтныя выданні: "Евангелле" 1899 года на 800 стронках, "Святая земля" 1863 года, А. Бекетава "Беседы о земле и тварях, на ней живущих" 1864 года, "Новое естественное лечение" на 788 старонках. На той час гэта былі дарагія, але вельмі патрэбныя ў вясковым жыцці падручнікі.

Кніга А. Бекетава "Беседы о земле и тварях, на ней живущих" 1864 года падрабязна распавядае аб уладкаванні зямной кары, аб морах, акіянах, азёрах і рэках; аб туманах, воблаках і водах небесных; аб громе, маланцы і ветрах; аб тым, як вымяраецца цяпло, холад і вецер…

У кнізе "Новае натуральнае лячэнне" на 788 старонках дасведчанна і падрабязна тлумачыцца аб органах чалавека, аб захворваннях і метадах лячэння, што і на сёняшні час актуальна. Не дзіва, што кніга значна пацярпела ад чытачоў…

"Евангелле" на 800 старонках 1899 года і "Святая зямля" 1863 года ў гады ваінствуючага атэізму былі рэдкай інфармацыяй для насельніцтва.

Кніга "Куль Хлеба и его похождения" С. Максімава 1878 г. у тыя далёкія дарэвалюцыйныя і пасля-рэвалюцыйныя часы была добрым падручнікам для навуковага вядзення сялянскай гаспадаркі.

**Віктар Кудла:** *"Мой бацька Ваня 1908 г.н. у Першую сусветную вайну, будучы ў бежанцах у Ніжагародскай губерні, вучыўся ў рускай школе сяла Ста-*

***Дроздава. Радавое гняздо Кудлаў. Тут, у хаціне, на падворку, на гумнішчы праходзілі многія эпізоды, апісаныя ў гэтых нататках… На сёння з гэтых пабудоў нічога не захавалася…***

*ра-Раждэжствена. Калі ўсе разам у 1919 годзе вярнуліся ў родную вёску Дроздава, тут працавала школа граматы, і цёця Соня нейкі час была настаўніцай. А бацька ўзнавіў навучанне з перапынкамі ў часы савецка-польскай вайны і атрымаў не менш як чатырохкласную адукацыю. Ён апавядаў: галоўнае, што патрабавалі настаўнікі, гэта - чытанне, арыфметыка і чыстапісанне, а бацюшка - Закон Божы і царкоўнае песняпенне…"*

*Але і школу, дзе былі зусім дарэмныя заняткі,*
*Закончыць цалкам не маглі ўсе хлапчукі або дзяўчаткі.*
*Галеча многім не давала ў школах веды набываць,*
*На гэта часу не хапала - на хлеб патрэбна зарабляць…*

Вайна, разруха, праца на гаспадарцы не далі магчымасці бацьку многа наведваць школу. Аднак набытыя грунтоўныя веды сфармавалі даволі шырокі светапогляд: ён быў брыгадзірам, рахункаводам першага ў Дроздаве калгаса "Перамога". Здатна вырабляў сталярскія вырабы - вокны, лаўкі, церніцы. Аднавяскоўцам слаў падлогі, зашываў шчыты, ладзіў адмысловыя ганачкі. Па сваім праекце сам збудаваў са шлакабетону дабротны дом з мансардаю і ваннаю. Знаў па памяць і ў зімовыя вечары распавядаў нам, дзецям, многа казак, вершаў і песняў. Меў прыгожы голас. Заўсёды на хрэсбінах, вяселлі ці ў застоллі выдатна спяваў рускія і беларускія песні… Дарэчы, на шчасце і на памяць пра бацьку, я запісаў на магнітафон песні ў яго выкананні, і пад настрой слухаем усёй сям'ёй.

Вось які почырк склаўся ў бацькі і захаваўся ў сталым узросце:

*(Працяг у наступным нумары.)*

**Ежы Путрамант**

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Літаратары**

Як ужо ўлез у гэтую тэму, скончу яе. Можа наймілейшым для мяне ў Любліне было разрастанне пісьменніцкага асяродка. На працягу трох гадоў было нас разам паўтузіна, ведалі адзін аднаго навылёт, перасталі ад сябе нечага спадзявацца. А тут выбух, столькі новых.

У самім горадзе на момант майго прыезду была толькі група моладзі, якая адразу пачала вакол нас круціцца. Дзве пансіянаткі, якія вельмі сябравалі паміж сабой: вышэйшая, з дзіўным, няправільным, але цікавым тварам, Юлія Гартвіг, ніжэйшая, лагодная Анна Каменская. Круціўся каля іх пачатковец-крытык, тэатролаг і інтэлектуаліст Зыгмунт Калужынскі. Вельмі малады, а ўжо метафізік, Яцак Бахенскі. Трохі старэйшы, вядомы мне з даваеннага часу, выхаванец Мыслінскага, Ежы Плесняровіч.

У палове жніўня, каб нарэшце разгледзецца, каго маем у Любліне, усунуў у газету абвестку: дня такога і такога, там і там адбудзецца сход літаратараў. Усе, якія сябе за такіх лічаць, запрашаюцца...

З дрыжыкамі ў сэрцы чакаў гасцей. Прыйшло больш дзясятка. Нікога з іх не ведаў. З ліста прысутнасці даведаўся, што ў зале ёсць КАЙ-Яворскі. Астатнія - гэта была моладзь. Трохі пагаварылі. Разышліся...

Потым пачалі сходзіцца і з’язджацца. Было пару партызанаў. Пра Оздру ўжо згадваў. Падцягнуўся неўзабаве мой знаёмы на працягу 10 гадоў - Ян Аляксандр Круль. Быў, мабыць, яшчэ малодшы, чым 10 гадоў таму назад: вялізарны румянец, прыгожы твар і поўны інтэлектуаліст. Выступіў пару разоў з радыкальнымі праектамі, напрыклад, стажыроўкі літаратараў на фабрыках і ў мужыкоў, каб глыбей пазнаць жыццё народа. Потым заснаваў выданне “Вёска”. Дачакалася яно найкаротшай рэцэнзіі “”Вёску” маю недзе”. Цяпер паглынула яго (Круля) вялікая палітыка.

Прыйшоў другі партызан: Станіслаў Ежы Лец. Звычайна дагэтуль улюбёнай тэмай яго показак было знаёмства з Венай і ўласнае баронскае паходжанне. Цяпер пеналадзіўся на апісанне ваенных дзеянняў. Праяўляў таксама цягу да жанчын, і гэта прывяло мяне да напісання прафілактычнага жарту:

*Лец не заляцаецца лёгка, як залётны малец.*
*Лец тварам і плячамі ўзлятае над спадзеўкай.*
*Калі выцягвае палец, хочацца сказаць: “Па, Лец!”*
*Бо Лец ляціць, каб з пані ўчыніць гуляшчую дзеўку.*

Быў ён настолькі элегантны, што не абразіўся і нават насуперак рэчаіснасці вершык пахваліў.

Пра Мінкевіча ўжо згадваў. Трохі пазней з’явіўся Яструн з жонкай. На ім тры гады акупацыі адбіліся, можа, наймацней. Памятаў яго са Львова і быў здзіўлены зменамі ў яго твары, словах, вачах.

Кружылі смутныя чуткі, што Пшыбась знайшоўся ў Жэшаве. Гаварылі, што быў начальнікам інфармацыі і прапаганды ва ўтвораным самастойным Жэшаўскім ваяводстве. Не хацелася мне верыць: Пшыбась - у прапагандзе! Бедны Пшыбась! Бедная, бедная інфармацыя і прапаганда!

Зрабілі цэлую выправу, каб яго даставіць. Канешне, далі мне таксама іншыя даручэнні - вытрасці паперу, неша там яшчэ. Паехалі грузавіком праз крутыя, пакапаныя дарогі - на Краснік, Янаў Люблінскі, Ніску. У Жэшаве, вельмі ваенным, цалкам непадобным да горада, які бачыў у 1929 годзе, спаткаў упаўнаважаных ураду Дробнера і Скшашэўскага. Яны чуць не хацелі пра адданне Пшыбася. Крычалі, што зноў пачынаецца агаленне правінцыі Варшавай. Бо калі Люблін быў в.а. Варшавы, Жэшаў быў в.а. Кракава - нават з тым “антываршаўскім” комплексам.

Не спаткаў Пшыбася, быў на тэрыторыі. Вярталіся іншай трасай - на Любачоў, Тамашоў Люблінскі, Красны Стаў. Адна сцэнка засела мне ў памяці. Ужо тут круціліся банды. Едзем праз пусты, паншчаны край, поўны пакінутых вёсак і разлеглых загайнікаў. Я сядзеў ззаду пад вялікай будой грузавіка. Побач пару выпадковых жаўнераў. Дарога пустая, раптам каля куста тып у невядома якім мундзіры, з ППШ. Паспрабаваў махнуць рукой, каб затрымаць машыну, кіровец не прыпыніўся, і, калі чалавек вынырнуў з пылу, ужо не махаў рукой, раз’юшаны, схапіў ППШ і прыцэліўся ў нас.

Бачу яго выдатна, ужо аддаліўся з тым сваім ППШ. Неяк зусім яго не баюся. Пагразіў яму пальцам. як нявятліваму бахуру.

А ў Жэшаў мы везлі нейкага тыпа з канвойнымі. Апавядалі мне, што гэта касцюшкавец, адзін з тых, якія пад Леніна трапілі ў нямецкую няволю і, прымушаныя гітлераўцамі, раз’язджалі па Губернатарстве, апавядаючы байкі пра нашую дывізію.

Пшыбась з’явіўся ў Любліне сам. Барэйша яго

---

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Wojna.”** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

скаапераваў. Яго прыход быў досыць ідылічны. Некаторыя з'яўляліся ва ўмовах значна больш драматычных.

Пра Парандоўскага першыя чуткі былі проста роспачлівыя. Быў у Келецкім ваяводстве, хаваўся ў нейкім маёнтку. Якраз там затрымалася лінія фронту. Пасля ўтварэння Чырвонай Арміяй Сандамірскага выступу двор аказаўся на нічыйнай зямлі. Што дзень трывалі артылерыйскія двубоі, і праз пару тыдняў у піўніцы сядзела некалькі дзясяткаў чалавек. Парандоўскі быў там з жонкай і двума дзецьмі. Трэцяе ў яго якраз нарадзілася.

Барэйша зноў арганізаваў ратунковую выправу. Парандоўскага знайшлі ўжо ў Дзікаве, у зносных умовах. Паслалі па яго самалёт. Але інструкцыі, якія атрымалі лётчыкі, былі смутныя, "на ўсялякі выпадак" шуканага пільнаваць, як бы мог уцячы. Канешне, адпаведныя сферы пусцілі плёткі пра яго арышт.

Даставілі яго з усёй сям'ёй у Люблін, а потым памясцілі ў маёнтку аднаго архітэктара, які той ахвяраваў на дом працы літаратараў. У найбліжэйшыя месяцы дом быў некалькі разоў атакаваны бандамі, яго жыхары абрабаваны даануч, не гаворачы ўжо пра нешта каштоўнае.

Яшчэ адна выправа: у Сандамір. Ужо кастрычнік, прыгожае, але халоднае надвор'е. Едзем з Курылюком, бо даведаліся, што недзе тут знаходзяцца Бурак і Пентак.

Бурка мы знайшлі на вяршыне ўзгорка, на краі горада, недзе каля парку, у доме насупраць спаленага касцёла. Сандамір быў вельмі прыгожы; сонца і чырвань садоў, велізарная перспектыва "таго берага".

Вяртаемся. Вакзал і правабярэжнае прадмесце спалены. Немцы ляніва абстрэльваюць станцыю з аднаго, дзяжурнага мінамёта. Нешта, як цягнік, фурчыць у паветры, хвіля цішы, грукат.

Уязджаем у Вялоўсь, радзіму аўтара "Белавясковых начэй". Паміж двума выбухамі дапытваемся пра яго дом. Ён - асоба вядомая: усе навыперадкі махаюць рукамі.

Заскакваем у маленькую хатку і ловім Пентака на гарачым: сядзіць пасярод хаты і піша. Вакол завалы рукапісаў. Пад акном рыкаюць каровы, грукаюць міны, а ён сядзіць і піша. Угледзеў нас, устаў, нікольки не здзівіўся. Пацягнулі яго з сабой у машыну. Спрабаваў супраціўляцца, але нас было болей. Па дарозе згубіў капялюш.

**Першы з'езд і "Станьчык"**

Першага верасня адбыўся ўстаноўчы сход Саюза польскіх пісьменнікаў (літаратараў). Спрабавалі яго неяк падрыхтаваць, але зрабіць маглі не шмат. У зале - у сталоўцы на Радзівілаўскай, сабралася з пяцьдзесят чалавек, у тым ліку, з нейкім літаратурным даробкам, можа з паўтузіна.

У паўсталым якраз рэсурсе культуры і мастацтва стварылі дэпартамент літаратуры, першым дырэктарам якога быў Леан Пастарнак. Прыслаў ён на з'езд невядома адкуль вытрасенага мужыцкага паэта. Паэт выступіў на з'ездзе з палымянай прамовай. Была гэта, мусіць, найдзіўнейшая ўрачыстая прамова, якую я чуў у жыцці. Гаварыў ён па-польску і з вялікім запалам, але ніхто ў зале не патрафіў ні слоўца зразумець. Ба, нават найгалоўнейшыя яго інтэнцыі засталіся для нас поўнай загадкай. Выслухалі яго ў магільнай цішы, а потым бурна пляскалі. Ніколі яго больш не сустракаў.

Я таксама прамаўляў: пра неабходнасць псіхічнай адбудовы. На гэтую тэму пазней накрапаў артыкул у першым нумары "Адраджэння". Была гэта мая тагачасная дзялянка. Пішу так бесклапотна пра Люблін, а там што дзень, што крок натыкаліся ўвесь час на жудасці, немагчымыя для разумення. Часам былі кепскія, сварлівыя - і гэта, мабыць, было найгоршае.

Зайшоў неяк у суд. Абвінавачаная, старэючая кабета, нейкая Містэрская. За тое, што малодшы за яе каханак пачаў ёй здраджваць, выдала яго гестапа. Я быў узрушаны, хацеў пісаць пра гэта навэлу...

Але скончым найперш з літаратарамі. Недзе пад канец восені выбухнуў першы (не апошні...) літаратурны скандал у Народнай Польшчы. Справа ішла пра сатырычнае выданне "Станьчык".

Рэдагаваў яго Пастарнак. Пісала шмат людзей з Мінкевічам на чале. Не было гэта кепска, хоць ужо мяне там абмазалі.

Аздобай "Станьчыка" былі карыкатуры Зарубы, які якраз знайшоўся. З яго акупацыйных рысункаў я больш даведаўся праўды тагачасных гадоў, чым з большасці апублікаваных у той час артыкулаў.

Вельмі добрыя рысункі змяшчаў там таксама лодзкі карыкатурыст і дзівак Зянон Васілеўскі, ведаў яго з Масквы. Здарылася з ім забаўная гісторыя ў Крамлі. Сам яе мне апавядаў.

Ён належаў да кіраўніцтва СПП. Аднаго дня запрасілі іх усіх у Крэмль. У абшырнай зале стаялі сталы са стравамі, падзеленымі на "дэпартаменты": тут перакускі селядцовыя, там кілбасы, далей кураняты, слодычы, садавіна. Васілеўскі, агаладалы, як мы ўсе, вокам стратэга ацаніўшы сітуацыю, пастанавіў выкарыстаць яе сістэматычна: ад селядцоў праз мяса да дэсертаў.

Пачаў дзяўбці тыя селядцы. І, уявіце сабе, нават да кілбас не дайшоў: запрасілі ўсіх у суседнюю залу на канферэнцыю.

Так, але гэта анекдот. "Станьчык" вельмі падабаўся. Што праўда ад нумара да нумара падрасталі ў яго рогі і кіпцюры. У пятым не без радасці, дзіўна змешанай з непакоем, прачытаў вершаваны ўступ Мінкевіча, а ў ім наступная праграма выдання:

*... не зважаючы на асобку,*
*Дзяўбці кожнага лёгка ў попку,*
*Вось шанец (сціплей): шанцік,*
*Пайсці на які гатовы Станьчык.*

Была гэта прарочая фраза. Бадай, у той самы дзень ускочыў у мой пакойчык за масіўным кабінетам Барэйшы Леан Пастарнак. Быў бледны, знерваваны. Хацеў, каб злучыў яго з Васілеўскай, якая адна - на яго думку - магла яго ўратаваць.

Аказваецца, пяты нумар выклікаў вялікае неза-

давальненне на вярхах. Акрамя Мінкевіча былі там яшчэ нейкія дробязі, м. ін. вершык Станіславы Шнапер-Закрэўскай, які высмейваў люблінскіх пляткарак. Але адпаведныя ўлады вырашылі, што Закрэўская "аб'ектыўна" плёткі тыя распаўсюджвае, бо іх называе ў вершыку.

Пастарнак падаўся мне вельмі занепакоеным. Сядзеў пару гадзін у маім пакойчыку, таму што тут яму найбяспечней. Спрабаваў туды і сюды тэлефанаваць, але натыкаўся на вельмі халодны прыём - калі гэта адразу не былі перуны. У выніку з Пастарнакам нічога не сталася, але выданне ляснулася.

**Выпадак у Красным Ставе**

Раней, мабыць, у палове жніўня адбылося нешта вырашальнае ў маім асабістым жыцці. Маё жыццё з Ірэнай было, як вядома, далёкае ад ідыліі. Але вайна склеіла разрыў. Калі я ўцякаў з Львова, пакінутая там сям'я сталася для мяне сімвалам і комплексам. Канец вайны, перамога суадносіліся ў маёй душы не са здабыццем Берліна ці смерцю Гітлера, але вельмі звычайна з адшуканнем пакінутых.

Таму так кідаўся, пачынаючы ад студзеня гэтага года. Было абсурдам лічыць, што Ірэна знойдзецца акурат у Роўне. Але ўсё ж жыла нейкая там падскурная надзея. Акрамя таго разлічваў, што наступленне пойдзе далей, можа дойдзе да Львова.

Не дайшло. З Вільняй быў ужо больш паважны шанец. Мусіла хавацца, як мая жонка. Магла паехаць у Вільню, дзе мела трохі крэўных і шмат сяброў.

Не паехала. Вырываўся па чарзе ў Люблін. І тут ніякіх звестак. Можаце сабе ўявіць, з якой нецярплівасцю я чакаў на камюніке пра Львоў.

Савецкія войскі былі пад Варшавай, перайшлі Віслу пад Сандамірам, але Львоў яшчэ трымалі немцы. Калі нарэшце фронт лопнуў і там, я арганізаваў туды выправу.

Апісаў яе вельмі дакладна ў "Выпадку ў Красным Ставе". Начальнікам Ірэны быў палкоўнік Плонскі, які памёр некалькі гадоў таму назад (як бачыце, нават прозвішча ледзве-наледзве змененае...). Што прапусціў? Можа тую дзяўчыну, якая дабраахвотна дапамагала краснастаўскаму доктару? Успомню пра яе праз хвілю.

Львоў быў страшны. Не, не таму, што знішчаны. Наадварот, падаўся мне досыць цэлым. Дрэвы, кветкі, фантастычная алея на Акадэмічнай. Але людзі, як у Вільні, былі іншыя, незнаёмыя, чужыя. І, як у Вільні, пад знаёмымі адрасамі - нікога са знаёмых.

Домік, у якім жыла Марыся, прыяцелька Ірэны? Наогул яго не знайшоў, куча крапіўнікаў. Вуліца Патоцкага? Цэлая, але пустая. Быў гэта раён кватэр эсэсаўцаў.

Пад канец дня ўдалося мне трапіць да Курылюка - Барэйша даручыў мне перацягнуць яго ў Люблін. Даведаўся ад яго розных невясёлых навін. Дзедзіч, малады, мужыцкі пісьменнік загінуў у Жэшаўскім ваяводстве. Амаль усе яўрэйскія пісьменнікі загінулі. Палякі паўцякалі ў Варшаву і Кракаў. З украінскіх знайшлося шмат такіх, якія пайшлі да немцаў. М.ін., зрабіў гэта наш былы кампаньён з вызздзе на Крым, стары Пятро Карманскі.

Курылюк скантактаваў мяне з Марысяй Леткі. Быў ужо вечар, недзе на цёмных сходах спаткаўся з той, якая прыгарнула Ірэну з Евай. Быў страшна расхваляваны. Марыся пачала з супакаення. Загукала: усё ў парадку ці нешта такое.

Аказваецца, нейкі час Ірэна была ў Львове, м. ін., карміла вошай у Вэйгла ў інстытуце супрацьтыфозных прывівак. Але потым з-за распытвання пра мяне гестапа перабралася некуды на вёску. Апошняе, і там пачуваючыся няпэўна, выехала пад Кракаў.

Маруся шчабятала, але нешта ў яе суцяшэннях падалося падазроным. З цяжкім сэрцам вяртаўся ў Люблін. Не памятаю, ці ўжо ехаў са мной Курылюк, ці не. У Красным Ставе пакінулі нашых таварышаў па падарожжы ў шпіталі ў нядобрым стане. У апавяданні праміную дэталь, драматычную, але выпадковую: за пару соцень метраў перад здарэннем падсеў да нас нейкі цывільны, просячы, каб яго падвезлі некалькі кіламетраў. Вось з ім было найгорай.

Рэшта таксама мусіла застацца. Зноў спаткаў мілую дзяўчыну, дабраахвотніцу-санітарку, якая змяніла мне павязку на галаве. Мела імя Вікторыя. Вечарам шпацыравалі недзе па палях. Быў страшна знерваваны недагаворкамі Марысі і цяпер у сваю чаргу кідаў недагаворкі... А яна ішла, загледзеўшыся на мяне. Мне падавалася, што я такі самы, як дзесяць гадоў таму назад, што дзяўчаты так сама глядзяць на мяне абыякава або іранічна... Не бачыў яе позірку, размовы падаваліся мне цалкам бяспечнымі.

Назаўтра, з галавой у павязцы, вяртаюся ў Люблін. Дадам наўздагон, што аўтамабільных здарэнняў было цяпер уражліва шмат. Згадваў пра найтрагічнейшае, у якім загінулі Шэнвальд і маёр Лапацінскі. Яшчэ адзін з герояў І дывізіі, палкоўнік, пазней генерал, Якуб Правін (пра якога Гаўрылюк распавядаў, што ў Бярозе паводзіў сябе, як сапраўдны чалавек), меў так развалены чэрап, што дрыжалі за яго жыццё. І так далей.

Добра, вяртаемся ў Люблін і трапляем у Барэйшы на прэсавую канферэнцыю з удзелам савецкіх і заходніх журналістаў. Памятаю м. ін. Сіманава. Барэйша ўстае, ідзе да нас... Але ж так, прывёз яму яго Курылюка! Вяду яго цяпер, як трафей, як здабычу, як каштоўнага нявольніка, ахвяраванага ў дар манарху. Барэйша свеціцца. А я ганаровы, з той абвязанай галавой, як у чалме.

Курылюк яшчэ паляцеў у Львоў. Калі вярнуўся, ужо на стала, уручыў мне ліст ад Марысі.

Гэта быў той удар, які прадчуваў у Львове. Цэлую старонку Маруся накрэмзала, перапрашаючы, што не сказала ўсяго. А потым усё ж выдушыла: Ірэна некага мае. Канец быў абязбройвальны: каб не траціў надзеі, каб змагаўся, то, можа, Ірэну вярну...

Калі б быў здольны да аналізу, толькі тая дапіска давяла мяне да лютасці: як гэта, гэта не надта паважная справа, паколькі мог бы старацца "вярнуць".

Але лютасць апанавала мяне адразу, нават,

мабыць, не дачытаў да канца ліст, змяў яго, парваў на кавалкі, спаліў.

Некалькі тыдняў хадзіў у жудасным стане. Быў вылучаны з кола людзей, з якімі перажыў гэтыя гады. Усе былі радасныя і напружаныя: бітва іх жыцця даходзіла ўласна да пераможнага заканчэння. А я блукаў з непазбыўным усведамленнем: прайграў вайну. Не маю за што ваяваць, не маю на што чакаць.

Пэўнай пацехай у гэтым стане былі ўспаміны, мары, планы: знайду яе з тым "некім", застрэлю... І не ўцяку, не схаваюся. Суд мяне мусіць апраўдаць...

Калі б у тыя дні мог яе сустрэць, ба... Зрэшты, не ведаю. Папярэдні досвед хутчэй даводзіць, што ў абліччы вялікага няшчасця ў цэлым я не такі хуткі да рашучых дзеянняў.

Праз некалькі дзён усвядоміў сабе адно, гэта справа перакрэслена, і чым хутчэй я перакрэслю яе са свайго боку, тым для мяне лепей. Так зарадзілася мая другая жаньцьба, якая трывала ў тры разы даўжэй за першую. Але пра тое, па жаданні бакоў, маўчу.

**"Адраджэнне"**

Тым часам прывезены мной Курылюк змантаваў рэкордна хутка першы нумар літаратурнага выдання. Пасля дыскусіі назвалі яго "Адраджэнне". Я бараніў гэтую назву, нягледзячы на чужы нам кірунак маладзевай арганізацыі, якая так называлася перад вайной. Падавалася мне поўнай найістотнейшага зместу.

У першым нумары я дасягнуў не кепскай вышыні: толькі два вершы, якія аказаліся на першай старонцы пасля некралогу пісьменнікаў, памерлых і забітых немцамі - гэта была "Малітва" Тувіма і мой "Тост". Таксама "Святая куля", напісаная мной вясной і надрукавана ўжо ў "Новых гарызонтах", аказалася ў нумары.

Выданне адразу набрала вялікі разгон. У наступных нумарах друкаваліся шмат Яструн, Пшыбась, Важык, Мінкевіч, Лец, Пастарнак, усе ў той час прысутныя ў Любліне. Рознагалоссі, якія даліся ў знакі пазней, у той час былі ледзве чутны. Друкавалі шмат маладых. Аказаліся там таксама сур'ёзныя палітычныя артыкулы. М. ін., вялікі артыкул Антонія Рушкевіча (Зянона Клішкі) пра Варшаўскае паўстанне, адно з першых сведчанняў пра "лагеры знішчэння" пад заг. "Знішчэнне Трэбінкі" і г.д.

У той час якраз вершы ўва мне выгаслі. У "Адраджэнні" надрукаваў пару публіцыстычных артыкулаў пад прозвішчам і пад адным з куйбышаўскіх псеўданімаў як "Вінцэнты Беднарчук". Праглядаў іх нядаўна. Усё - страшная салома, хоць доўга падаваліся мне добрымі, а "Псіхічная адбудова" з 3 нумара прынесла мне першае віншаванне за публіцыстыку.

Восенню паўстаў "Чытэльнік". Канцэпцыя выдавецтва, яго палітычная роля была простая і ў тагачаснай сітуацыі дасціпная. Тварцом гэтага ўсяго быў Барэйша. Ад самага пачатку працавала пры тым Зося Дэмбінская.

Яна з'явілася ў Любліне недзе, мабыць, у верасні. Прыгожая, як заўсёды, як бы не было вайны, акупацыі, гэтай страшнай страты.

З'явіўся таксама Казік Петрусевіч. Быў пару гадоў у беларускіх партызанах. Апавядаў пра жудасныя падзеі, але не буду пра іх пісаць, сам патрафіць.

Быў прызначаны віца-міністрам, здэцца, харчовым. У той час зарадзілася ў ім новае захапленне - кіраванне аўтамабілем. Раскажу пра гэта пазней.

Ежы Штахельскі і Люсек Барковіч былі ў той час упаўнаважанымі ўраду на Беласточчыне. Адкапалі там маю калежанку Геню, якая цяпер адкрыла ў сабе палітычны тэмперамент. Вельмі падарослела. Што дзіўней, зрабілася нашмат больш прыстойнай, чым пятнаццаць гадоў таму назад, калі з ёй пазнаёміўся.

Яшчэ адна дэталь з таго перыяду: выйшлі ў Любліне чатыры першыя паэтычныя томікі: Пшыбася, Яструна, Важыка і мой. Надрукавалі іх у забаўнай, амаль аматарскай друкараньцы ў Замосці. Ездзіў туды пару раз рабіць карэктуру.

Томік маіх вершаў меўся выдаць выдавецтва на замежных мовах у Маскве. Усё ўжо было складзена, звёрстана, атрымаў апошнюю карэктуру. І раптам зажадалі ад мяне, каб вершу "Захад" вярнуў яго першапачатковае гучанне.

Як вядома, у "Новых гарызонтах" вясной 1941 года, друкуючы гэты верш, выкінулі з яго страфу:

*Тут, на схілах скалы паўночнай*
*заспеты знянацку нарвег...*

Зразумела, вярнуў яе адразу. І, уявіце сабе, зноў знайшліся такія, якія захацелі па-новаму яе выкінуць.

Не былі гэта націскі звонку, бо справа была залішне дробная. Гэта былі страхі ўнутраныя, чыста чыноўніцкія. Так ці гэтак, дэталь не без значэння для даследванняў ментальнасці дзеяча эпохі культу.

Не згадзіўся я прыбіраць. З-за гэтага складзены і звёрстаны зборнік пайшоў на злом. Застаўся ў мяне адбітак, адзіны довад, што не выдумляю.

Цяпер выдаў усе тыя вершы. Быў вельмі ганаровы. Ужо пятая мая кніжка! А агульны наклад не дасягаў нават 9 тысяч экзэмпляраў...

**Майданак**

Зноў мушу вярнуцца назад, такім шматгранным стала наша жыццё ў Любліне.

Журналісты ў Барэйшы якраз прыехалі пазнаёміцца з Майданакам, першым вялікім канцэнтрацыйным лагерам, які трапіў у нашыя рукі амаль у некранутым стане.

Я аглядаў яго ўжо перад тым і цяпер з імі разам. Друкаваў з яго рэпартажы ў "Рэчы Паспалітай!". Загінулі ўсе. Перадрукаваў іх са скарачэннямі львоўскі "Чырвоны штандар", і толькі адтуль нешта з іх памятаю.

Памятаю дрот, баракі, раскапаныя ямы, страшных нямецкіх палонных, якія грэбаліся на моцным сонцы ў людскіх рэштках. Страшны смурод. Сунуцца калоны палонных. праходзяць каля раскапаных магіл, глядзяць на парэшткі. Нічога немагчыма пачытаць у

іхніх вачах.

Рэшткі крэматорыя. Недапаленыя трупы дзяцей на жалезных ложах. Найстрашнейшае з усяго - сціrты абутку замардаваных вязняў. Цэлае гумно запханае пад дах.

Нарасказвалі нам дэталей, якія цяпер ужо ёсць неадлучным элементам агульначалавечай свядомасці, дзякуючы так зв. лагернай літаратуры. Тады гэта былі жудасныя сенсацыі.

Нам, у “Рэч Паспалітую” гэтыя сенсацыі прынеслі новыя калегі з часопіса, з “Чытэльніка”.

Апошні кантынгент Майданака немцы пагналі за Віслу досыць позна. У спешцы і балагане адходу частка вязняў уцякла. З’явіліся ў Любліне. Барэйша сустрэў іх на вуліцы, яшчэ, здаецца, у паласатым.

Са сваёй пазіцыяй неадкладнай дзейнасці Барэйша цэлую групу тых вязняў прыгарнуў, уводзячы ў рэдакцыю, часткова ва ўзнікаўшыя якраз канторы “Чытэльніка”. Былі гэта пераважнв АК-аўцы, пару заявіла пра НЗЗ. А паколькі пазіцыя Барэйшы, праца, на якую знянацку трапілі, адважуся сцвярджаць, адносіны нашыя да іх - усё гэта зрабіла, што яны вельмі хутка сталі нам блізкімі.

Да той групы належала пару чалавек, вядомых сёння шырока. Наш былы пасол у Осла, публіцыст Юзаф Гебултовіч, або віца-прэзідэнт Сталічнай нацыянальнай рады, інжынер Станіслаў Зэлент.

Іхнія аповесці ўвялі нас у жудасную лагерную рэчаіснасць. Не адразу мы маглі ўлавіць тое, што было для гэтай рэчаіснасці найтыповым і найбольш страшным. Прымусіла задумацца мяне пра тое чарговая жудасць.

**Працэс**

У Любліне злавілі некалькі немцаў з лагернай абслугі. Пастанавілі арганізаваць паказальны працэс. Спешнасць і патрэба такога працэсу былі зразумелыя. Належала даць нейкую хоць бы частковую, але хуткую сатысфакцыю народу, над якім пяць гадоў здзекаваўся безаглядны і жудасны акупант. Але нашыя ўлады, свежа паўсталыя, недасведчаныя і пазбаўленыя ўяўлення, застрэлілі быка на самым пачатку.

У перададзень суда горад быў абклееены ўлёткамі, у якіх абвяшчалася, што ў наступны дзень а той і той гадзіне, тымі і тымі вуліцамі будуць дастаўлены з турмы падсудныя, каты з Майданака. Нібы заклікалі людзей да захавання спакою...

На наступны дзень раннім ранкам, седзячы ў рэдакцыі, быў падхоплены страшнай стралянінай. Занепакоены выбягаю на балкон. Што за відовішча!

Цераз Кракаўскае прадмесце Любліна прэ велізарная плынь людзей. У яе сярэдзіне маленькая групка жаўнераў з ППШ, абапёртымі прыкладамі на плечукі. Ідуць і што хвіля пускаюць чэргі ў паветра. Пасярэдзіне таго агністага кола валакуцца абвінавачаныя.

Калі б не тыя ППШ - не дайшлі б да найбліжэйшага скрыжавання. Натоўп крычыць, плач, лямант жанчын, аглушальныя чэргі ППШ...

На гвалт падцягнулі падмогу. Шчыльныя аддзелы жаўнераў адапхнулі трохі натоўп, але і цяпер што хвілю праз кардон вайскоўцаў прадзіраліся адзіночныя людзі, даскоквалі да канвою, крычалі тамтым два-тры словы, плявалі, потым сапхнутыя наступнымі, вярталіся на тратуары, яшчэ маючы туманны позірк, абціраючы пот з ілба.

Суд адбываўся ў доме, дзе цяпер размяшчалася афіцэрскае казіно ў Любліне. Дастаў пропуск, як прадстаўнік прэсы. Але пры кожным з уваходаў стаяў узбураны, усхваляваны натоўп. Не было магчымасці хоць бы паказаць пропуск. Сам не ведаю, як патрапіў ўсярэдзіну.

Памятаю затое, як патрапіў тагачасны міністр замежных спраў Вінцэнт Ржымоўскі. Стары, які ледзве соўгаўся, канешне, не мог марыць, каб прапхнуцца праз натоўп. Але яго пазналі, і нехта арганізаваў незвычайны транспарт. Дзясяткі рук узнеслі яго над галовамі натоўпу, і так у ляжачай пазіцыі, нагамі наперад уехаў над натоўпам у залу.

Працэс быў пакутны і пануры. Абвінавачаныя не належалі да кіраўніцтва лагера. Пераважна былі гэта дробныя шрубкі жудаснай гітлераўскай машыны. Адзін, здаецца, быў жандармам. Іншы працаваў у складах. Яшчэ іншы быў шматгадовым лагерным вязнем, крымінальнікам. Выконваў у Майданаку функцыі капо.

Сведкі даводзілі ўражвальныя факты на тэму Майданка “наогул”. Гаварылі пра катаванні, пра голад, пра масавыя экзекуцыі. Але калі даходзілі да абвінавачаных, станавіліся маламоўнымі. Абвінавачаныя належалі да апарату Майданака, але да яго найніжэйшых ступенек, і ніводзін з іх не вызначыўся асаблівай заўзятасцю. Білі, марылі голадам, выконваючы даручэнні сваіх начальнікаў. І толькі.

На той лініі бараніліся. Ба, пачалі нават контратакаваць.

Было гэта нечакана і драматычна. Жыўцом узятае з ненапісанага яшчэ твора мастацтва, лепшае - гэта значыць страшнейшае - ад усяго, што на тую тэму напісана, бо канкрэтна без крэтынскіх, агітарычных абагульненняў, так модных сёння у літаратурным свеціку і паўсвеціку.

Пазнаваў якраз сведкаў - адзін з вязняў, здаецца, працаваў у нас, у “Чытэльніку”. Гаварыў пра абвінавачаных:

- Білі. Марылі голадам. Гэты, напрыклад...

Тады абвінавачаны сарваўся:

- А сведка як выжыў? Дзякуючы мне! Узяў яго на кухню, мог есці больш, чым іншыя. Толькі тыя перажылі, якія былі на пасадах, на кухні ці ў складах. З’ядалі больш, гэта значыць, рэшце заставалася менш! То што ён мяне абвінавачвае? Я яму жыццё...

Падняўся страшны гвалт у зале. Зрабілі перапынак. Вечарам чуў размову сведкі з Барэйшам. Быў ён на мяжы нярвовага зрыву. Трэба было рабіць яму ўколы. Не контратака немца яго зламала, а рэакцыя некаторых нашых таварышаў, якія незвычайна лёгка прынялі на веру абвінавачванні падсуднага і яшчэ

пачалі дарабляць тэорыю на тэму ўсіх, якія былі ў лагерах і не загінулі.

Я доўга думаў пра тую справу і дайшоў да некалькіх цяжкіх заключэнняў.

На чым палягала пякельнасць лагернай сістэмы? Пякельнасць - не ў сэнсе метафарычным, але даслоўным. Бо лагеры ў сваёй сваёй канцэпцыі рабіліся на ўзор пекла, вядомага нам з хрысціянскай міфалогіі, гэта дакладна.

Звычайна чалавек мае перад сабой тры дарогі: святога ці героя, звычайнага чалавека, злачынцы. Пякельнасць лагера палягала ў пазбаўленні чалавека той другой, звычайнай альтэрнатывы. У лагеры чалавек што хвілю станавіўся перад сітуацыяй, дзе мог быць толькі святым або злачынцам.

Найпякельнейшым лагерным прыёмам было пакіданне чалавеку толькі адной дарогі выжывання: дарогі катавання або і забівання іншага чалавека. такога ж вязня. Добра яшчэ (ах, вельмі дзіўнае “добра”!), калі такая альтэрнатыва ўставала перад чалавекам знянацку: бо лягчэй яму было выбраць уласную пакуту або смерць і пазбегнуць біцця ці забівання іншых. Але калі гэтая дарога з’яўлялася паволі, калі прыходзіла праз дробныя прывілеі, праз глыбокую дэмаралізацыю, якая выцякала з выкарыстання прывілеяў на фоне ўсеагульнай нэндзы і бясправўя - тады наколькі ж цяжэй было адрачыся, адмовіцца, ісці на пакуту, абы каб не мучыць бліжніх!

Гэтай дарогай дайшлі якраз на сваю лаву падсудныя. І ў грунце рэчаў адзінай змягчаўшай акалічнасцю для іх было паступовае, падступнае ўцягненне іх на яе дэманамі фашысцкай дзяржавы.

Зразумеў яшчэ адно: нам, якія пекла не спазналі, не вольна судзіць нікога за тое, што рабіў у лагеры, як там сябе паводзіў. Па-просту трэба знаць атмасферу таго месца, каб магчы ацаніць паводзіны ў ім чалавека.

Таму з пенай на вуснах я граміў розных панюсяў (м. ін., адну пазнейшую страшную “лібералку”), якім пякло, каб судзіць і асуджаць...

**Прыгавор**

Працэс працягваўся некалькі дзён. Я сядзеў на ім цэлы час. Прыйшоў да высновы, што пасярод пяці ці шасці падсудных адзін ёсць вінаватым найменш - гэта той крымінальнік.

Мабыць з некім яшчэ мы прарваліся да аднаго знаёмага, назавём яго Гугонам, які якраз пачаў адыгрываць важную ролю.

Мы пачалі тлумачыць яму, што крымінальнік найменей вінаваты. Што павінен атрымаць іншы прыгавор, чым рэшта. Бо што рэшта атрымае пакаранне смерцю - то было пэўна.

Пэўнасць прыгавору была таксама нагодай нямілых разважанняў. Смяротная кара, ад пачатку найпраўдападобнейшая, падавалася цвёрдай, дзіўна не пасаваўшай да справы, завялікая ў адным, замалая ў іншым яе разуменні.

Спраўцы гітлераўскай сістэмы, вінаватыя ў смерці мільёнаў чалавечых істот, былі нечым так незвычайным у гісторыі, што найвышэйшая кара, якая магла іх спаткаць, здавалася карнай паблажкай. Уцёкі найбольш вінаватых - Гітлера, Гебельса, Гімлера, Герынга, якія мы мелі неўзабаве назіраць, былі кпінамі, жартам з чалавецтва.

Але тая самая кара смерці для нізавых выканаўцаў іхняй волі станавілася нечым, можа, апраўданым гістарычна, але вельмі адвольна звязаным з канкрэтнымі асобамі. Былі яны сімваламі сістэмы. Адказвалі ўласнай галавой трохі так, як гэта ёсць пры пакаранні кожнага дзясятага са збунтаванага аддзела.

Адной канкрэтнай прад’явай супраць іх было ў грунце рэчаў тое, што не патрафілі рызыкнуць на ўласную пакуту і пайшлі задаваць яе іншым.

Гітлерызм увёў у справядлівасць паняцце альтэрнатывы, паняцце выбару. Нешта іншае ёсць злачынец, які мог застацца звычайным чалавекам, а выбраў злачынства. Нешта іншае той, які, каб не стаць злачынцам, мусіў бы стаць героем.

З тымі думкамі ў галаве напіралі мы на Гугона. Пацярпепелі поўную паразу.

- Вельмі магчыма, - адказаў на нашыя заўвагі на тэму віны крымінальніка. - Але зразумейце ж гістарычны момант. Мы зрабілі гэты працэс так хутка, каб перасцярэгчы гітлераўцаў там за Віслай. Калі будзем гуляць у цюцюбабку, можа справакуем смерць яшчэ нейкай колькасці гітлераўскіх вязняў. А, ведаючы, што іх чакае за злачынства, гітлераўцы стануць больш асцярожнымі.

Я прамармытаў нешта на тэму справядлівасці. Пэўна, зачапіў сумніўныя і для яго моманты, бо трохі раззлаваўся.

- А, не! - выгукнуў. - Усялякую нашу паблажлівасць вораг выкарыстае для абвінавачвання нас у ліпе! Скажа: нават люблінскія камуністы мусілі прызнацца, што абвінавачванне дутае, калі аднаго з іх не прыгаварылі да пакарання смерцю.

**Экзекуцыя**

Мы пайшлі з пустымі рукамі, пустой галавой, у замяшанні і блізкія да млявасці. Прыгавор адбыўся неўзабаве: усіх на кару смерці. Арганізавалі публічную экзекуцыю на Майданку. Было гэта недзе ў канцы кастрычніка.

Паехаў туды. Перамагаючы агіду, з усёй адказнасцю вырашыў “гэта” ўбачыць. Сказаў сабе: трафіў у гэтую, а не ў іншую эпоху. Мусіш усё, што яе, убачыць. Звярнуўся да ўласнага верша трохгадовай даўніны.

*... раскажу ўсё, што бачу,*
*на нішто болей не здатны.*

На Майданку было звыш дзесяці тысяч чалавек. Процьма аўтамабіляў. Жанчыны. Штурхаліся, жартавалі, той і гэты выпівалі, пані смяяліся.

Я хадзіў сярод гэтага ўсяго з румянцам на

шчоках і шырока расплюшчанымі вачыма. Паліў папяросу за пяпяросай. Хвілямі бываў блізкі да страты прытомнасці, як бы мяне тут чакала смерць.

Ралеглася плётка, што адзін з асуджаных ноччу павесіўся. Думаў: можа, "наш" крымінальнік. Не, нейкі эсэсавец.

Было хмурна, холадна, трохі імжыла. Шыбеніцы былі кшталту высокіх і вузкіх футбольных варот. У пэўную хвілю прыехалі пяць грузавікоў. У кузаве кожнага стаялі два чалавекі. Машыны заехалі пад сваe "вароты". Тады на кожным адзін чалавек налажыў другому пятлю на галаву. Потым апусціў тыльны борт. Потым грузавікі паволі рушылі. Той з пятлёй хвілю стаяў, потым хіліўся, падаў, падлога сыходзіла яму з-пад ног, трохі падрыгаўся...

Здаецца накладалі ім перад гэтым мяшкі на галовы. Пару адмовілася. "Наш" меў той мяшок. Падобна, вельмі баяўся, плакаў.

Натоўпы раз’язджаліся ў вуркатанні аўтамабіляў. Настроі былі іншыя, панурыя. Кожны здаваў сабе справы, што "гэта" нічога не вырашае. Вечарам многія напіліся. Кожны адчуваў, што стаў трохі горшы. Зрэшты, не ведаю, як іншыя. Я сябе дакладна пачуваў горшым.

**Паўстанне**

Раней - у жніўні, мабыць - Барэйша прыцягнуў у рэдакцыю вязня Асвенцыма - Стэфана Ярача. Маю пару здымкаў. Ярач сядзіць на тэрасе, атачаны намі. Быў мілы і змучаны. Прымалі яго з вялікім гонарам.

Дзень за днём чакалі бамбардзіроўкі горада. Падавалася мне, што немагчыма, каб немцы не спрабавалі нас памацаць: як гэта, усё ж сталіца! Якраз пахваляліся сваімі V-1 і V-2.

Але ўвесь час Люблін быў спакойны. Толькі раз у халодную месячную ноч мы пачулі над горадам скрадзенае выццё "Юнкерса". Неўзабаве адзін нягучны выбух.

Уявіце сабе, тая адна кішэнная бомба ўпала акурат перад дзвярыма нашай друкарні, асколак прабіў дзверы і параніў, на шчасце не цяжка, аднаго наборшчыка.

Мабыць, недзе толькі ў палове жніўня дайшлі да нас весткі пра Варшаўскае паўстанне. У той час фронт ужо стабілізаваўся на Вісле. Наступленне, з такім імпэтам распачатая ў чэрвені над Беразіной, не магло, відавочна, ісці далей без даўжэйшага перадыху.

І вось паўстанне, як мы пазней даведаліся, выбухнула ў момант, калі на сярэднюю Віслу выходзілі рэшткі вялікай чырвонай хвалі. Немцы сцягнулі рэзервы, перад Варшавай, утрымалі плацдарм. Трапіла мне пазней нейкая варшаўская гадзючка (прадажная газетка). Крычалі ў ёй ні больш, ні менш пра "Цуд над Віслай". Што паўтараецца дакладна праз 24 гады пасля першага. Падавалі дэталі. Пісалі, што два савецкія танкавыя карпусы былі акружаны і знішчаны пад Радзымінам.

Справа паўстання належыць да гісторыі. Знаючы яе эластычнасць і зменлівасць, не адважваюся на ніякія абагульненні. Падам толькі некалькі фактаў, якія мне досыць добра вядомыя.

Па-першае, не падлягае сумненню, што савецкае кіраўніцтва хацела заняць як найхутчэй як найвялікшую тэрыторыю. Асаблівую вагу мела для яго Вісла. Таму ўсюды, дзе толькі можна, адразу пасля падходу да яе стваралі маставыя плацдармы і зацята іх баранілі.

Найвялікшы з іх, так зв. Бараноўскі - з Сандамірам уключна - паўстаў на пачатку жніўня. Другі - на поўдні ад вусця Пііліцы, пад Варкай - стварылі недзе ў той жа час. Былі яшчэ іншыя, напр., пад Казімежам.

Пачынаючы ад паловы жніўня, усе плацдармы сталіся аб’ектам зацятых нямецкіх контратак. Пад Варкай білася м. ін. наша танкавая брыгада імя герояў Вастэрплятэ. Ездзілі туды нашы карэспандэнты, апавядалі пра вельмі цяжкія ўмовы бітвы за раку, з пераправамі пад агнём непрыяцельскай артылерыі.

Па-другое, канешне, уся справа мела і вузка палітычныя аспекты. Паўстанне выбухнула ў момант важнейшы палітычна, чым вайскова. Мікалайчык якраз ляцеў у Маскву. Станавілася важным падкрэсліць яго ўплывы ў краі. Іначай размаўляюць з кіраўніком эміграцыйнага ўраду, іначай з тым, у чыёй уладзе сталіца краю.

Палітычныя погляды ігралі ролю напэўна і на савецкім баку. Не падлягае, аднак, сумніву, што яны былі другасныя адносна вайсковых. Калі б гэта было мажліва, здабылі б Варшаву адразу. Залішне быў важны вайсковы бок, каб праігнараваць яго, каб зрабіць на злосць лонданчыкам. Зрэшты, былі прыклады: з Вільні і з Львова; як залатвілі падобныя канфлікты, як мала лічыліся пры тым з поглядамі вузка палітычнымі.

Мы былі так заняты ўласным тварэннем у Любліне, што першыя сігналы з Варшавы наогул не дайшлі да нашай свядомасці. Неўзабаве аднак стала ясна: Варшава змагаецца. І цяпер мы, аднак, трактавалі гэта перш за ўсё, як АК-аўскае паўстанне.

Эпахальным з гэтага пункту гледжання было прыбыццё ў Люблін некалькіх дзяўчат з АЛ (Армія Людова, Народная Армія), якія паўтарылі вычын Скжэтускага, пераправіўшыся цераз Віслу і пракраўшыся праз нямецкую абарону. Тады толькі дайшло да нас, што паўстанне агульнанацыянальнае, што АЛ бярэ у тым чынны ўдзел. Пачалі энергічна прыспешваць чарговае наступленне.

Пасля няўдачных спробаў расшырэння Варацкага плацдарма, там роспачліва бараніліся перад нямецкімі контратакамі. Але ў палове верасня быў нанесены новы наш удар па нямецкім перадваршаўскім плацдарме. Першыя поспехі прывялі да таго, што ў Любліне ўсе спакаваліся, такім блізкім падалося вызваленне сталіцы. 15-га вызвалілі Прагу.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У Беластоку ў выдавецтве “Orthdruk” выйшла кніга “Нёманская бітва”, 200 ст. + ілюстр.**







**У Менску ў выдавецтве “Галіяфы” выйшаў гістарычны раман Андрэя Лютых “Битва под Острой Брамой”, 522 ст., наклад 500 ас.**




**У Менску ў выдавецтве “Логвінаў” выйшла кніга Сяргея Пясецкага “Ніхто дабром не дасць збаўлення... Менская трылогія. Кніга трэцяя”, 246 ст.**




**У Менску ў выдаўца А.М. Янушкевіча выйшла кніга Ірыны Данеўскай “Багуслаў Радзівіл. Нямецкі прынц з Вялікага Княства Літоўскага”, 684 ст., наклад 1000 ас.**

**У Менску ў выдавецтве Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі выйшла кніга Сцебуракі А.М. і Мас Ф.-А, “Лісты да Жазефіны. Ваенныя шляхі французскага афіцэра”, 137 ст.**







**У сеціве з’явіўся першы нумар электроннага краязнаўчага гістарычна-літаратурнага часопіса “Нясвіжскія каеты”, 80 ст.**



***Крыж на магіле паўстанцаў 1863 г. у былым фальварку Стрэліца Лідскага раёна. 2019 г.*** *Здымак С. Судніка.*